„Наша Доля”, 1.09.1906, № 1, с. 8; 15.09.1906, № 2, с. 8.

„Наша Ніва”, 24.11.1906, № 3; 2/15.1906, № 4; 2/15.03.1907, № 9; 11/24.03.1908, № 8; 25.04.1908, № 9; 9/22.051908, № 10; 22.05.1908, № 11.

Саламевіч Я., *Выйшлі з светлага знання сяўбою*, „Маладосць”, 1986, № 6, с. 165-166.

Суша А. А., *Філакартыя*, [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 6, кн. 2, Мінск 2003, с. 33-34.

Целеш В., *Гарады Беларусі на старых паштоўках*, Мінск 1998; 2001; 2005; 2014.

Целеш В. М., *Паштоўка*, [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі*, т. 4, Мінск 1987, с. 234-236.

Целеш В., *Паштоўка. Якой ёй быць?*, „Мастацтва Беларусі”, 1988, № 1 (61), с. 20-24.

Целеш В., *Першыя беларускія паштоўкі*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2023, nr 56, s. 105-120.

„Nasza Niwa”, 24.11.1906, № 3; 2/15.12.1906, № 4; 2/15.031907, № 9; 11/24.03.1908, № 8.




Палудзень жанцоў у Палессі

Адрасны бок паштоўкі. Прайшла пошту 15.01.1910 г.

Беларускі жыд.
Пісьмо Антона
Луцкевіча
К. Б. Шпакоўскаму




Перавоз на Дняпры. Пісьмо Рамуальда Зямкевіча Івану Луцкевічу




Адрасны бок паштоўкі. Прайшла пошту 28.12.1911 г.

Беларуская біблія XVII в.

Беларуская біблія XVII ст.

Апостол Скорыны
друкованы ў Вільні у 1525 г.

ПОЧИНАЕТЬСЯ КНИГА
ДЕЯНИЯ · И ПОСЪЛА
НИЯ АПОСТОЛЬСКАЯ ЗО
ВСЕМИ АПОСТОЛЪ, З БО
ЖИЮ ПОМОЧЬЮ СПРАВЪ
ЛЕНА ДОКТОРОМЪ ФРАНЪ
ЦИСКОМЪ СКОРИНОЮ
СПОЛОЦЬКА :-

Заглаўны ліст.

КО ЕВРЕОМЪ :-

ПОСЛАНИЕ СВЕТОГО ПАВЛА
АПОСТОЛА ХВА · ЕЖЕ НАПИСАЛЪ ЕСТЪ КНИМЪ
ЕВРЕИСКИМЪ ЯЗЫКОМЪ · ПОТОМ ПАК СВЯТЫЙ
ЛУКА ЕВАНГЕЛИСТЪ, ВЫЛОЖИЛЪ Е НАГРЕЧЕ

Пачатак 165 стр.

Апостал Скарыны.
Друкаваны ў Вільні
ў 1525 г.




Селянін з-пад Мінска




Беларускі тып. Фота І. Дзягі




Кабета
з-пад Слуцка.
Фота К. Горскага



Перэвоз у Часьніках Вітэб. губ.—Pierewoz u Čaśnikach Witeb. hub.

Pow Lepelski

Перавоз у Чашніках Віцебскай губерні



Арба валамі на Палессі.
Arba wałami na Palessi.

Арба валамі на Палессі




Белавежская пушча

1911

У кантору рэдакцыі „НАШАЕ НІВЫ".

Як толькі выйдзе „Беларускі Календар" Нашае Нівы на 1912 год, будзьце ласкавы выслаць мнѣ накладной платай ............ штук календароў, друкаваных лацінскімі (польскімі) літэрамі, і ............ штук, друкаваных рускімі, а значыць агулам ............ штук „Беларускаго Календара.

Прыналежные мне як премія ............ штук календароў вышліце разам з заказам гэтак: ............ календароў рускімі літэрамі і ............ штук лацінскімі.

Мой адрэс ............

С пашанай

Jak tolki wyjdzie «Biełaruski Kalendar» Našaje Niwy na 1912 hod, budźcie łaskawy wysłać mnie nakładnoj płataj ............ štuk kalendaroū, drukawanych łacinskimi (polskimi) literami, i ............ štuk, drukawanych ruskimi, a značyć ahułam ............ štuk Biełaruskaho Kalendara

Prynaležnyje mnie jak premija ............ štuk kalendaroū wyšlicie razam z zakazam hetak: ............ kalendaroū ruskimi literami i ............ štuk łacinskimi.

Moj adres ............

S pašanaj

Неілюстраваная паштоўка рэдакцыі газеты „Наша Ніва" выдання 1911 г.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО.
ПІСУЛЬКА — PISULKA.

ВІЛЬНА — ВІЛЬНЯ

ЗАВАЛЬНАЯ ВУЛІЦА 7.

КАНТОРА БЕЛАРУСКАЙ ГАЗЭТЫ

„НАША НІВА“.

Адрасны бок неілюстраваных паштовак

........................ дня ................................................ 191....... г.

У КАНТОРУ РЭДАКЦІІ „НАШАЙ НІВЫ“.

Як тольki выйдзе «Беларускі Календар» Нашае Нівы на 1913 год, будзьце ласкавы выслаць мне накладной платай ........................ штук календароў, друкаваныхъ лацінскімі (польскімі) літэрамі і ........................ штук, друкаваных рускімі, а значыць агулам ........................ штук «Беларускаго Календара».

Прыналежные мне як премія ............ штук календароў вышліце разам з заказам гэтак: ................ календароў рускімі літэрамі і ................ штук лацінскімі.

Мой адрэс ................................................

................................................................

С пашанай ................................................

Jak tolki wyjdzie «Biełaruski Kalendar» Našaj Niwy na 1913 hod, budźcie łaskawy wysłać mnie nakładnoj płataj ........................ štuk kalendaroŭ drukawanych łacinskimi (polskimi) i ruskimi, ........................ štuk drukawanych ruskimi, a značyć ahułam ........................ štuk «Biełaruskaho Kalendara».

Prynaležnyje mnie jak premija ............ štuk kalendaroŭ wyšlicie razam, z zakazam hetak: ................ kalendaroŭ ruskimi literam ................ štuk łacinskimi.

Moj adres ................................................

................................................................

S pašanaj ................................................

Неілюстраваная паштоўка рэдакцыі газеты „Наша Ніва” выдання 1912 г.

**Summary**

**Belarusian Postcards from the „Nasha Niva" Publishing House**

In 1907, the „Nasha Niva" publishing house was established in Vilnius, which, in addition to books and calendars, also published Belarusian postcards. Although no information about their publication has been found, the author's many years of searching and research have shown that it was the „Nasha Niva" Publishing House that published thirteen illustrated postcards in Vilnius in the years 1907-1910. The earliest discovered postcard from this series is entitled „Belarusian Jew" and is dated January 15, 1910 in the correspondence written on it and on the postmark. It is possible that the Vilnius postcards had been published earlier: in the year the publishing house was established (1907). In addition to illustrated postcards, in 1911 and 1912 the „Nasha Niva" Publishing House issued unillustrated blank postcards in Belarusian written in Cyrillic and Latin alphabet, which wer eused to order the „Belarusian Calendar".

**Keywords**: postcard, Belarusian publishing houses, „Nasha Niva", „Загляне сонца і ў наша аконца" (The Sun Will Peek into Our Window As Well).

**Streszczenie**

**Pocztówki białoruskie Wydawnictwa „Nasza Niwa"**

W 1907 r. w Wilnie powstało Wydawnictwo „Nasza Niwa", które oprócz książek i kalendarzy wydawało także pocztówki białoruskie. Choć nie odnaleziono żadnych informacji o ich publikacji, wieloletnie poszukiwania i badania autora wykazały, że to właśnie Wydawnictwo „Nasza Niwa" opublikowało w Wilnie w latach 1907-1910 trzynaście ilustrowanych pocztówek. Najwcześniej odkrytą pocztówką z tej serii jest pocztówka „Żyd białoruski" z datą 15.01.1910 w napisanej na niej korespondencji i na stemplu pocztowym. Nie wykluczone, że pocztówki wileńskie ukazały się wcześniej — w roku założenia wydawnictwa (1907).

Pocztówki wieleńskiego Wydawnictwa „Nasza Niwa" różniły się szatą graficzną, papierem i tematyką od pierwszych białoruskich pocztówek, wydanych w 1906 r. przez białoruskie wydawnictwo „Zajrzy słońce i w nasze okienko" z Petersburga. Wileńskie pocztówki ilustrowane były elementami białoruskiej etnografii, obrazkami z historii i widokami krajobrazów Białorusi. Portretów białoruskich działaczy narodowych, w odróżnieniu od petersburskich kart pocztowych, na wileńskich pocztówkach nie drukowano, ponieważ bezpośrednio po rewolucji 1905-1907 roku zaostrzono cenzurę publikacji o tematyce narodowej, zwłaszcza w miastach prowincjonalnych, takich jak Wilno. Dlatego tematyka odkrytek wileńskich różniła się od pocztówek petersburskich. Do druku ilustracji na kartkach pocztowych Wydawnictwo „Nasza Niwa" wykorzystywało klisze i zdjęcia Edmunda Nowickiego, wilnianina, wydawcy z Petersburga, o czym świadczą napisy E. Nowicki i monogram EEN na reprodukowanych na pocztówkach zdjęciach.

W trakcie badań autor odkrył, że do druku wydawnictwo wykorzystało stare nieilustrowane pocztówki poczty rosyjskiej z tekstem na stronie adresowej w języku rosyjskim, które ukazały się przed 1904 rokiem. Na stronie do korespondencji wydawnictwo nadrukowało wyłącznie ilustracje z białoruskimi napisami cyrylicą i alfabetem łacińskim

Oprócz ilustrowanych pocztówek Wydawnictwo „Nasza Niwa" w latach 1911 i 1912 wydawało nieilustrowane blankiety kart pocztowych w języku białoruskim zapisane cyrylicą i alfabetem łacińskim służące do zamawiania „Kalendarza Białoruskiego".

Pocztówki wileńskiego Wydawnictwa „Nasza Niwa" ukazały się po petersburskiej serii pocztówek z 1906 roku. W okresie pierwszego odrodzenia białoruskiego pocztówki popularyzowały białoruską historię, etnografię i język ojczysty. Historia ich publikacji to jedna z kart historii białoruskiego państwa narodowego.

**Słowy kluczowe:** odkrytka, kartka pocztowa, pocztówka, widokówka, wydawnictwa białoruskie „Nasza Niwa" i „Zajrzy słońce i w nasze okienko".

**Wiaczka Cielesz (Wiaczasław Cielesz)** — artysta, magister sztuki, regionalista, filokartysta, badacz historii białoruskich pocztówek. Autor książek: *Мінск на старых паштоўках* (Мінск 1984), *Гарады Беларусі на старых паштоўках* (Мінск 2014), *Rīga. Senajās atklātnes* (Riga 1991), *Адсюль наш род, тут мой прычал* (Мінск 2013) i monografii w języku łotewskim i białoruskim *Baltkrievu mākslinieki Latvijā / Беларускія мастакі ў Латвіі 1920-1991* (Riga 2020). Autor broszur i publikacji w pracach zbiorowych, magazynach i gazetach na temat historii i sztuki Białorusi i Łotwy. Mieszka w Rydze.

**Васіль Варонін**
(Мінск)

# Міжваенная польская гістарыяграфія Вялікага Княства Літоўскага: важнейшыя асяродкі і асноўныя напрамкі даследаванняў[1]

Польская гістарычная навука здаўна традыцыйна надавала павышаную ўвагу Вялікаму Княству Літоўскаму. І гэта цалкам зразумела — чатырыста гадоў саюза Польскай Кароны і Вялікага Княства зрабілі вельмі блізкай ці нават супольнай і саму гісторыю гэтых краін. Дваццатыя — трыццатыя гады XX стагоддзя сталі адной з вяршынь у працяглай традыцыі вывучэння польскімі вучонымі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Больш за тое, у названы перыяд менавіта польскія вучоныя ішлі ў авангардзе гэтых даследаванняў, моцна апярэджваючы ўсе даследчыцкія цэнтры, якія існавалі ў той час у іншых краінах. Мэты гэтага артыкула — вызначыць самыя важныя асяродкі вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і акрэсліць галоўныя шляхі развіцця яго гістарыяграфіі ў міжваеннай Польшчы. Канешне, у межах гэтай невялікай публікацыі немагчыма раскрыць усё багацце і разнастайнасць заяўленай вельмі шырокай праблемы, таму гэты артыкул трэба разглядаць толькі як уступную працу для далейшых больш паглыбленых і больш дэталізаваных даследаванняў у азначаным накірунку.

Перш чым пераходзіць непасрэдна да перыяду, якому прысвечана гэтая праца, трэба сказаць некалькі слоў пра стан праблемы на этапе, які непасрэдна яму папярэднічаў. На працягу практычна ўсяго дзевятнаццатага стагоддзя польская гістарыяграфія займала вядучыя пазіцыі ў вывучэнні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і ў канцы стагоддзя магла ўжо цалкам абгрунтавана пахваліцца вялікімі дасягненнямі ў гэтай галіне. Асабліва моцнымі выглядалі львоўскі і кракаўскі даследчыцкія асяродкі, якія спецыялізаваліся пераважна на эпосе Сярэднявечча і ранняга Новага часу. У абодвух гарадах дзейнічалі ўніверсітэты, працавалі навуковыя таварыствы, існавалі багатыя бібліятэчныя і архіўныя зборы, выходзілі часопісы і іншыя спецыялізаваныя

[1] Артыкул прафінансаваны Нацыянальным агенцтвам акадэмічнага абмену (NAWA) у рамках праграмы „Салідарныя з вучонымі 2021”, ініцыятыва „Салідарныя з Беларуссю”, дамова № BPN/SZN/2021/1/00039/U/DRAFT/00001.

выданні, якія станавіліся важнейшымі пляцоўкамі для публікацыі і абмеркавання вынікаў даследаванняў. Яшчэ ў другой палове XIX ст. у Львове склалася вельмі моцная школа медыевістыкі. Канешне, у цэнтры яе ўвагі знаходзілася старадаўняе Каралеўства Польскае, але тутэйшыя гісторыкі праяўлялі немалую зацікаўленасць і Вялікім Княствам Літоўскім — асабліва тымі сюжэтамі, якія звязвалі яго гісторыю з гісторыяй Польшчы. У Кракаве навуковую працу каардынавала вельмі аўтарытэтная Акадэмія ўменняў, якая была створана ў 1872 годзе. Яе галоўны перыёдык — „Сачыненні Акадэміі ўменняў" („Rozprawy Akademii Umiejętności") — стаў адным з самых важных навуковых выданняў у падзеленай Польшчы. Там было апублікавана нямала важнейшых матэрыялаў, якія датычыліся Вялікага Княства Літоўскага.

У апошняй чвэрці XIX ст. польская гістарыяграфія сутыкнулася з вельмі адчувальнай канкурэнцыяй з боку расійскай, а потым і ўкраінскай гістарычнай навукі. У гэты час там з'явіліся свае, прычым вельмі добрыя спецыялісты ў галіне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. У два першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя расійская і ўкраінская навука хутка прагрэсіравалі. Там падрастала новае, маладое пакаленне вучоных, пашыралася тэматыка даследаванняў.

Напярэдадні Першай усясветнай вайны ў Львове і Кракаве ўжо існавала моцная навуковая база, на якой грунтаваліся далейшыя штудыі па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Тэматычна яны ахоплівалі некалькі галін, але асабліва паспяхова развіваліся гісторыка-прававыя даследаванні і дапаможныя гістарычныя дысцыпліны. Адметна, што менавіта ў Львове з 1908 г. друкаваўся часопіс „Геральдычны Штомесячнік" („Miesięcznik Heraldyczny"), які надаваў вельмі шмат увагі праблематыцы Вялікага Княства. Перыёдык выходзіў да 1915 года, калі яго выданне перапыніла вайна. Паралельна таксама з 1908 года выходзіў „Штогоднік Геральдычнага Таварыства ў Львове" („Rocznik Towarzystwa Heraldycznego we Lwowie"). Сярод манаграфічных прац па гісторыі заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага, аўтарамі якіх былі львоўскія даследчыкі, можна назваць дзве манаграфіі Пшэмыслава Дамбкоўскага, прысвечаныя прававому становішчу замежнікаў і правам уласнасці на зямлю ў гэтай дзяржаве[2]. У Кракаве традыцыйнай была зацікаўленасць палітычнай гісторыяй, і асаблівае месца тут займала тэма уніі Кароны і Вялікага Княства Літоўскага.

[2] P. Dąbkowski, *Stanowisko cudzoziemców w prawie litewskim w drugiej połowie XV i w XVI wieku (1447-1588)*, Lwów 1912; ён жа, *Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskim od XIV do XVI wieku*, Lwów 1916.

У 1914 годзе выйшла спецыяльная калектыўная манаграфія, прысвечаная гістарычным сувязям Польшчы і Літвы[3]. Яе аўтарамі былі амаль што выключна кракаўскія і львоўскія вучоныя, і вельмі значнае месца ў ёй заняло пытанне уніі. Гэтая праца стала важнейшым, этапным дасягненнем у вывучэнні ўзаемаадносін Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, а яе ўзровень і сёння цяжка пераўзысці. Такім чынам, напярэдадні Першай усясветнай вайны Львоў і Кракаў фактычна былі вядучымі асяродкамі даследаванняў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў Польшчы.

Іншыя цэнтры польскай навукі, якія існавалі да Першай усясветнай вайны, выглядаюць значна слабейшымі. Сярод даследчыкаў Вялікага Княства Літоўскага, якія працавалі ў Варшаве, можна назваць хіба што Фёдара Леантовіча і Яна Якубоўскага. І зразумела, што працы першага з іх ніяк нельга аднесці да польскай гістарыяграфіі. Варта адзначыць таксама Вільню, дзе ў 1906 годзе было заснавана Таварыства сяброў навук (Towarzystwo Przyjaciół Nauk w Wilnie) — важны навуковы асяродак, які арганізаваў вакол сябе мясцовую польскую навуковую і культурную грамадскасць. Але адначасова тут плённа працавала Віленская археаграфічная камісія, створаная расійскім урадам. І дзякуючы ёй Вільня стала важным цэнтрам архіўнай справы і выдання гістарычных крыніц у Расійскай імперыі.

Калі паглядзець на стан польскай гістарыяграфіі напярэдадні аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці, дык можна заўважыць, што гісторыя Вялікага Княства Літоўскага займала там не такое ўжо вялікае месца на фоне даследаванняў па гісторыі Польшчы. Сярод кракаўскіх і львоўскіх вучоных, якія займаліся Вялікім Княствам, практычна не было вузкіх спецыялістаў менавіта ў гэтай галіне, бо ўсе яны актыўна займаліся і іншымі, шырэйшымі праблемамі, якія датычыліся ледзь не ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Калі Ян Караль Каханоўскі незадоўга да аднаўлення незалежнасці Польшчы ў лістападзе 1918 года абазначыў прыярытэты развіцця польскай гістарычнай навукі, сярод іх не было гісторыі Вялікага Княства Літоўскага[4].

Праўда, адначасова абазначылася і іншая пазіцыя, якую выказаў яшчэ адзін вядомы польскі гісторык — Уладзіслаў Сэмковіч. На старонках таго самага выдання, дзе надрукаваў свой цытаваны вышэй артыкул Я. К. Каханоўскі, ён выказаў заклапочанасць тым, што ў галіне

[3] *Polska i Litwa w dziejowym stosunku*, Warszawa [etc.] 1914.

[4] J. K. Kochanowski, *O potrzebach nauki polskiej w zakresie historii*, „Nauka Polska. Jej Potrzeby, Organizacja i Rozwój” (далей: „Nauka Polska”), Warszawa 1918, t. 1, s. 235.

даследаванняў гісторыі „Літвы і Русі” польская навука адчувае моцную канкурэнцыю з боку замежных, у першую чаргу расійскіх вучоных. Вось чаму яна павінна пашыраць свае даследаванні на гэтую галіну, і менавіта польскай гістарыяграфіі павінен належаць тут прыярытэт[5]. Калі адрадзілася незалежная польская дзяржава, у яе склад увайшоў Віленскі край, і гэта адразу абвастрыла адносіны Польшчы і Літвы. У сувязі з гэтым важнасць тэматыкі Вялікага Княства Літоўскага для Польшчы рэзка ўзрасла, а думкі Сэмковіча аказаліся надзвычай актуальнымі. У 1919 годзе іншы вядомы спецыяліст, Казімір Тымянецкі, прапаноўваў засноўваць у зноў створаных польскіх універсітэтах і кафедры гісторыі Літвы, якія б займаліся таксама праблемамі Усходняй Еўропы[6].

Адначасова польскія вучоныя сфармулявалі таксама сваю прынцыповую пазіцыю па важнейшым пытанні пра ўзаемаадносіны дзяржавы і навукі. Свой канцэптуальны погляд на пажаданыя ўмовы развіцця гістарычнай навукі ў адноўленай Рэчы Паспалітай польскай выказаў адзін з найлепшых медыевістаў Станіслаў Кутшэба, які займаўся і праблематыкай Вялікага Княства Літоўскага. У 1920 годзе ён пісаў: „Дзяржава павінна, дзеля свайго ўласнага інтарэсу, клапаціцца пра навуку; але клопат не трэба замяняць апекай. Яна павінна забяспечыць выхаванцу сродкі, але не павінна вадзіць яго за руку. Гісторыя паказала, што думка, якая ёсць творцай навукі, можа разрастацца толькі на вольным паветры; любая занадта клапатлівая дзяржаўная апека прыводзіла да выраджэння навукі. *Spiritus flat ubi vult* (Вецер вее, куды хоча) — а калі хочацца раздзьмухваць яго ў пэўным напрамку (дзяржава ж мае міжвольную тэндэнцыю выпрацоўваць свой накірунак), дык творы будуць такія, як — у іншай галіне творчасці духу — славутая берлінская Зігесалее”[7]. Як відаць, погляд, які выказаў С. Кутшэба, з’яўляецца ліберальным па сваёй сутнасці.

[5] W. Semkowicz, *Potrzeby w zakresie nauk pomocniczych historii*, „Nauka Polska”, 1918, t. 1, s. 296-297.

[6] K. Tymieniecki, *Uwagi o niektórych potrzebach historii w Polsce i o warunkach jej dalszego rozwoju*, „Nauka Polska”, 1919, t. 2, s. 169.

[7] S. Kutrzeba, *Nauka a państwo*, „Nauka Polska”, 1920, t. 3, s. 85 („Powinno więc państwo w opiekę wziąć naukę we własnym jego interesie; opieki jednak nie powinno zmieniać w kuratelę. Ma ono zapewnić pupilowi środki, ale za rękę nie powinno go prowadzić. Wykazały dzieje, iż myśl, która jest nauki twórcą, może rozrastać się tylko w wolnym powietrzu; wszelkie zbyt troskliwe opieki państwowe prowadziły do zwyrodnienia nauki. Spiritus flat ubi vult — a jeśli go się chce rozdmuchiwać w pewnym kierunku (państwo zaś ma mimowolną tendencję urabiania swego kierunku), to twory będą takie, jak — w innym zakresie twórczości ducha — słynna berlińska Siegesallee”).

Пасля рэвалюцыйных падзей 1917 года ў Расіі сітуацыя ў тамтэйшай гістарычнай навуцы кардынальным чынам змянілася, і гэтыя змяненні закранулі ледзь не ўсе яе сферы. Што датычыцца гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, дык у СССР у 1920-1930-я гг. цікавасць да яе была невялікай, і, як вынік, савецкая гістарыяграфія не магла пахваліцца нейкімі асаблівымі дасягненнямі ў гэтай галіне. У Маскве і Петраградзе / Ленінградзе гэты накірунак даследаванняў быў занядбаны і практычна не развіваўся. Праўда, прыкметная праца па азначанай праблематыцы была разгорнута ў Кіеве і Мінску. Пасля ўзнікнення незалежнай літоўскай дзяржавы ў ёй таксама пачалося актыўнае вывучэнне гісторыі Вялікага Княства. Украінская гістарычная школа на той час ужо мела сваю ўласную традыцыю даследаванняў і здабыткі, а вось беларуская і літоўская нацыянальныя школы былі яшчэ вельмі маладымі і толькі набіралі сілы.

На такім фоне развіваліся польскія даследаванні ў галіне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 20-30-я гг. XX ст. Увогуле можна канстатаваць, што польская навука здолела ў гэты час вярнуць сабе бясспрэчна вядучыя пазіцыі ў акрэсленай сферы і дасягнуць новых вышынь, хоць гэты працэс праходзіў не заўсёды гладка.

Першая ўсясветная вайна і звязаныя з ёй вялікія змяненні на палітычнай карце Цэнтральна-Усходняй Еўропы, канешне, ускладнілі і прыпынілі, але зусім не перарвалі навуковую працу ў Польшчы. Вывучэнне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага захавала сваю пераемнасць з ранейшым перыядам — і па актуальнай праблематыцы, і па ўзроўні, і па асабістым складзе вучоных, якія працягнулі свае ранейшыя штудыі. Па вялікім рахунку, навуковыя даследаванні тут ніколі і не перарываліся. Яны працягваліся нават у вельмі цяжкі ваенны час і першыя пасляваенныя гады. Канешне, гэты перыяд меў свае адметнасці. Прыкметна зменшылася агульная колькасць публікацый, а таксама змяніліся іх акцэнты — галоўным чынам у бок папулярызацыі тэмы і забеспячэння навуковымі і навукова-папулярнымі публікацыямі востра актуальных палітычных патрэб. Але нават у гэтыя складаныя гады выходзілі салідныя даследаванні, якія доўгі час уплывалі на навуку ды і сёння працягваюць захоўваць сваю каштоўнасць.

Міжваенная польская гістарыяграфія разглядала гісторыю Вялікага Княства Літоўскага ці Літвы, а так таксама часта называлі гэтую дзяржаву, як частку гісторыі Польшчы. Гэта добра прасочваецца па літаратуры — напрыклад, па важным двухтомніку, прысвечаным палітычнай гісторыі Польшчы, які выйшаў на пачатку 20-х гадоў[8]. Такі самы падыход

[8] *Historia polityczna Polski*, cz. 1-2, Warszawa [etc.] 1920-1923.

быў выкарыстаны ў школьным падручніку 1925 года. Яго аўтар Генрык Пашкевіч пісаў у прадмове, што цяпер, калі Польшча будуе новае жыццё ва ўсіх сферах, трэба ўказваць моладзі новыя мэты, новыя арыенціры. І тут, на думку гісторыка, вельмі важна паказваць маладым людзям не толькі змрок няволі і мучаніцтва продкаў, але і светлыя, вялікія часы нацыянальнай гісторыі. Відавочна, менавіта з гэтых меркаванняў ён зыходзіў, калі назваў найважнейшымі эпохамі гісторыі Польшчы канец XVIII і ўсё XIX стагоддзе, а таксама ягелонскі перыяд[9].

У 20-30-я гг. XX ст. кракаўска-львоўскі асяродак працягваў захоўваць свой высокі статус і вялікае значэнне для польскай гістарычнай навукі. У тамтэйшых выданнях працягвалі публікавацца матэрыялы, якія прама датычыліся Вялікага Княства Літоўскага. Гэтаму спрыяла аднаўленне там перыядычных выданняў, якія пачалі выходзіць яшчэ ў даваенны час. З 1930 і да 1939 года зноў выходзіў „Геральдычны Штомесячнік" („Miesięcznik Heraldyczny"). У час досыць працяглага перапынку, які быў выкліканы вайной і далейшай нестабільнай сітуацыяй, як замена штомесячніка нерэгулярна выходзілі нумары (пяты, шосты і сёмы) „Штогодніка Геральдычнага Таварыства ў Львове" („Rocznik Towarzystwa Heraldycznego we Lwowie"). У дваццатыя гады штогоднік выходзіў у Кракаве, хоць месцам выдання першых чатырох тамоў, якія былі надрукаваны яшчэ да вайны, быў Львоў. Але ідэалогія і форма выдання не змяніліся. Першапачаткова і штомесячнік, і штогоднік былі выданнямі Геральдычнага таварыства ў Львове (Towarzystwo Heraldyczne we Lwowie), дзе і выходзілі. Гэта арганізацыя доўгі час была фактычна галоўным геральдычным таварыствам на польскіх землях. На сёмым томе выданне штогодніка спынілася, а вось штомесячнік пасля пятнаццацігадовага перыпынку стаў выходзіць у Варшаве, ужо як перыёдык Варшаўскага аддзялення Польскага геральдычнага таварыства (Organ Polskiego Towarzystwa Heraldycznego, wydawany przez Oddział Warszawski). Таксама адзначым, што рэдактарамі штомесячніка былі вучоныя, якія самі шчыльна займаліся праблематыкай Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку гэта быў Уладзіслаў Сэмковіч, а потым — Оскар Галецкі, Юзаф Пузына і Зыгмунт Удавішэўскі. Штогоднік рэдагаваў Ул. Сэмковіч. Галоўная ўвага ў штомесячніку надавалася геральдыцы, генеалогіі і сфрагістыцы палітычных і грамадскіх эліт. У выпадку Вялікага Княства Літоўскага гэта былі князі і літоўскае баярства.

[9] H. Paszkiewicz, *Dzieje Polski*, cz. 2: *Czasy Jagiellonów. Podręcznik szkolny*, Warszawa 1925, s. V-VI.

Але ўжо ў вельмі хуткім часе пасля 1918 года сітуацыя з размяшчэннем вядучых навуковых цэнтраў, якія займаліся Вялікім Княствам Літоўскім, пачала прыкметна мяняцца. Вялікую ролю ў гэтым адыграла аднаўленне Віленскага ўніверсітэта ў 1919 годзе. Гэта была вельмі важная падзея для развіцця адукацыі і навукі на ўсходніх землях польскай дзяржавы, аднак існавалі і праблемы. Адной з самых вострых было тое, што ў новым універсітэце востра стаяла праблема з кадрамі, якіх не хапала.

Практычна ўся прафесура, якая на працягу 1919-1939 гадоў прыехала на працу ў Вільню і займалася (ці, хутчэй, працягвала займацца) тут гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, раней была шчыльна звязана з Кракавам ці з Львовам. Ягелонскі ўніверсітэт скончылі Фелікс Канэчны, Станіслаў Касцялкоўскі і Казімір Хадыніцкі, Львоўскі — Людвік Калянкоўскі, Тэафіль Мадэльскі і Ян Адамус. Некаторыя з іх яшчэ да пераезду ў Вільню паспелі папрацаваць у якасці выкладчыкаў у сваіх *alma mater*, а Людвік Калянкоўскі і Ян Адамус сумяшчалі працу ў сваім старым і новым універсітэтах. З гэтага шэрагу выхадцаў з поўдня вылучаецца хіба толькі постаць Стэфана Эрэнкройца, які вучыўся ў Варшаўскім універсітэце (праўда, не скончыў яго, пакінуўшы ў выніку рэвалюцыйных падзей 1905 года), а завяршаў сваю адукацыю ў Вене і Лейпцыгу. У Вільню ён прыехаў у 1920 годзе з польскай сталіцы, дзе кароткі час выкладаў у Варшаўскім універсітэце[10].

Віленскі ўніверсітэт вельмі хутка стаў сапраўдным цэнтрам навуковага жыцця, у якім бралі ўдзел як яго выкладчыкі, так і студэнты. Тут з цягам часу была створана кафедра гісторыі Усходняй Еўропы. На гуманітарным факультэце з 1919 года дзейнічаў гістарычны семінар[11], а з 1934 года на факультэце права і грамадскіх навук пачаў працаваць семінар (*studium*) гісторыі літоўскага права. Заўважым, што ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта захоўваюцца важныя архіўныя матэрыялы, якія датычацца працы другога з названых навуковых семінараў. Гэта, перш за ўсё, спецыяльны фонд „Калекцыя дакументаў семінара гісторыі права Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторыя”[12]. Ён выдатна ілюструе дзейнасць семінара. Справа ў тым, што яго ўдзельнікі займаліся не толькі тэарэтычным вывучэннем гісторыі права. Яны таксама мэтанакіравана збіралі гістарычныя дакументы, якія на той час усё яшчэ захоўваліся ў сем’ях на Віленшчыне і ў іншых

10 *Słownik historyków polskich*, Warszawa 1994, s. 17-18, 77, 125, 236, 240-241, 251-252, 358.

11 *Księga pamiątkowa ku uczczeniu CCCL rocznicy założenia i X wskrzeszenia Uniwersytetu Wileńskiego*, t. 2, Wilno 1929, s. 167-169.

усходніх ваяводствах польскай дзяржавы. У склад гэтай вялікай (2534 адзінкі захавання) калекцыі ўвайшлі арыгіналы, а таксама рукапісы і фотакопіі гістарычных дакументаў 1500-1930-х гг.

Увогуле ж, пачынаючы з 1919 года Вільня стала пастунова пераўтварацца ў галоўны цэнтр даследавання гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў маштабах усёй Другой Рэчы Паспалітай. Канешне, сваю ролю ў гэтым адыгралі палітыка-геаграфічнае размяшчэнне горада і яго мінулы статус сталіцы гэтай дзяржавы. Але важную ролю адыграў і той факт, што ў горадзе ўжо існавала пэўная навуковая база ў гэтай галіне ведаў. Ужо досыць працяглы час плённа працавала Таварыства сяброў навук у Вільні. У 1923 годзе трэці аддзел гэтага таварыства, які займаўся гісторыяй, філасофіяй і юрыдычна-грамадскімі навукамі, пачаў выдаваць навуковы часопіс „Ateneum Wileńskie". Ён быў спецыяльна „прысвечаны даследаванням мінулага зямель Вялікага Княства Літоўскага". За шаснаццаць гадоў існавання ён апублікаваў вельмі шырокі спектр важнейшых матэрыялаў па гісторыі Вялікага Княства, сярод якіх артыкулы, рэцэнзіі, палемічныя матэрыялы, бібліяграфічныя спісы і г.д.[13] Адзначым, што захаваліся рукапісы, якія былі перададзены ў рэдакцыйны партфель часопіса, але так і не былі надрукаваны ў сувязі з пачаткам Другой усясветнай вайны[14]. Сярод іх уяўляе цікавасць, напрыклад, палемічны адказ Юзафа Пузыны „Да пытання пра Барыса — Альгімунта Кейстутавіча" („W sprawie Borysa — Olgimunta Kiejstutowicza")[15], які ён даў Генрыку Пашкевічу ў межах вострай дыскусіі, што разгарнулася паміж імі на старонках таго ж часопіса ў 1938 годзе[16]. Часопіс „Ateneum Wileńskie" стаў галоўным профільным выданнем па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў Польшчы. З ім супрацоўнічалі аўтары з усёй краіны. Натуральна, што выданне падтрымлівала самыя шчыльныя сувязі з Віленскім універсітэтам. Яго прафесары і выкладчыкі былі сталымі аўтарамі часопіса, а першым рэдактарам выдання быў прафесар універсітэта К. Хадыніцкі.

Апрача дзвюх ужо названых навуковых устаноў, у 1930 годзе ў Вільні быў заснаваны яшчэ Навукова-даследчы інстытут Усходняй Еўропы. У яго структуру ўваходзіла, у тым ліку, гістарычна-прававая секцыя.

12 Vilniaus Universiteto Biblioteka, Rankraščių skyrius, F-67.

13 Падрабязнае бібліяграфічнае апісанне зместу часопіса за ўвесь перыяд яго выдання з 1923 г. па 1939 г., гл.: H. Łowmiański, *Bibliografia zawartości „Ateneum Wileńskiego"*, „Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej", 1983, z. 20, s. 227-259.

14 Lietuvos valstybės istorijos archyvas, f. 1135, ap. 22, nr 253.

15 Там жа, l. 70-76v.

16 „Ateneum Wileńskie", 1938, R. 13, z. 2, s. 1-68, 334-347.

Адначасова са стварэннем Інстытута пры ім пачала дзейнічаць Вышэйшая школа, якая з 17 кастрычніка 1932 года мела статус вышэйшай навучальнай установы. Праўда, Інстытут Усходняй Еўропы з самага пачатку быў арыентаваны пераважна на найноўшую гісторыю і паліталагічныя праблемы. У сучаснай польскай гістарыяграфіі яго разглядаюць як навуковую арганізацыю, якая займалася ў першую чаргу саветалагічнымі даследаваннямі[17]. Сапраўды, вывучэнне Савецкага Саюза займала вялізнае месца ў яго працы, што вельмі добра відаць на прыкладзе матэрыялаў, якія былі апублікаваны ў двух штогодніках інстытута[18]. Але не трэба забывацца і пра іншыя напрамкі яго працы — напрыклад, літуаністыку ў самым шырокім яе разуменні, у тым ліку культурную і лінгвістычную. Што ж датычыцца гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, дык яна таксама была прадстаўлена ў навуковых публікацыях Інстытута Усходняй Еўропы. Тым не менш, яна яўна не належала да яго галоўнай тэматыкі. Такім чынам, Вільня стала ў міжваеннай Польшчы не толькі галоўным асяродкам вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, яна ператварылася там у вядучы цэнтр усходніх даследаванняў увогуле. Але Вільня стала фактычна адзіным такім цэнтрам у Другой Рэчы Паспалітай. Яшчэ трэба мець на ўвазе, што развіццё навуковага накірунку, пра які ідзе гаворка, па-ранейшаму моцна залежала ад канкрэтных спецыялістаў, а яны маглі жыць і працаваць у самых розных гарадах і ўстановах. У дадатак да гэтага, яны былі досыць мабільнымі людзьмі і нярэдка мянялі месца сваёй працы і жыхарства.

Агульнае ўяўленне пра важнейшыя напрамкі вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў міжваенны перыяд у Польшчы дае пералік кніжных публікацый, змешчаны ў дадатку да артыкула. Таксама з яго добра відаць, што па сваім характары гэта былі самыя розныя выданні: навуковыя, навукова-папулярныя, навучальныя і іншыя.

Варта заўважыць, што віленскі цэнтр не проста працягваў распрацоўваць старую традыцыйную палітычную, ваенную і царкоўную праблематыку гісторыі Вялікага Княства. Ужо ў вельмі хуткім часе паралельна з добра вядомымі тэмамі тут пачалі развівацца таксама новыя накірункі даследаванняў — сацыяльная гісторыя і гісторыя гаспадаркі, самыя розныя аспекты гісторыі гарадоў і іншыя. Такому павароту ў гістарыяграфіі

17 M. Kornat, *Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej w Wilnie (1930-1939) i jego wkład w rozwój polskiej sowietologii*, „Kwartalnik Historyczny", 2000, R. 107, z. 3, s. 43-89.

18 „Rocznik Instytutu Naukowo-Badawczego Europy Wschodniej", Wilno 1933-1934, t. 1-2.

моцна паспрыяў той факт, што акурат у дваццатыя гады ў навуку прыйшло новае пакаленне гісторыкаў — Генрык Пашкевіч, Генрык Лаўмяньскі, Ян Адамус, Севярын Высловух і іншыя. У Вільні гэты напрамак запачаткаваў і вельмі плённа працаваў у ім Г. Лаўмяньскі. Яго можна смела назваць галоўным прадстаўніком гэтай гістарыяграфічнай плыні. Напрыклад, ужо ў сваёй праграмнай двухтомнай працы, якая была прысвечана станаўленню літоўскага грамадства і дзяржавы (гл. дадатак), ён шчыльна звязаў паміж сабой сацыяльныя працэсы і ўзнікненне дзяржаўнасці на літоўскіх землях, прычым на першае месца паставіў менавіта працэс фарміравання грамадства. У далейшым ён вывучаў таксама гаспадарку, у тым ліку гандаль. Да новай тэматыкі пераходзілі і іншыя вучоныя. Так, напрыклад, Отан Гэдэман выдаў манаграфію пра лясныя і водныя рэсурсы Вялікага Княства Літоўскага, а Севярын Высловух — пра шляхі камунікацыі ў яго магдэбургскіх гарадах (гл. дадатак). Заўважым, што гэтыя напрамкі даследаванняў, якія закранулі ў першую чаргу эканамічную і сацыяльную гісторыю, сталі новымі не толькі для гістарыяграфіі Вялікага Княства Літоўскага. Акурат у міжваеннае дваццацігоддзе на іх пачала звяртаць самую пільную ўвагу польская гістарычная навука ўвогуле. Напрыклад, з 1931 года ў Львове пачало выходзіць новае перыядычнае выданне „Штогоднікі сацыяльнай і эканамічнай гісторыі" („Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych").

Але, канешне, і традыцыйныя тэмы даследаванняў зусім не былі забытыя. Як і ў даваенны перыяд, востраактуальнай была праблема уніі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Яе рэгулярна абмяркоўвалі ў навуковых даследаваннях і закраналі ледзь не ва ўсіх публікацыях на гістарычную тэматыку. На працягу міжваеннага дваццацігоддзя па гэтай праблеме выказваліся практычна ўсе віднейшыя спецыялісты ў галіне гісторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага перыяду позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу: Оскар Халецкі, Освальд Бальцар, Ян Якубоўскі, Людвік Калянкоўскі, Генрык Лаўмяньскі, Ян Адамус, Генрык Пашкевіч і іншыя. У трыццатых гадах паміж Г. Лаўмяньскім і Г. Пашкевічам разгарнулася вострая дыскусія адносна характару крэўскага пагаднення 1385 года. У літаратуры не так даўно быў дадзены і падрабязны агляд гістарыяграфіі уніі ў часы Другой Рэчы Паспалітай, а таксама даследчыцкіх цэнтраў, якія займаліся ў той час гэтай праблемай[19]. Праўда, вылучаючы варшаўскі, львоўскі, віленскі і кракаўскі цэнтры, Анна Чарнецка-Габэрка не здолела

[19] A. Czerniecka-Haberko, *Unie polsko-litewskie w historiografii polskiej*, Toruń 2013, s. 205-258.

давесці існаванне апошняга з іх, бо ўсе факты, якія яна прывяла для падмацавання гэтага свайго меркавання, належаць яшчэ да пачатку XX стагоддзя.

Важным напрамкам вывучэння была гісторыя асобных гарадоў і зямель у перыяд, калі яны ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. У выніку з'явіўся даволі вялікі пералік прац: манаграфій, тэматычных зборнікаў, артыкулаў, публікацый крыніц, якія былі прысвечаны тым ці іншым рэгіёнам. Канешне, не ўсе тэрыторыі былі ахоплены такімі даследаваннямі ў аднолькавай ступені. І тут на агульным фоне асабліва вылучаецца дзейнасць Атона Гэдэмана. У 1930-1935 гадах ён выпусціў чатыры кніжкі, у якіх прадставіў гісторыю колішняга Браслаўскага павета, а таксама размешчаных паблізу горада Дзісны і мястэчка Глыбокага.

Як і раней, вельмі важнае месца ў гістарыяграфіі Вялікага Княства Літоўскага займала гісторыя права гэтай дзяржавы. Акрамя асобных публікацый, якія раз-пораз выходзілі з друку, было задумана і рэгулярнае выданне — альманах „Навіны семінара гісторыі літоўскага права"[20]. Як можна зразумець з назвы, яно стала вынікам дзейнасці названага семінара, выпуск яго здзяйсняўся на базе факультэта права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта, а рэдактарскі абавязак узяў на сябе Стэфан Эрэнкройц. У 1938 годзе выйшаў першы том альманаха, але ўжо ў наступным годзе гэты перспектыўны праект быў спынены вайной — як аказалася, назаўжды.

Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага быў прысвечаны шэраг навукова-папулярных і навучальных выданняў. Гэта былі як артыкулы, так і кніжкі. Большасць кніг выйшла ў канцы 1910-х — першай палове 1920-х гг., калі ў грамадстве ішло асабліва актыўнае абмеркаванне гістарычнага лёсу, тагачаснага становішча і будучыні „ўсходніх ускраін" польскай дзяржавы. Аўтарамі ўсіх іх былі вядомыя спецыялісты-гісторыкі, якія пакінулі глыбокі след і ў навуковым вывучэнні Вялікага Княства, — Ян Дамброўскі, Станіслаў Заянчкоўскі, Фелікс Канэчны, Генрык Масціцкі, Ян Обст, Ян Якубоўскі і іншыя (гл. дадатак).

У рамках серыі школьных дапаможнікаў „Тэксты крыніц для навучання гісторыі ў сярэдняй школе" Я. Дамброўскі і Ф. Канэчны выпусцілі дзве брашуркі, у якіх было асветленае пытанне ўзаемаадносін Кароны і Вялікага Княства, і ў першую чаргу іх уніі (гл. дадатак). Укладальнікі сабралі там у перакладах тэксты найбольш важных і цікавых гістарычных крыніц па тэме.

20 „Wiadomości Studium Historii Prawa Litewskiego", Wilno 1938, t. 1.

Ужо ў канцы 1910-х гг. польская навуковая супольнасць зусім абгрунтавана прызнала найважнейшай умовай паспяховага вывучэння гісторыі Вялікага Княства Літоўскага маштабнае выданне крыніц. Сапраўды, у той час дакументы па гісторыі Вялікага Княства былі раскіданы па дзясятках выданняў — пераважна старых і рэдкіх, узровень якіх, у дадатак, ужо не адпавядаў патрабаванням тагачаснай навукі. У 1918-1919 гг. такія вядомыя вучоныя, як Освальд Бальцар, Уладзіслаў Сэмковіч, Оскар Халецкі ў сваіх публікацыях канстатавалі, што адной з ключавых задач польскай навукі з'яўляецца як мага хутчэйшае выданне Кодэкса грамат даўняй Літвы, г.зн. Вялікага Княства Літоўскага[21]. У 1925 годзе на IV Усеагульным з'ездзе польскіх гісторыкаў Станіслаў Заянчкоўскі выступіў з ініцыятывай выдання Кодэкса ўсяго актавага матэрыялу па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага да 1386 года[22]. Як відаць, спачатку гаворка ішла толькі пра найдаўнейшыя матэрыялы, але паступова храналагічныя рамкі запланаванага збору дакументаў сталі пашырацца. Напрыклад, О. Халецкі выношваў ідэю падрыхтоўкі выдання, за якім замацавалася рабочая назва „Кодэкс грамат Ягелонаў" („Kodeks dyplomatyczny Jagiellonów"). Нарэшце, на пачатку 1930-х гг. Ян Адамус узяўся за працу па падрыхтоўцы „Кодэкса грамат Літвы" („Kodeks dyplomatyczny Litwy"). У гэтым выданні ён намерваўся змясціць усе самыя старажытныя дакументы па гісторыі Літвы і Вялікага Княства Літоўскага[23]. Пасля абмеркавання праекта ў коле спецыялістаў аўтар вырашыў абмежаваць храналогію запланаванага збору 1440 годам. Паралельна Адамус збіраўся выдаць увесь корпус эпісталярнай спадчыны Вялікага Княства да 1492 года[24]. Прыблізна ў тыя самыя гады С. Эрэнкройц рыхтаваў да выдання Першы Статут Вялікага Княства Літоўскага. Як і любая археаграфічная праца, справа падрыхтоўкі да выдання гэтых вялікіх збораў гістарычных крыніц патрабавала шмат часу і прасоўвалася вельмі марудна.

[21] O. Balzer, *O potrzebach nauki w zakresie historii prawa polskiego*, „Nauka Polska", 1918, t. 1, s. 249-250; W. Semkowicz, *Potrzeby w zakresie nauk pomocniczych historii*, „Nauka Polska", 1918, t. 1, s. 297; O. Halecki, *Potrzeby naukowe w zakresie wydawnictw źródłowych do dziejów Polski*, II. *Okres jagielloński*, „Nauka Polska", 1919, s. 203.

[22] S. Zajączkowski, *Stan badań nad dziejami Litwy przed 1386 r.*, [у:] *Pamiętnik IV Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich*, t. 1: *Referaty*, Lwów 1925, s. 8.

[23] J. Adamus, *W sprawie kodeksu dyplomatycznego Litwy*, „Sprawozdania Towarzystwa Naukowego we Lwowie", 1932, R. 12, z. 3, s. 159-162.

[24] J. Adamus, *Wydawnictwo źródeł do historii Litwy*, [у:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich*, t. 1: *Referaty*, Lwów 1935, s. 445-447.

У сувязі з пачаткам вайны і па іншых прычынах усе гэтыя маштабныя і амбітныя праекты, на жаль, так і не былі рэалізаваны.

Тым не менш, можна назваць таксама некалькі выданняў, якія выйшлі з друку. У 1930 годзе Генрык Пашкевіч выдаў том, які складаўся з рэгестаў найдаўнейшых (да 1315 года) гістарычных сведчанняў пра Літву[25]. Меркавалася, што выйдзе і другі том гэтага збору, у які прадбачвалася ўключыць аналагічныя матэрыялы аж да уніі Вялікага Княства з Польшчай (1386). Але ён так і не быў апублікаваны — магчыма, у сувязі з планамі выдання ўсяго корпусу найдаўнейшых актаў Вялікага Княства, які прадугледжваў, што яны будуць апублікаваныя ў поўных тэкстах акурат да 1386 года. У 1932 годзе Станіслаў Кутшэба і Ян Фіялэк надрукавалі „Акты уніі Польшчы з Літвой"[26], якія пачалі рыхтаваць яшчэ перад Першай усясветнай вайной. І ў тым самым годзе Ян Фіялэк і Уладзіслаў Сэмковіч выдалі першы сшытак першага тома „Кодэкса актаў Віленскай кафедры і дыяцэзіі"[27]. У наступныя гады яны актыўна працавалі і над другім сшыткам. Праца ішла вельмі павольна, у тым ліку ў сувязі са смерцю Яна Фіялка ў 1936 годзе. У выніку, публікацыя выйшла ўжо толькі пасля вайны — у 1948 годзе. Усе гэтыя салідныя тамы крыніц былі падрыхтаваны на вельмі высокім навуковым узроўні і па праву лічацца ўзорнымі. Яны запатрабаваныя і сёння.

У канцы 1920-х гг. да сістэматычнай працы па выданні крыніц padyшоў і малады віленскі навуковы асяродак. На пасяджэнні III аддзялення (гісторыі, філасофіі і юрыдычна-грамадскіх навук) Таварыства сяброў навук у Вільні 1 лютага 1929 года прафесар Станіслаў Касцялкоўскі абвясціў пра намер выдаць „Кодэкс горада Вільні", а 18 сакавіка Генрык Лаўмяньскі прадставіў падрабязны план публікацыі[28]. Заяўлены праект быў задуманы вельмі маштабна, ён прадугледжваў выданне дакументаў самай шырокай тэматыкі, якія датычыліся гісторыі Вільні. На працягу 1930-х гадоў аўтарскі калектыў напружана працаваў, паралельна перадаючы ў друкарню падрыхтаваныя аркушы кнігі. На момант пачатку вайны гэтая вялікая праца яшчэ не была даведзена да канца, але аўтарскі калектыў усё ж дасягнуў пэўнага выніку. У 1939

25 *Regesta Lithuaniae. Ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem. Tomus primus, tempora usque ad annum 1315 complectens*, recensuit H. Paszkiewicz, Varsoviae 1930.

26 *Akta unii Polski z Litwą. 1385-1791*, wyd. S. Kutrzeba i J. Fijałek, Kraków 1932.

27 *Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej*, t. 1: *(1387-1507)*, z. 1: *(1387-468)*, wyd. J. Fijałek i W. Semkowicz, Kraków 1932.

28 *Sprawozdanie ze stanu i działalności Towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie za lata 1929 i 1930*, Wilno 1931, s. 12.

годзе ён усё ж выдаў том „Актаў віленскіх цэхаў”, які падрыхтавалі да друку Марыя і Генрык Лаўмяньскія пры ўдзеле Станіслава Касцялкоўскага[29]. Вайна і далейшыя драматычныя падзеі, якія адбыліся на Віленшчыне і вакол яе, паставілі крыж на ўвасабленні ўсяго гэтага амбітнага выдавецкага плана ў жыццё.

Трэба сказаць, што ўжо ў сярэдзіне 1920-х гг. польская навука пачала аналізаваць стан гістарыяграфіі Вялікага Княства Літоўскага і рэгулярна рабіла гэта ў далейшым[30]. Вельмі важнай падзеяй для развіцця даследаванняў па гісторыі Вялікага Княства стаў VI Усеагульны з’езд польскіх гісторыкаў, які адбыўся ў 1935 годзе ў Вільні. Па зразумелых прычынах ён у вельмі значнай ступені быў прысвечаны менавіта праблематыцы Вялікага Княства Літоўскага. Тут былі падведзены вынікі вывучэння гісторыі гэтай дзяржавы за апошнія гады. З адпаведнымі дакладамі па храналагічных перыядах выступілі Ст. Заянчкоўскі[31], О. Галецкі[32], Р. Мяніцкі[33] і Ул. Канапчыньскі[34]. Адбылася шырокая дыскусія па праблеме шляхоў і перспектыў даследавання гісторыі Вялікага Княства. У ходзе гэтай дыскусіі Г. Лаўмяньскі казаў пра тое, што польская навука занядбала вывучэнне „рускіх” зямель Вялікага Княства Літоўскага, тады як украінская навука і таксама часткова беларуская ў дваццатыя гады шмат зрабілі ў гэтай галіне. І хоць неспрыяльныя ўнутраныя ўмовы, якія склаліся пасля 1930 года, зрабілі гэтую працу ў дзвюх савецкіх рэспубліках практычна немагчымай, але польскія вучоныя павінны быць падрыхтаванымі да таго, што рана ці позна беларускі і ўкраінскі асяродкі адновяць сваю дзейнасць[35]. Матыў міжнароднай навуковай канкурэнцыі прагучаў тут надзвычай выразна.

29 *Akty cechów wileńskich, 1495-1759*, cz. 1-2, wyd. M. i H. Łowmiańscy przy udziale St. Kościałkowskiego, Wilno 1939.

30 S. Zajączkowski, *Stan badań nad dziejami Litwy przed 1386 r.*, [у:] *Pamiętnik IV Zjazdu Historyków Polskich w Poznaniu*, t. 1: *Referaty*, Lwów 1925, s. 1-8; K. Chodynicki, *Przegląd badań nad dziejami Litwy w ostatnim dziesięcioleciu 1920-1930*, „Kwartalnik Historyczny”, 1930, R. 44, t. 1, z. 3, s. 273-300.

31 S. Zajączkowski, *Przegląd badań nad dziejami Litwy do 1385 r.*, [у:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie 17-20 września 1935 r.*, t. 1: *Referaty*, Lwów 1935, s. 3-21.

32 O. Halecki, *Przegląd badań nad dziejami Litwy 1385-1569*, [у:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu*, s. 22-25.

33 R. Mienicki, *Przegląd badań nad dziejami Litwy 1569-1696*, [у:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu*, s. 26-36.

34 W. Konopczyński, *Przegląd badań nad dziejami Litwy w XVIII w. (1696-1795)*, [у:] *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu*, s. 37-44.

35 *Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu historyków polskich*, t. 2: *Protokoły*, Lwów 1936, s. 36-37.

Падкрэслім таксама, што Г. Лаўмяньскі не проста заклікаў польскую навуковую супольнасць заняцца тымі ці іншымі тэмамі — як у гэтым канкрэтным выпадку з гісторыяй „рускіх” зямель Вялікага Княства Літоўскага. Ён сам узяўся за ім жа пастаўленую праблему. І ўжо неўзабаве выйшлі дзве вялікія працы вучонага, якія былі прысвечаны гандлю горада Магілёва ў XVI стагоддзі (1938) і яго гаспадарчай структуры ў часы правядзення „валочнай памеры” (1939)[36].

На заканчэнне колькі слоў пра беларускія акцэнты ў кантэксце разгледжанай праблемы. Польская гістарыяграфія пачала заўважаць беларускі фактар у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Першай усясветнай вайны. Бадай, першым яго абазначыў Ян Якубоўскі. У сваім вядомым даследаванні 1912 года, прысвечаным нацыянальным адносінам у Вялікім Княстве Літоўскім, ён сцвярджаў, што тая мова, якую ў Вялікім Княстве называлі рускай, бліжэй за ўсё нагадвае сучасную яму беларускую[37]. У нечым падобны пункт гледжання выказаў карыфей польскай гістарыяграфіі С. Кутшэба. У другім томе сваёй „Гісторыі Польшчы”, якая была прысвечана Вялікаму Княству Літоўскаму („Літве”), ён сцвярджаў, што руская мова, якая выкарыстоўвалася ў цэнтральнай і іншых канцылярыях гэтай дзяржавы, была на самой справе беларускай мовай, змяшанай з царкоўнай (г.зн. царкоўнаславянскай), і на якую, у дадатак, моцна паўплывала пальшчызна. Яго агульная характарыстыка выглядае так: „Гэта было асаблівае моўнае стварэнне, якое мела характар толькі канцылярска-судовай мовы”[38]. Няма ніякіх сумненняў у тым, што ў гэтай сваёй ацэнцы С. Кутшэба абапіраўся на думку Я. Якубоўскага. Хоць яго кніга выйшла за невялікі час да апублікавання працы Кутшэбы, але яна ўжо вельмі хутка набыла вядомасць і атрымала прызнанне ў спецыялістаў. Манаграфія Якубоўскага ёсць у бібліяграфічным спісе даследавання Кутшэбы, прадмова да якога была напісана ў чэрвені 1913 года.

Яшчэ адным аўтарам, які выказаў свой погляд на беларускую праблему, быў Вацлаў Сабескі. Даследчык займаўся пераважна палітычнай гісторыяй Польшчы, але ў сваёй падагульняючай манаграфіі ён

[36] H. Łowmiański, *Handel Mohylewa w XVI w.*, [у:] *Studia historyczne ku czci Stanisława Kutrzeby*, t. 2, Kraków 1938, s. 517-547; ён жа, *Struktura gospodarcza Mohylewa w czasach pomiary włócznej*, „Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych”, 1939, t. 8, z. 1, s. 37-91.

[37] J. Jakubowski, *Studia nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią Lubelską*, Warszawa 1912, s. 12, 42, 63, 81, 90.

[38] S. Kutrzeba, *Historia ustroju Polski w zarysie*, t. 2: *Litwa*, Lwów 1914, s. 72 („Był to specjalny twór językowy, mający charakter tylko języka kancelaryjno-sądowego”).

выказаў таксама погляд на сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое разглядаў як складовую частку ягелонскай дзяржавы — Каралеўства Польскага. У названай кнізе ён так пісаў пра крэўскае пагадненне: „Гэтая унія была тым прыемнейшая за іншыя, што пануючая мова на літоўскім двары, у канцылярыі, у судаводстве была такая блізкая палякам — беларуская”[39]. Праз нейкі час ён пашырыў гэты свой тэзіс: „Урэшце, пры двары Ягайлы (а таксама ў канцылярыях і судаводстве) пануючай мовай быў такі блізкі палякам дыялект, як беларускі. Па сутнасці, у гісторыі уніі гэты беларускі народ адыграў большую ролю, чым нам падаецца, бо гэта быў элемент, этнічна вельмі блізкі да польскай расы, і ён стаў мостам для збратання Літвы з Польшчай”[40].

Не менш важнай праблемай стала выкарыстанне ў Польшчы — прычым не толькі ў навуцы, а ва ўсіх сферах жыцця — старых гістарычных тэрмінаў „Літва”, „літвін”. Яны традыцыйна выкарыстоўваліся палякамі для ўсіх зямель колішняга Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць як для ўласна Літвы, так і для Беларусі (у сучасным разуменні). Першым вучоным, які прапанаваў адрозніць гістарычны тэрмін „Litwa”, „Litwin” ад сучаснага яму этнічнага наймення „Letuwa, Letuwin” і, адпаведна, „letuwski”, быў вядомы гісторык, доктар, а потым прафесар Віленскага ўніверсітэта Фелікс Канэчны. Ён настойваў, што другі тэрмін трэба выкарыстоўваць менавіта для этнічнай Літвы. Спачатку ён апублікаваў на гэтую тэму спецыяльны артыкул у папулярным часопісе, прычым надаў там шмат увагі таксама беларусам і беларускай мове[41]. І тут варта заўважыць, што ў гэтым артыкуле ён спасылаўся на тое, што тэрміны „Letuwa, Letuwin” у дачыненні да этнічнай Літвы і літоўцаў і так ужо выкарыстоўваюцца — праўда,

[39] W. Sobieski, *Dzieje Polski*, t. 1: *Do roku 1696*, Warszawa 1923, s. 46 („Ta unia była tym milsza od innych, że mowa panująca na dworze litewskim, w kancelarii, w sądownictwie była Polakom tak bardzo bliska — białoruska”).

[40] W. Sobieski, *Historia Polski*, Kraków [1931], s. 84 („Wszak na dworze Jagiełły mową panującą [a tak samo w urzędach i sądownictwie] było narzecze tak bliskie Polakom — jak białoruskie. W istocie, w dziejach unii ten białoruski lud większą odegrał rolę, niż nam się zdaje, był to bowiem żywioł etnicznie niezwykle bliski polskiej rasie i stał się mostem do zbratania Litwy z Polską”).

[41] F. Koneczny, *Letuwa a Litwa*, „Przegląd Powszechny”, 1922, t. 155-156, s. 38-45. У заўвазе да артыкула рэдакцыя часопіса адзначыла, што публікуе гэты „pełen oryginalnych myśli głos”, але не жадае заяўляць сваю пазіцыю па польска-літоўскіх спрэчках, бо часопіс не займаецца палітыкай. Так што, у адпаведнасці з профілем выдання, праблема была пераведзена ў культурную плоскасць. Артыкул сапраўды вельмі дыскусійны. Не выклікае сумненняў, што аўтар напісаў яго пад моцным уплывам бягучай палітычнай сітуацыі — а менавіта польска-літоўскіх узаемаадносін, якія ў той час былі вельмі напружанымі.

журналістамі, а не вучонымі. У далейшым Ф. Канэчны выкарыстоўваў гэтую тэрміналогію і ў сваіх навуковых публікацыях[42]. Ён зрабіў гэта менавіта для таго, каб адрозніваць этнічных літоўцаў ад жыхароў усяго Вялікага Княства Літоўскага ў перыяд яго гістарычнага існавання, для якіх захаваў старыя тэрміны — Litwa, litewski.

У сувязі з разгляданым пытаннем падаюцца важнымі назіранні Алега Латышонка, якія ён выказаў у сваёй нядаўняй манаграфіі. Там ён, сярод іншага, высвятляў стаўленне Ф. Канэчнага да таго, як развіваліся ў першай чвэрці XX ст. нацыянальныя рухі народаў — спадкаемцаў Вялікага Княства Літоўскага. У выніку А. Латышонак прыйшоў да высновы, што з найбольшай прыхільнасцю аўтарытэтны польскі вучоны глядзеў на беларусаў, тады як тагачасны стан украінскага і літоўскага (летувінскага) народаў, а таксама ролю літоўцаў у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ацэньваў крытычна[43].

Польскія вучоныя даволі ўважліва сачылі за тым, як развіваецца беларуская гістарычная навука. У польскім спецыялізаваным друку рэгулярна з'яўляліся навіны пра навуковае жыццё ў БССР — сярод іх, напрыклад, можна знайсці паведамленні пра стварэнне Беларускай акадэміі навук[44]. Трэба сказаць, што зацікаўленасць была ўзаемнай — прынамсі, так было ў 1920-х гадах. Напрыклад, Уладзімір Пічэта, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, і Васіль Дружчыц — абодва спецыялісты ў галіне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага — былі ўдзельнікамі IV Усеагульнага з'езда польскіх гісторыкаў, які прайшоў у снежні 1925 года ў Познані[45]. Адметна, што ад Савецкага Саюза на ім не было больш ніводнага прадстаўніка. Па ўсёй бачнасці, паездцы Пічэты і Дружчыца ў Польшчу адмыслова паспрыяла кіраўніцтва БССР.

Праўда, стаўленне польскіх гісторыкаў да прац іх беларускіх калег і да агульнага напрамку развіцця беларускай гістарычнай навукі было крытычным, а часам востра крытычным. Менавіта ў такім духу вытрыманыя рэцэнзіі Караля Бажэмскага і Рышарда Мяніцкага на беларускія археаграфічныя выданні — першы і другі тамы „Беларускага архіва", якія выйшлі ў Мінску ў 1927 і 1928 гадах. Водгукі былі апублікаваныя ў вядучым спецыялізаваным часопісе „Ateneum Wileńskie"

[42] F. Koneczny, *Litwa a Moskwa w latach 1449-1492*, Wilno 1929, s. 2, 3.

[43] O. Łatyszonek, *Europa Wschodnia w zderzeniu cywilizacji. Historia, problemy narodowościowe i stosunki międzynarodowe w koncepcjach pluralizmu cywilizacyjnego*, Białystok 2022, s. 148-150.

[44] „Nauka Polska", 1930, t. 13, s. 204-205.

[45] *Pamiętnik IV Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich*, t. 2: *Protokoły*, Lwów 1927, s. 243, 248.

ў 1930 годзе[46]. Рышард Мяніцкі быў таксама аўтарам вельмі жорсткай рэцэнзіі на артыкул Васіля Шчарбакова пра сялянскі рух на Беларусі ў XVI-XVII стст., які выйшаў у 1935 годзе ў выданні Акадэміі навук СССР „Исторический сборник"[47]. Такімі ж крытычнымі былі рэцэнзіі на навуковыя даследаванні, якія публікавалі ў міжваеннай польскай дзяржаве тутэйшыя беларусы[48]. Гэтыя працы выходзілі ў асноўным дзякуючы падтрымцы Беларускага навуковага таварыства, якое дзейнічала ў 1918-1939 гадах у Вільні. Як і ў выпадку з беларускай савецкай навукай, прэтэнзіі выклікаў нізкі навуковы ўзровень публікацый, якія выпускалі заходнебеларускія аўтары. А беларуская савецкая гістарыяграфія непрыемна здзіўляла польскіх вучоных яшчэ і сваёй ідэалагічнай зашоранасцю і метадалагічнай абмежаванасцю, самымі яскравымі праявамі якіх былі класавы падыход і марксізм у яго вульгарнай трактоўцы.

Польская гістарыяграфія Вялікага Княства Літоўскага 20-30-х гг. XX ст. была прамым працягам адпаведных даследаванняў нацыянальнай навукі ранейшага перыяду і абапіралася на іх. У незалежнай польскай дзяржаве нават за невялікі дваццацігадовы прамежак часу гэты напрамак працы дасягнуў нечуванага раней узроўню развіцця. Пра гэта выразна сведчаць колькасць і якасць публікацый, глыбіня і тэматычная разнастайнасць саміх даследаванняў. Адначасова адбыліся глыбокія перамены ў размяшчэнні вядучых даследчыцкіх цэнтраў. Калі раней гэта былі ў першую чаргу Львоў і Кракаў, дзе яшчэ ў XIX ст. склаліся моцныя асяродкі медыевістыкі, дык цяпер гэтая роля перайшла да Варшавы і Вільні. Асабліва вырасла ў сваім навуковым значэнні Вільня, якая стала паступова пераўтварацца ў галоўны цэнтр даследаванняў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ды і ўсёй Усходняй Еўропы ў Другой Рэчы Паспалітай.

## ДАДАТАК

## Кніжныя выданні па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (да Люблінскай уніі), якія выйшлі ў Польшчы ў перыяд 1919-1939 гг.

### А. Навуковыя

### Крыніцы

*Regesta Lithuaniae. Ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem. Tomus primus, tempora usque ad annum 1315 complectens*, recensuit H. Paszkiewicz, Varsoviae 1930, ss. XXIII+183.

46 „Ateneum Wileńskie", 1930, R. 7, z. 1-2, s. 355-370.
47 „Ateneum Wileńskie", 1936, R. 11, s. 518-521.
48 „Ateneum Wileńskie", 1935, R. 10, s. 415-416.

*Akta unii Polski z Litwą. 1385-1791*, wyd. St. Kutrzeba i J. Fijałek, Kraków 1932, ss. LVI+570.

*Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej*, t. 1: *(1387-1507)*, z. 1: *(1387-1468)*, wyd. J. Fijałek i Wł. Semkowicz. Kraków 1932, ss. 288.

*Akty cechów wileńskich, 1495-1759*, cz. 1-2, wyd. M. i H. Łowmiańscy przy udziale St. Kościałkowskiego, Wilno [1939], ss. 493.

**Даследаванні**

Halecki O., *Dzieje Unii Jagiellońskiej*, t. 1-2, Kraków 1919-1920.

Natanson-Leski J., *Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej*, cz. I: *Granica moskiewska w epoce jagiellońskiej*, Lwów — Warszawa 1922, ss. XIV+196.

Zajączkowski S., *Studia nad dziejami Żmudzi wieku XIII*, Lwów 1925, ss. 111, mapa.

Jakubowski J., *Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego w połowie XVI wieku*, I: *Część północna*, Kraków 1928, ss. 21, mapa (Atlas historyczny Polski, Seria B: Mapy przeglądowe).

Hedemann O., *Historia powiatu brasławskiego*, Wilno 1930, ss. XXXI+484, mapy.

Kolankowski L., *Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów*, t. 1: *1377-1499*, Warszawa 1930, ss. IX+474.

Łowmiański H., *Witold wielki książę litewski*, Wilno 1930, ss. 121.

Łowmiański H., *Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego*, t. 1-2, Wilno 1931-1932 (Rozprawy Wydziału III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie, t. V-VI).

Paszkiewicz H., *Jagiellonowie a Moskwa*, t. 1: *Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku*, Warszawa 1933, ss. 454.

Hedemann O., *Dawne puszcze i wody*, Wilno 1934, ss. XII+188.

Hedemann O., *Dzisna i Druja, magdeburskie miasta*, Wilno 1934, ss. 486 (Rozprawy Wydziału III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie, t. VII). I асобная адбітка: Hedemann O., *Druja, magdeburskie miasto*, Wilno 1934, ss. 95.

Hedemann O., *Głębokie (szkic dziejów)*, Wilno 1935, ss. 59.

Hedemann O., *Testamenty brasławsko-dziśnieńskie XVII-XVIII wieku jako źródło historyczne*, Wilno 1935, ss. 36.

Łowmiański H., *Rys historyczny województwa nowogródzkiego w jego dzisiejszych granicach (do r. 1795)*, Wilno 1935, ss. 126 (Biblioteka Towarzystwa Rozwoju Ziem Wschodnich, Okręg Nowogródzki, Nr 1).

Meysztowicz W., *Dobra kościelne jako przedmiot uprawnień w prawie W. Ks. Litewskiego*, Wilno 1935, ss. X+168 (Studia teologiczne, t. VIII).

Rozanów M., *Powiat prużański: (szkic historyczny)*, Prużana 1935, ss. VIII+143.

Kuczyński S. M., *Ziemie Czernihowsko-Siewierskie pod rządami Litwy*, Warszawa 1936, ss. 412 (Prace Ukraińskiego Instytutu Naukowego, t. XXXIII, Seria prac Komisji dla badań zagadnień polsko-ukraińskich, z. 2).

Wysłouch S., *Posługi komunikacyjne w miastach W. Ks. Litewskiego na prawie magdeburskim do połowy XVI w.*, Wilno 1936, ss. 209 (Instytut Naukowo-Badawczy Europy Wschodniej, Sekcja historyczna, Nr 2).

Paszkiewicz H., *O genezie i wartości Krewa*, Warszawa 1938, ss. 356.

Paszkiewicz H., *W sprawie inkorporacji Litwy do Polski w 80-ch latach XIV w.*, Warszawa 1938, ss. 20.

Hedemann O., *Dzieje Puszczy Białowieskiej w Polsce przedrozbiorowej (w okresie do 1798 roku)*, Warszawa 1939, ss. 310 (Instytut Badawczy Lasów Państwowych, Rozprawy i Sprawozdania, Seria A, Nr 41).

**Спецыялізаванае перыядычнае выданне**

„Ateneum Wileńskie: Czasopismo naukowe, poświęcone badaniom przeszłości ziem Wielkiego X. Litewskiego", 1923-1939, R. 1-14.

**Спецыялізаваныя неперыядычныя выданні**

*Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetnej rocznicy wydania Pierwszego Statutu Litewskiego*, pod red. S. Ehrenkreutza, Wilno 1935, ss. 363 (Rozprawy Wydziału III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie, t. VIII).

„Wiadomości Studium Historii Prawa Litewskiego", 1938, t. 1, pod red. S. Ehrenkreutza (Uniwersytet Stefana Batorego w Wilnie, Wydział Prawa i Nauk Społecznych).

**Б. Навукова-папулярныя**

Mościcki H., *Unia Polski z Litwą: dokumenty i wspomnienia*, Warszawa [1919], ss. 116.

Jakubowski J., *Dzieje Litwy w zarysie*, Warszawa [1921], ss. 58 (Biblioteka Składnicy, Nr 2).

Obst J., *Litwa w świetle prawdy historycznej*, Wilno 1922, ss. 80.

Zajączkowski S., *Dzieje Litwy pogańskiej do 1386 r.*, Lwów 1930, ss. 79.

**В. Навучальныя**

Dąbrowski J., *Korona i Litwa od chrztu Jagiełły do Warny (1386-1444)*, Kraków 1923, ss. 32 (Teksty źródłowe do nauki historii w szkole średniej, z. 24).

Koneczny F., *Dzieje Litwy i Rusi przed unią z Polską*, Kraków 1924, ss. 32 (Teksty źródłowe do nauki historii w szkole średniej, z. 22).

**Summary**

**Interwar Polish Historiography on the Grand Duchy of Lithuania: Key Centres and Main Research Directions**

Polish scholars have shown great interest in the history of the Grand Duchy of Lithuania for a long time. The highest level in this area of research was reached during the 1920s and 1930s. Polish historians then were the indisputable leaders on an international level. Similarly to the earlier period the research was focused on political, military and ecclesiastical history. The theme of the Union of Lublin was also popular. Historical sciences in this period not only delved deeper, but also underwent considerable qualitative changes. New directions in historiography were created: social and economic history, history of towns and cities. Key centres of research changed in this period. Before the Great War Lviv and Cracow had been leaders in this area as strong medieval studies centres had been formed there. After the war Vilnius and Warsaw gradually came to the fore. The importance of Vilnius in particular increased and it began to transform into the main centre of research on the history of the Grand Duchy of Lithuania and Eastern Europe in general on the scale of the entire Polish state.

**Keywords:** the Grand Duchy of Lithuania, the Union of Lublin, Polish historiography, Vilnius.

**Streszczenie**

**Międzywojenna historiografia polska Wielkiego Księstwa Litewskiego: najważniejsze ośrodki i główne obszary badań**

Nauka polska od dawna wykazuje duże zainteresowanie historią Wielkiego Księstwa Litewskiego. W latach 20. i 30. XX wieku badania w tej dziedzinie osiągnęły najwyższy poziom, a historiografia polska stała się w niej niekwestionowanym liderem światowym. Tak jak wcześniej, w okresie międzywojennym kontynuowano rozwój klasycznej historii politycznej, wojskowej i kościelnej. Temat unii nadal budził duże zainteresowanie. Jednak nauki historyczne nie tylko pogłębiły wcześniej zgromadzoną wiedzę, ale także przeszły ważne zmiany jakościowe. Na przykład powstały nowe kierunki w historiografii — historia społeczna i gospodarcza, dzieje miast. Jednocześnie zmieniała się geografia przewodnich ośrodków badawczych, zajmujących się historią Wielkiego Księstwa. Wcześniej były to Lwów i Kraków, w których w XIX wieku powstały znaczące ośrodki studiów mediewistycznych. Natomiast w okresie międzywojennym palmę pierwszeństwa przejęły Warszawa i Wilno. Znaczenie Wilna wzrosło, gdy zaczęło się ono przekształcać w główny ośrodek badań nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego i ogólnie Europy Wschodniej w skali całego państwa polskiego.

**Słowa kluczowe:** Wielkie Księstwo Litewskie, Unia Lubelska, historiografia polska, Wilno.

**Wasil Waronin** — kandydat nauk historycznych, docent. Pracował w Białoruskim Uniwersytecie Państwowym, Instytucie Historii Narodowej Akademii Nauk Białorusi, Instytucie Historii PAN im. T. Manteuffla. Uczestnik wielu międzynarodowych projektów badawczych i wydawniczych. Główne obszary badań to historia polityczna, etno-wyznaniowa, intelektualna Wielkiego Księstwa Litewskiego w XIII-XVI wieku, dzieje Białoruskiego Naddźwinia. Autor około 130 publikacji naukowych.

**Сяргей Чыгрын**
(Слонім)

## Лёс заходнебеларускага паэта

У Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобласці ў Гродне адшукаў „Крымінальную справу па абвінавачванні Пятра Дабрыяна і іншых у падпольнай палітычнай справе”. Справа была распачата 3 кастрычніка 1934 года, а завершана 1 красавіка 1935 года. Яна налічвае 211 старонак.

Чаго толькі няма ў той справе, нават захаваўся фотаздымак юнага Пеці Дабрыяна, якога сфатаграфавалі, калі збіралі матэрыялы да яго справы. Тады беларускаму юнаку са Слонімшчыны не было яшчэ 17 гадоў. Усю справу апублікаваць немагчыма, яе трэба перакладаць на беларускую мову. А гэта атрымаецца цэлая кніжка. А вось з „Пратаколам агляду і перакладу” варта пазнаёміцца.




**Пратакол агляду і перакладу**

Гродна, дня 17-29 верасня 1934 года следчы акруговы суддзя без прызначанага раёна ў Гродне ў адпаведнасці з артыкулам 123 і 140

працэсуальнага кодэкса праз пасрэдніцтва перакладчыка Яніны Бражэнас, якая пражывае ў Гродне па вул. 3 Мая, 6, зрабіў агляд і пераклады:

1. Камуністычнай літаратуры, занатовак і іншых прадметаў, выяўленых у час асабістага вобыску дня 31 ліпеня 1934 года ў Пятра Дабрыяна.
2. Камуністычнага заклiку, выяўленага дня 13 чэрвеня 1934 года на прыдарожным кургане каля вёскі Малая Кракотка Слонімскага павета.
3. Розных занатовак, знойдзеных у пінжаку Пятра Дабрыяна, пакінутым ім падчас уцёкаў дня 26 чэрвеня 1934 года.
4. Камуністычных заклікаў, знойдзеных падчас рэвізіі дня 2 жніўня 1934 года, знойдзеных у будынках Сцяпана Трафімовіча ў тайніку, указаным Рыгорам Карнейчыкам
5. Камуністычных заклікаў, знойдзеных падчас рэвізіі дня 2 жніўня 1934 года ў будынках Сцяпана Трафімовіча ў тайніку, указаным Рыгорам Трафімовічам.
6. Камуністычных заклікаў, раскінутых дня 28 ліпеня 1934 года ў вёсцы Сялявічы Міжэвіцкай гміны Слонімскага павета.
7. Камуністычнага заклiку, знойдзенага дня 31 ліпеня 1934 года на кустах ва ўрочышчы Грыўда каля вёскі Міжэвічы Слонімскага павета[1].

Калі б жыў сёння Пятро Дабрыян, яму цікава было б пазнаёміцца са сваёй „Крымінальнай справай...”.

Я добра ведаў Пятра Навумавіча Дабрыяна (1916-1993), шмат гадоў з ім сябраваў, выступаў на розных мерапрыемствах, літаратурных вечарах і сустрэчах. Гэта быў мой надзейны і шчыры сябра, дарадчык, вясковы працаўнік і таленавіты чалавек...

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на хваробы. Жыць бы яму ды жыць... У той дзень, 27 жніўня 1993 года, калі паэт Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян) ляжаў на аперацыйным стале ў Слонімскай бальніцы, па тэлебачанні ўпершыню паказвалі пра яго дакументальны фільм, які падрыхтаваў паэт Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні. Цудоўны фільм, шчыры і светлы, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб тым, што будуць „яго паказваць па тэлевізары”. Але

[1] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці, ф. 52, воп. 1, спр. 253. Пераклад з польскай мовы Віталя Лубы.

больш за ўсё чакаў гэтай перадачы ён сам. Чакаў, але на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У гэты дзень паэта Алеся Сучка не стала.

Апусцела, асірацела хата ў вёсцы Азярніца на Слонімшчыне. У ёй шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Я часта гасцяваў у Пятра Навумавіча Дабрыяна. Ён шмат мне распавядаў пра гісторыю навакольных вёсак, пра лёсы яго аднавяскоўцаў. Бывала, мы з ім ішлі да Бяздоннага возера, якое знаходзіцца побач з Азярніцай. „Люблю гэтыя мясціны, — казаў Пятро Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане „Хрыстос прызямліўся ў Гародні": „Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя...".

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца ўнікальны старажытна-славянскі могільнік V-IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка і дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860-1921). Гэтыя мясціны добра ведаў Алесь Сучок, бо амаль усё жыццё было звязана з імі.

Нарадзіўся Пётр Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна Чувашыі, дзе бацькі знаходзіліся ў бежанстве. У 1922 годзе разам з бацькамі вярнуўся ён дамоў у вёску Какошчычы Слонімскага павета. На радзіме пайшоў у першы клас Мяльканавіцкай польскай школы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную піянерскую арганізацыю, а праз год яго выбіраюць сакратаром Слонімскага падпольнага райкама піянераў.

Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мяльканавічы Пятро Дабрыян папрасіў застацца сваіх юных сяброў у хаце. „Нам патрэбна навучанне на беларускай мове, — палымяна казаў Пятро. — Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу...".

Юныя змагары горача ўзяліся за справу. За некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце пракламацый. 16 студзеня 1934 года дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для Вішнеўскага гэта быў гром з яснага неба. Ачомаўшыся ад нечаканасці, ён са злосці кінуў: „Ніколі гэтага не будзе!". Тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: „Патрабуем школы на роднай мове!". Больш за дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах вёскі Мяльканавічы, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.

Праз некаторы час Пятра Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года польскі акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Усё гэта адлюстравана ў той самай „крымінальнай

справе...”. Адбываў зняволенне ў Картуз-Бярозе. Паэт Анатоль Іверс (1912-1999) прысвяціў яму верш, у якім ёсць такія радкі:

*Не хадзіў Пятро па розум*
*Да нябогі-батрака,*
*А прайшоў Картуз-Бярозу,*
*Каб свабоду сустракаць...*[2]

Але да Картуз-Бярозы была яшчэ турма ў Слоніме. Там ён і пачаў пісаць свае першыя вершы. „Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся... Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне...”, — распавядаў пры жыцці Пятро Навумавіч. А калі юнак выйшаў на волю, паціху адсылаў вершы ў Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь ці Андрэй Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс „Шлях моладзі” (№ 24) упершыню змясціў яго верш „Я бачыў” пад псеўданімам Андрэй Сучок. А праз год той жа часопіс друкуе новы верш Андрэя Сучка „Зіма”, а астатнія вершы „Мне ахвота”, „Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй” друкуюцца пад псеўданімам А. Сучок. А пасля Другой сусветнай вайны Пётр Дабрыян падпісваў свае вершы псеўданімам Алесь Сучок.

У простай і непасрэднай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляў свабоду. Ён пісаў пра жыццё вясковага бедняка, пра сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў заходнебеларускага паэта быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

*Мы здабудзем перамогу,*
*Бо за намі ўвесь народ.*
*Падымайма ўжо трывогу,*
*Смела пойдзем у паход*[3].

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў 1930-х гадах, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка, Анатоля Іверса і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі.

[2] А. Іверс, *Аўсяныя росы*, Мінск 2011, с. 199.
[3] А. Сучок, *Захацелася шчасця*, Мінск 2012, с. 5.

Пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь саветаў Пятро Дабрыян працаваў літработнікам слонімскай раённай газеты „Вольная праца”. З рэдакцыі яго прызвалі ў армію. Вайна захапіла юнака каля Гродна. Адтуль ён прабраўся на акупаваную немцамі Слонімшчыну. Былыя падпольшчыкі і равеснікі Заходняй Беларусі шукалі адзін аднаго. Пятро Дабрыян скантактаваўся з сакратаром Слонімскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта Феакцістам Міско. Ён, асуджаны на 12 гадоў пазбаўлення волі, уцёк з турмы горада Грудзёндза, калі гітлераўцы ў 1939 годзе напалі на Польшчу. Гэта быў сапраўдны старэйшы сябра і дарадца.



Пётр Дабрыян першы з левай

У лютым 1942 года Пётр Дабрыян быў выбраны сакратаром моладзевай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі Какошчыцкага падраёна. Але з адступленнем немцаў, яго забралі на фронт, давялося служыць у кавалерыйскім палку, дывізіёне баявога забеспячэння кавалерыйскай школы...

Дамоў Пятро Дабрыян вярнуўся вясной 1946 года. Працаваў на гаспадарцы, потым загадчыкам вясковага клуба, старшынёй сельскага савета, стрэлачнікам на станцыі Азярніца. Калі быў вольны час — пісаў вершы, дасылаў допісы пра вясковае жыццё ў мясцовы друк. Уладзімір Калеснік у кнізе „Сцягі і паходні” адзначыў: „Мастацкая вартасць прыкметна паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні”[4].

[4] *Сцягі і паходні*, Мінск 1965, с. 27.



Пятро Дабрыян быў вельмі актыўным чалавекам, ён паспяваў усюды: на пасяджэнне раённага літаб'ядпання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да сяброў у госці, заўсёды шчыра адгукаўся на бяду, дапамагаў і справай, і словам. Ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце раённага хору ветэранаў вайны і працы „Памяць". А як ён хараша, цудоўна спяваў! Спяваў „Зорку Венеру" Максіма Багдановіча, „Цячэ і стогне Днепр шырокі...", беларускія народныя песні. Я яго заўсёды прасіў, што-небудзь праспяваць. І ён спяваў з радасцю. Ён умеў чытаць свае вершы, чытаў, як артыст. Ён жыў музыкай, паэзіяй, у вершах была і засталася яго біяграфія, яго хваляванні, радасці і трывога:

*Прайшоў я з мовай праз пакуты,*
*Праз дзікі здзек былых паноў.*
*Не раз кайданамі быў скуты,*
*Не раз цярпеў боль бізуноў.*
*Але ад мовы не адрокся:*
*Я з ёю сеяў і касіў...*
*Сваю любоў да роднай мовы*
*Заўжды у сэрцы я насіў*[5].

[5] А. Сучок, *Захацелася шчасця*, с. 64.

Алесь Сучок ніколі не меціў у вялікія паэты, ды і пра гэта не думаў. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў раённы і абласны друк. І радаваўся кожнай публікацыі. Вершы яго друкаваліся таксама ў зборніках „Сцягі і паходні" (Мінск 1965), „Ростані волі" (Мінск 1990), „Золак над Шчарай" (Слонім 1994) і ў іншых. Яго бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверлівасцю:

*Як жаўрука пачую спеў,*
*У захапленні стану:*
*Так прывітацца б з ім хацеў —*
*Рукою не дастану*[6].

Калі мне бывала сумна і надакучвала гарадская мітусня, я ехаў да яго ў Азярніцу. Ён радаваўся сустрэчы. Ён любіў людзей і любіў жыць, яму заўсёды хацелася шчасця. Памятаю, у 1990-х гадах, калі быў дэфіцыт мэблі, ён, як ветэран вайны, купіў у вясковай краме для мяне кніжную шафу. Потым мы дваіх яе з крамы ледзьве прывалаклі ў хату Пятра Навумавіча. А калі прынеслі, то ён мне пажадаў, каб я напісаў і выдаў столькі добрых кніг, каб былі запоўненыя ўсе паліцы гэтай шафы. Тая азярніцкая мэбля і доўга стаяла у маім пакоі гарадской кватэры. На яе паліцах мясціліся не толькі мае кнігі, але і кнігі іншых беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў.




Адзінаццаць гадоў таму назад я сабраў вершы Алеся Сучка і выдаў асобнай кніжачкай у Мінску ў выдавецтве „Кнігазбор". Зборнік назваў „Захацелася шчасця". І цяпер на паліцах маёй хатняй бібліятэкі стаіць і паэтычны зборнічак Алеся Сучка — як успамін пра шчырага паэта і добрага чалавека.

6 Там жа, с. 19.

**Summary**

**The Fate of the West Belarusian Poet**

The article is devoted to the Western Belarusian social and cultural activist and poet Piotr Dabryjan, who comes from the Słonim region (penname Aleś Sucok, 1916-1993). Dobryyan was born in the region of Chuvashia (Russia); his parents had been the victims of the forced migration. After returning to his homeland in 1922, Petia Dobryyan took part in the youth movement, insisted on education in the Belarusian language, and joined an illegal «young pioneers» organization. In 1935, a Polish court sentenced him to four years in prison. He was sent to Bereza Kartuska. With the advent of the Soviet regime, he was released, worked in various positions and was engaged in literary work. His first poems to be published appeared in 1938 in Vilnius, in a magazine „Šlach Moładzi". A volume of his selected poems, entitled „Zachaciełasia ščascia" (Wanting Happiness) was published in Minsk in 2012.


**Keywords**: Western Belarus, illegal «young pioneers» organization, works of Piotr Dabryjan.



**Streszczenie**

**Los poety zachodniobiałoruskiego**

Artykuł poświęcony jest pochodzącemu ze Słonimszczyzny zachodniobiałoruskiemu działaczowi społecznemu i kulturalnemu oraz poecie Piotrowi Dobryjanowi (pseudonim literacki Aleś Suczok, 1916-1993). Bohater artykułu urodził się w Czuwaszji (Rosja), gdzie jego rodzice przebywali w „bieżeństwie". Po powrocie do ojczyzny w 1922 r. Pietia Dobryjan brał udział w ruchu młodzieżowym, domagał się edukacji w języku białoruskim, wstąpił do nielegalnej organizacji pionierskiej. W 1935 r. polski sąd skazał go na cztery lata więzienia. Karę odbywał w Berezie Kartuskiej. Z nastaniem władzy sowieckiej został zwolniony, pracował na różnych stanowiskach, zajmował się twórczością literacką. Pierwsze wiersze ukazały się w 1938 r. w wileńskim czasopiśmie „Шлях Моладзі". Publikował w różnych wydawnictwach białoruskich. Po jego śmierci ukazał się tom wybranych wierszy „Захацелася шчасця" (Mińsk 2012).


**Słowa kluczowe:** Zachodnia Białoruś, nielegalna organizacja pionierska, twórczość Piotra Dobryjana.



**Siarhiej Czyhryn** — białoruski literaturoznawca, historyk, regionalista i dziennikarz. Absolwent Wydziału Filologicznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku. Autor około stu książek o tematyce literackiej, historycznej i regionalnej oraz tomików poezji. Bada ruch narodowy na Białorusi Zachodniej (1920-1940), emigrację białoruską i losy represjonowanych Białorusinów. Dużo pisał o białoruskim ruchu społeczno-kulturalnym na Białostocczyźnie. Opublikował książki „Беларуская Беласточчына" (2008), „З Беластоцкай зямлі" (2008), „Мора Віктара Шведа" (2015), „Шляхамі Беласточчыны" (2015), „Рэпатрыяцыя беларусаў Беласточчыны, 1944-1948" (2024).

**Віталь Гарматны**
(Мінск)

# Ураджайнасць ворных зямель Палескага ваяводства ў 1921-1939 гг.: агляд праблематыкі

## Уводзіны

На працягу 1921-1939 гг. Палескае ваяводства з'яўлялася складовай часткай народна-гаспадарчага комплексу міжваеннай Польшчы і адыгрывала тут даволі спецыфічную ролю: з'яўлялася самай вялікай па плошчы тэрытарыяльна-адміністратыўнай адзінкай і пры гэтым характарызавалася адносна слабым узроўнем развіцця сацыяльна-эканамічных адносін, выразным дамінаваннем тут сельскай гаспадаркі ў спалучэнні з далёка не самымі спрыяльнымі прыроднымі ўмовамі (шырокай забагненасцю)[1].

У сувязі з гэтым пытанне ўраджайнасці мясцовых зямель станавілася для навакольнага сялянства ключавым у справе выжывання, улічваючы надзвычай высокі натуральны прырост насельніцтва. Сур'ёзнай перашкодай на шляху павышэння ўраджайнасці па ацэнках тагачасных даследчыкаў таксама стала адносна нізкая агратэхнічная культура апрацоўкі зямлі[2]. Так, напрыклад, у многіх мясцовасцях была яшчэ шырока распаўсюджана драўляная саха і трохполле, на той час як у якасці перадавых прызнаваліся жалезны плуг і пладазмен[3]. Яскравым пацвярджэнем гэтага з'яўляецца наступны артыкул з часопіса „Саха" (1928 г.): „Прыйшла восень. Селянін, пасля збору ўраджаю са сваіх ніў і лугоў, са страхам паглядае на свой шчуплы запас кармоў да зімы. Штогод селянін перад пражэрлівай зімой збывае «лішнія рты» ў хляве, каб даць магчымасць хоць бы надгаладзь праіснаваць самаму неабходнаму жывому «інвентару»"[4].

[1] Z. Tomczonek, *Wieś poleska 1918-1939*, [у:] *Чалавек. Этнас. Тэрыторыя. Праблемы развіцця заходняга рэгіёна Беларусі. У 2 частках*, ч. 1, Брэст 1998, с. 110-112.

[2] В. М. Папко, *Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX-XX стст.*, Брэст 2011, с. 118-119.

[3] Н. М. Авраменко, *Мелиорация белорусского Полесья*, Минск 2017, с. 54.

[4] Б. Е. Кухарев, *Сельское хозяйство Западной Белоруссии (1919-1939 гг.)*, Минск 1975, с. 61.

### Асноўная частка

Паводле справаздачы Палескай акруговай зямельнай управы за 1927-1928 гг. зямля III класа лічылася тут найлепшай, пераважалі грунты IV класа, а часта V і ў некаторых мясцінах нават VI. У цэлым Палессе ў найбольш агульным плане можна было падзяліць на дзве асноўныя часткі:

1. Вышэйшая і сухая (паўночная частка Брэсцкага, Кобрынскага і Драгічынскага паветаў, павет Пружанскі, поўнач Косаўскага павета і цэнтр Пінскага і часткова Сарненскі);
2. Непасрэдна Палессе нізкае і багністае (поўдзень Брэсцкага, Кобрынскага, Драгічынскага і Косаўскага, поўнач Пінскага, увесь Лунінецкі, Столінскі, Камень-Кашырскі і часткова Сарненскі паветы).

Вялікі працэнт багнаў, лясоў і неўжыткаў абумовілі накірунак развіцця сельскай гаспадаркі. Беднасць зямлі (у асноўным жытня-бульбяная) вымушала займацца перш за ўсё вырошчваннем жыта і бульбы, аўсу, грэчкі і трошкі ячменю, проса і льну, пшаніца сустракалася ў мінімальнай колькасці.

Лепш прадстаўлена была аграрная культура буйных маёнткаў — тут на больш высокім узроўні арганізавалі апрацоўку зямлі, назіралася вышэйшая якасць збожжавага насення і гаспадарчага інвентару. Наогул, калі падсумаваць, то за некаторымі выключэннямі буйная ўласнасць на Палессі ў цэлым адставала ад адпаведных гаспадарак былой Кангрэсаўкі (непасрэдна Польшчы). Абумоўлена гэта часткова надзвычай высокімі знішчэннямі маёнткаў пад час баявых дзеянняў мінулых войнаў, іх цяжкай матэрыяльнай сітуацыяй і неспрыяльнай гаспадарчай структурай (цераспалосіца і сервітуты), але варта таксама звярнуць увагу і на значныя намаганні па эксплуатацыі перш за ўсё лясоў, якія нават у самых нявыгадных эканамічных умовах заўсёды давалі добрыя грошы на развіццё гаспадаркі дзякуючы продажу драўніны.

Першая сусветная і савецка-польская войны заставілі сляды, якія не так лёгка было выправіць: так, у параўнанні з передваенным часам у 1924-1925 гг. плошча пасеву пшаніцы склала 28% (пры перадваенным зборы 33,6%), 63,7% жыта (збор 57,8%), 61,8% бульба (46,3% перадваеннага). Знізілася і ўраджайнасць: пшаніцы на 19%, жыта на 9,2%, бульбы на 32%; збор збожжа каля 6,6 цэнтнера з гектара і 64 цэнтнеры бульбы (адпаведна былая Кангрэсаўка — 10 і 96)[5].

[5] Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 60, воп. 1, спр. 1439, арк. 7-10: План работы Полесского окружного земельного управления на 1927-1928 гг. и сведения об аграрном положении Полесья.

У айчыннай гістарыяграфіі савецкага перыяду навуковая ўвага ў першую чаргу засяроджвалася на паказе сялянскага рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху супраць польскіх улад у 1921-1939 гг., у той час як сацыяльна-эканамічнае развіццё Заходняй Беларусі і ў прыватнасці Палесся, а таксама матэрыяльны дабрабыт мясцовага сялянства выступаў свайго роду фонам і, на жаль, не атрымаў адпаведнага навуковага вывучэння.

Праца Барыса Кухарава прысвечана развіццю сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі азначанага перыяду, у тым ліку аналізуецца матэрыяльнае становішча вяскоўцаў, якое ў многім залежала ад ураджайнасці мясцовых ворных зямель. У выданні зроблена выснова, што нізкая тэхнічная ўзброенасць сялянскіх гаспадарак не магла паспрыяць павышэнню паказчыкаў ураджайнасці. Значную навуковую вартасць уяўляе табліца, у якой праведзена параўнанне паказчыкаў ураджайнасці Заходняй Беларусі і Польшчы ў 1928/1929-1937/1938 сельскагаспадарчых гадах (у цэнтнерах з гектара, у дужках адрозненне ад агульнапольскіх паказчыкаў у %), але пры гэтым Палессе, на жаль, не выдзяляецца ў якасці асобнага рэгіёна, але адзначаецца, што яно часта пакутавала ад неспрыяльных прыродных умоў, таму пасевы тут звычайна падмакалі і адпаведна ўраджайнасць падала[6]:

| Сельскагаспадарчы год | Жыта | Авёс | Ячмень | Пшаніца |
|---|---|---|---|---|
| 1928-1929 | 7,5 (-34,2%) | 8,1 (-34,1%) | 7,5 (-43,2%) | 8,4 (-32,8%) |
| 1929-1930 | 10,1 (-16,5%) | 9,4 (-30,4%) | 10,0 (-24,3%) | 10,0 (-20,7%) |
| 1930-1931 | 8,9 (-24,6%) | 8,6 (-19,6%) | 8,3 (-30,3%) | 10,3 (-24,3%) |
| 1931-1932 | 7,2 (-33,4%) | 6,7 (-38,9%) | 8,4 (-27,6%) | 5,9 (-24,5%) |
| 1932-1933 | 8,7 (-19,5%) | 8,1 (-25,0%) | 8,4 (-27,6%) | 10,0 (+28,2%) |
| 1933-1934 | 8,6 (-29,5%) | 7,2 (-41,0%) | 8,3 (-36,5%) | 9,8 (-24,4%) |
| 1934-1935 | 10,3 (-10,4%) | 9,7 (-16,4%) | 10,2 (-17,1%) | 9,9 (-16,8%) |
| 1935-1936 | 9,5 (-16,4%) | 10,0 (-13,8%) | 9,0 (-25,0%) | 8,3 (-27,9%) |
| 1936-1937 | 8,8 (-19,3%) | 7,6 (-35,1%) | 7,9 (-33,1%) | 8,6 (-29,5%) |
| 1937-1938 | 8,7 (-12,1%) | 7,8 (-23,5%) | 7,5 (-32,4%) | 8,4 (-27,2%) |

Даследчык з марксісцка-ленінскіх пазіцый аналізуе сістэму сельскагаспадарчай статыстыкі міжваеннай Польшчы, крытыкуе яе за тое, што

6 Б. Е. Кухарев, *Сельское хозяйство Западной Белоруссии*, с. 52, 54.

інфармацыя падагульнялася толькі па паветах, з-за чаго немагчыма вызначыць пасяўную плошчу, валавы збор збожжа і ўраджайнасць у розных катэгорыях землеўладання. Звесткі пра пасевы і ўраджайнасць асноўных збожжавых культур да 1928 г. вызначаліся па трох групах гаспадарак: да 50 га, звыш 50 га і ў гаспадарках, што належалі дзяржаве і царкве. У гэтых групах плошча збожжавых культур і ўраджайнасць праводзілася на аснове ацэначных даных гмінных упраў асобна па кожнай групе. Потым вызначаліся агульныя звесткі ў адпаведнасці з паказчыкамі гэтых груп.

Пачынаючы з 1932 г. на аснове распараджэння ад 22 сакавіка 1932 г. „Аб статыстыцы сельскагаспадарчай прадукцыі" вылічэнне ўраджайнасці праводзілася толькі па двух групах — у гаспадарках да 50 і звыш 50 га (ранейшая трэцяя была ўключана ў другую). Першая група гаспадарак забяспечвалася спецыяльнымі бланкамі, дзе гаспадар павінен быў запоўніць агульныя звесткі пра пасевы і зборы збожжа. У другой групе пасяўная плошча і валавы збор вызначаліся гміннымі камісіямі. На падставе выбарачных звестак аб ураджайнасці палёў заможных гаспадарак вызначалася сярэдняя ўраджайнасць у гміне, затым вылічваўся агульны валавы збор ва ўсіх гаспадарках гэтай групы. Згодна меркаванням Кухарава такая методыка скажала паказчыкі ўраджайнасці (зразумела, што на карысць іх павышэння).

У выданні адзначаецца, што амаль кожныя два гады ў Заходняй Беларусі назіраліся неўраджаі, найбольшыя ў 1922, 1924-1926, 1929, 1931-1932 гг. Так, напрыклад, ва неўраджайны 1926 г. дробныя гаспадаркі, якія высявалі па 10-15 пудоў (1,6-2,4 цэнтнера), мелі недабор каля 30-40 пудоў (4,8-6,4 цэнтнера) збожжа[7].

Асобную ўвагу неабходна надаць гісторыка-дакументальным хронікам „Памяць", прысвечаным гісторыі раёнаў Беларусі, але пры гэтым варта падкрэсліць, што перыяд 1921-1939 гг. разглядаецца ў іх у першую чаргу праз прызму нацыянальна-вызваленчага руху пад кіраўніцтвам камуністаў, на той час як гісторыя паўсядзённасці застаецца, на жаль, па-за ўвагай і амаль неразгледжанай. Разам з тым асобныя агульныя звесткі можна тут таксама сустрэць, напрыклад „Памяць Лунінецкага раёна" паведамляе, што ў 1932 г. у сувязі з неўраджаем жыта склалася цяжкае становішча з хлебам у Лунінецкім павеце — ужо зімою скончыліся сялянскія запасы хлеба. 17 лютага 1932 г. мясцовыя ўлады склалі спісы найбольш пацярпелых сялян па 20 вёсках павета. У снежні 1932 г. лунінецкае павятовае староства атрымала крэдыт

[7] Там жа, с. 50-52.

на закупку 150 тон збожжа, з якога галадаючым гміны Лунінец перададзена 30 тон, Лахва — 20, Чучавічы — 40[8]. А таксама, на 1937 г. у Драгічынскім павеце адзначаліся наступныя паказчыкі ўраджайнасці: 9,7 цэнтнера жыта з 1 га, 7,2 пшаніцы, 8,6 ячменю, 106 бульбы і 6,7 ільнасемя[9].

Аляксандр Свірыд, прааналізаваўшы гаспадарку на тэрыторыі сучаснага Маларыцкага раёна, які на той час з'яўляўся часткай Брэсцкага павета, адзначае, што ўраджайнасць была невысокай і даволі істотна вагалася. Напрыклад, у найбольш перадавым у агратэхнічных адносінах маёнтку Ст. Раеўскага (непадалёку ад Макран) ураджайнасць пшаніцы і ячменю складала 7 цэнтнераў з гектара, бульбы — 146 і буракоў — 300, на той час як у многіх сялян не хапала запасаў да вясны, што прымушала іх наймацца на працу да больш заможных альбо наогул эміграваць[10].

У артыкуле Таццяны Сілюк разглядаецца сацыяльна-эканамічнае развіццё Івацэвіччыны ў 1921-1939 гг., якая на той час уваходзіла ў склад Косаўскага павета. Згодна прыведзеных даных на той час тут ураджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур істотна знізілася ў параўнанні з даваеннай: пшаніцы — на 12%, жыта — на 9,2%, бульбы — на 32%[11].

Надзвычай высокую цікавасць уяўляе апісанне матэрыяльнага дабрабыту вяскоўцаў асобных палескіх вёсак таго часу, які непасрэдна залежаў ад ураджайнасці. Напрыклад, доктар гістарычных навук Аляксандр Вабішчэвіч пры паказе гісторыі роднай вёскі Рубель Столінскага павета адзначае, што на той перыяд з сельскагаспадарчых культур 50% абшараў складала жыта (яго ўраджайнасць 10 цэнтнераў з га), 10% авёс (той жа ўраджайнасці), 20% бульба (адпаведна 120), 10% лён і каноплі (25), 5% ячмень (10) і 5% агародніна[12].

Што датычыць польскай гістарыяграфіі, то надзвычай высокую каштоўнасць уяўляе праца Стэфана Біскупскага, прысвечаная кошту зямлі ў Палескім ваяводстве, які канешне ў першую чаргу залежаў ад паказчыкаў яе ўраджайнасці. Згодна сцвярджэнням Біскупскага ўраджайнасць

8 *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Лунінецкага раёна*, Мінск 1995, с. 256.

9 *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Драгічынскага раёна*, Мінск 1997, с. 118.

10 А. Н. Свирид, *Развитие торговли, промышленности и сельского хозяйства в Малоритской, Великоритской и Олтушской гминах 1921-1939 гг.*, «Вестник БрГТУ», 2016, № 6, с. 22.

11 Т. С. Сілюк, *Сацыяльна-эканамічнае развіццё Івацэвіччыны ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай (1921-1939 гг.)*, «Вучоныя запіскі Брэсцкага ўніверсітэта», 2011, вып. 7, ч. 1, с. 87.

12 А. М. Вабішчэвіч, *Вёска Рубель на Століншчыне: гістарычна-краязнаўчы нарыс*, Брэст 2021, с. 110.

асноўных сельскагаспадарчых культур у Палескім ваяводстве складала 8,8 цэнтнера з гектара ці прыкладна палову ад ураджайнасці Познаньскага ваяводства, аднаго з самых перадавых у эканамічным плане ў міжваеннай Польшчы. Паводле ацэнак Біскупскага згодна паказчыкаў ураджайнасці самаакупальнымі з усіх паветаў Палескага ваяводства былі Брэсцкі, Кобрынскі, Драгічынскі і Пружанскі паветы[13].

Ежы Незбжыцкі даследаваў асаблівасці Палескага ваяводства згодна стратэгічных планаў польскага вайсковага камандавання, у сувязі з чым прааналізаваў прыродныя, кліматычныя і эканамічныя асаблівасці рэгіёна, у тым ліку і спецыфіку развіцця сельскай гаспадаркі, найперш за ўсё ўрадлівасць мясцовых зямель і на гэтай аснове матэрыяльнае становішча мясцовага сялянства. Згодна яго звестак на 1930 г. стан ураджайнасці ў цэнтнерах з га быў наступным[14]:

| Ваяводства | Пшаніца | Жыта | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|
| Палескае | 9,2 | 10,2 | 9,4 | 9,9 | 85 |
| Навагрудскае | 11,3 | 9,9 | 10,1 | 9,7 | 114 |
| Валынскае | 11,5 | 10,8 | 10,0 | 9,6 | 116 |
| Польшча | 13,3 | 12,8 | 13,8 | 14,0 | 116 |

Такім чынам, ураджайнасць не дазваляла задаволіць на Палессі патрэбы нават мясцовага насельніцтва, аднак у буйной зямельнай уласнасці (па савецкай тэрміналогіі памешчыкаў, з абшарам больш 50 га) ураджайнасць была вышэйшай на 10-40%.

Разам з тым ва ўмовах пасляваеннай разрухі ўраджаі даволі істотна падалі:

| Год | Пшаніца | Жыта | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдняя ўраджайнасць у цэнтнерах з га | | | | | |
| 1909-1913 | 11,6 | 11,9 | 12,2 | 13,5 | 146 |
| 1921-1922 | 8,4 | 9,4 | 8,8 | 7,0 | 132 |
| 1922-1923 | 9,2 | 10,2 | 9,4 | 9,9 | 85 |
| 1923-1924 | 6,4 | 7,1 | 6,8 | 5,4 | 89 |
| 1924-1925 | 9,4 | 10,8 | 8,3 | 8,3 | 100 |

[13] S. Biskupski, *Ceny ziemi w województwie poleskiem w latach 1924-1929*, Warszawa 1931, s. 2.

[14] J. Niezbrzycki *Polesie: opis wojskowo-geograficzny i studium terenu*, Warszawa 1930, s. 312.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У працэнтах адносна норм 1909-1913 гг. | | | | | |
| 1921-1922 | 72,4 | 79,0 | 72,1 | 51,9 | 90 |
| 1922-1923 | 79,3 | 85,7 | 77,0 | 73,3 | 58 |
| 1923-1924 | 55,2 | 59,7 | 55,7 | 40,0 | 61 |
| 1924-1925 | 81,0 | 90,8 | 68,0 | 61,5 | 68 |
| У працэнтах да норм 1921-1922 гг. | | | | | |
| 1922-1923 | 110 | 108 | 107 | 141 | 64 |
| 1923-1924 | 76 | 76 | 77 | 77 | 67 |
| 1924-1925 | 102 | 115 | 94 | 119 | 76 |

У сувязі з гэтым недахоп ці залішак збожжа ў сялян Палесся пры вызначэнні спажывання па мінімуме (збожжавага хлеба ў 180 кг на асобу, ячменю — 12, аўса і бульбы — па 60) быў у цэнтнерах наступным:

| Павет | Збожжа на хлеб | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|
| Брэсцкі | -373 375 | +9 175 | -15 860 | +301 160 |
| Драгічынскі | -52 410 | -455 | -11 825 | -40 630 |
| Камень-Кашырскі | -70 665 | +590 | -25 095 | -175 850 |
| Кобрынскі | +1 920 | +4 090 | -9 085 | +178 315 |
| Косаўскі | +47 310 | +10 210 | +17 875 | -509 525 |
| Лунінецкі | -159 200 | +375 | -64 590 | -453 410 |
| Пінскі | -90 585 | +590 | -48 145 | -256 185 |
| Пружанскі | -5 625 | +2 055 | -5 685 | +195 075 |
| Сарненскі | -158 570 | +9 625 | -51 910 | +376 500 |
| Палессе ў цэлым | -528 995 | +36 255 | -214 330 | -118 550 |

Першым у польскай гістарыяграфіі комплексным выданнем, прысвечаным Палескаму ваяводству, стала праца Ежы Тамашэўскага, у якой паказаны асноўныя ўмовы развіцця мясцовай сельскай гаспадаркі, адзначаецца яе слабая арыентаванасць на рынак. Тамашэўскі падкрэслівае выразную эканамічную адсталасць Палесся, якая яскрава праяўлялася перш за ўсё ў паказчыках ураджайнасці, разам з тым адзначаецца, што яны маглі вагацца нават на тэрыторыі асобнай гміны, якія часам ахоплівалі больш 80 вёсак. Акрамя таго ўраджайнасць істотна залежала ад прыродных фактараў — кожная засуха ці залева, надзвычай ранняя ці позняя замаразкі гразілі істотнымі цяжкасцямі і, зразумела, перш за ўсё голадам. Адносна ўраджайнасці Палесся на працягу 1929-1938 гг. у параўнанні з агульнапольскімі паказчыкамі ў выданні на аснове аналізу

статыстычных звестак змешчаны наступныя даныя (у цэнтнерах з 1 га даныя за 1929-1935 гг. прыведзены адносна ўсіх усходніх ваяводстваў)[15]:

| Сельскагаспадарчая культура | 1929-1933 | 1934 | 1935 | 1936 | 1937 | 1938 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Польшча | | | | | | |
| Жыта | 11,4 | 11,5 | 11,4 | 10,9 | 9,9 | 12,3 |
| Ячмень | 12,1 | 12,3 | 12,0 | 11,8 | 11,1 | 11,6 |
| Авёс | 11,6 | 11,6 | 11,6 | 11,7 | 10,2 | 11,7 |
| Бульба | 113 | 121 | 115 | 118 | 135 | 114 |
| Палескае ваяводства | | | | | | |
| Жыта | 8,7 | 10,4 | 10,0 | 9,8 | 8,6 | 10,7 |
| Ячмень | 10,0 | 11,4 | 10,6 | 8,7 | 6,4 | 7,4 |
| Авёс | 9,0 | 10,3 | 10,8 | 9,3 | 7,2 | 8,3 |
| Бульба | 90 | 118 | 105 | 99 | 120 | 107 |
| У працэнтах да перыяду 1929-1933 гг., Польшча | | | | | | |
| Жыта | 100 | 101 | 100 | 96 | 87 | 108 |
| Ячмень | 100 | 102 | 99 | 98 | 92 | 96 |
| Авёс | 100 | 100 | 100 | 101 | 88 | 101 |
| Бульба | 100 | 107 | 102 | 104 | 119 | 101 |
| У працэнтах да перыяду 1929-1933 гг., Палескае ваяводства | | | | | | |
| Жыта | 100 | 118 | 115 | 113 | 99 | 123 |
| Ячмень | 100 | 114 | 106 | 87 | 64 | 74 |
| Авёс | 100 | 114 | 120 | 103 | 80 | 92 |
| Бульба | 100 | 123 | 117 | 110 | 133 | 119 |

Высокую навуковую вартасць уяўляюць прыведзеныя вядомым даследчыкам заходнебеларускай праблематыкі Войцехам Сляшынскім (Беласток) звесткі аб сярэдніх паказчыках ураджайнасці асноўных сельскагаспадарчых культур на Палессі за 1925-1935 гг. са спасылкай на матэрыялы перыядычнага друку, згодна з якім палескія можна ацаніць як надзвычай высокія паказчыкі ўраджайнасці і нават прыкладна роўнымі сярэднепольскім, аб чым сведчыць наступная табліца[16]:

15 J. Tomaszewski, *Z dziejów Polesia: zarys stosunków społeczno-ekonomicznych*, Warszawa 1963, s. 123.

16 W. Śleszyński, *Województwo poleskie*, Kraków 2014, s. 133.

| Павет | Пшаніца | Жыта | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|
| Брэсцкі | 12 | 11,1 | 11,9 | 10,8 | 116 |
| Драгічынскі | 11,4 | 13,8 | 12,8 | 12,5 | 97 |
| Камень-Кашырскі | 7 | 7,6 | 8 | 7,8 | 83 |
| Кобрынскі | 9,5 | 10,5 | 10,1 | 9,3 | 89 |
| Косаўскі | 9 | 9,9 | 11,2 | 9,6 | 109 |
| Лунінецкі | 9,1 | 10,6 | 9,4 | 9,2 | 107 |
| Пінскі | 7,9 | 10,4 | 8,6 | 9,5 | 101 |
| Пружанскі | 12,1 | 11,7 | 10,8 | 10,6 | 110 |
| Столінскі | 8 | 12 | 9,9 | 9,5 | 112 |
| Польшча | 12,1 | 11,1 | 12,3 | 11,6 | 121 |

У працы Зофіі Тамчонак, прысвечанай грамадска-палітычнаму руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг., падкрэсліваецца вастрыня аграрнага пытання. Даследчыца аналізуе матэрыяльнае становішча мясцовага насельніцтва, што з'яўлялася адным з асноўных фактараў іх палітычнай актыўнасці. У сувязі з гэтым, напрыклад, адносна паказчыкаў ураджайнасці адзначаецца, што на Палессі яны былі аднымі з самых нізкіх, праведзена параўнанне сярэдніх памераў ураджайнасці (у цэнтнерах з га), падкрэсліваецца, што акрамя слабой якасці мясцовых ворных зямель гэта было таксама выклікана недастатковым ужываннем штучных угнаенняў[17]:

| Ваяводства / Сельскагаспадарчыя культуры | Віленскае | | Навагрудскае | | Палескае | | Польшча |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925-1929 | 1931 | 1925-1929 | 1931 | 1925-1929 | 1931 | 1925-1929 |
| Пшаніца | 8,5 | 7,2 | 9,9 | 10,4 | 7,9 | 9,5 | 12,3 |
| Жыта | 6,7 | 4,8 | 8,8 | 7,3 | 9,8 | 7,1 | 10,9 |
| Авёс | 6,7 | 7,5 | 8,4 | 9,2 | 7,8 | 8,0 | 11,5 |
| Лён насенне | 4,3 | 3,1 | 5,5 | 5,5 | 6,3 | 5,4 | 5,9 |
| Лён валакно | 3,8 | 3,5 | 4,3 | 4,1 | 3,6 | 2,9 | 5,0 |
| Бульба | 77 | 91 | 109 | 99 | 79 | 84 | 107 |

[17] Z. Tomczonek, *Ruch ludowy na kresach północno-wschodnich Drugiej Rzeczypospolitej*, Białystok 1996, s. 29-30.

Што датычыць крыніцавых матэрыялаў, то надзвычай каштоўнымі з'яўляюцца звесткі са статыстычных сельскагаспадарчых штогоднікаў, выдадзеных у 1930-ых гг. У даведніках фіксаваліся асноўныя сельскагаспадарчыя паказчыкі па ўсёй Польшчы, дзякуючы чаму можна параўнаць звесткі па Палескім ваяводстве з іншымі заходнебеларускімі, суседнім Валынскім і сярэднепольскімі. Паводле даных на 1937 г. сітуацыя была наступнай[18]:

| Ваяводства | Авёс | Ячмень | Бульба | Проса | Кукуруза | Гарох |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Палескае | 7,2 | 6,4 | 120 | 10,5 | 10,4 | 6,5 |
| Беластоцкае | 7,0 | 7,1 | 141 | 11,5 | 5,3 | 3,1 |
| Навагрудскае | 8,4 | 8,6 | 126 | 7,9 | 15,3 | 6,2 |
| Віленскае | 7,8 | 7,2 | 108 | 4,4 | 10,0 | 4,2 |
| Валынскае | 12,2 | 11,1 | 123 | 13,5 | 12,7 | 7,5 |
| Польшча | 10,2 | 12,9 | 135 | 13,1 | 11,2 | 7,6 |

Вялікую цікавасць уяўляюць таксама матэрыялы малога статыстычнага штогодніка, у якім прыведзены паказчыкі ўраджайнасці па ваяводствах, дзякуючы чаму можна параўнаць звесткі па Палескім ваяводстве з іншымі заходнебеларускімі, суседнім Валынскім і сярэднепольскімі. Вось напрыклад даныя за 1938 г. (у цэнтнерах з 1 га)[19]:

| Ваяводства | Пшаніца | Жыта | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|---|
| Палескае | 9,4 | 10,4 | 7,4 | 8,3 | 107 |
| Беластоцкае | 9,5 | 10,8 | 9,1 | 9,7 | 105 |
| Навагрудскае | 9,1 | 10,7 | 8,3 | 8,8 | 111 |
| Віленскае | 7,6 | 8,1 | 7,6 | 8,3 | 95 |
| Валынскае | 11,8 | 11,7 | 11,2 | 11,6 | 98 |
| Польшча | 12,4 | 12,3 | 11,6 | 11,7 | 114 |

## Заключэнне

Разглядаемае пытанне даволі шырока асвятлялася ў айчыннай і замежнай гістарыяграфіі, але разам з тым назіраецца адсутнасць комплекснай навуковай працы, прысвечанай непасрэдна паказчыкам ураджайнасці асноўных сельскагаспадарчых культур і ў цэлым ворнай зямлі на Палессі ў 1921-1939 гг. і даволі шырокую разбежку прыводзімых паказчыкаў.

18 *Statystyka rolnicza 1937*, Warszawa 1938, s. 16-18.
19 *Mały rocznik statystyczny*, Warszawa 1939, s. 78-79.

Разам з тым паводле прыведзеных статыстычных матэрыялаў можна зрабіць выснову, што ўраджайнасць Палескага ваяводства толькі нязначна саступала іншым заходнебеларускім ваяводствам, а ў адносінах да Віленскага нават у некаторай ступені пераўзыходзіла.

З мэтай дакладнага высвятлення паказчыкаў ураджайнасці неабходна правесці больш маштабнае даследаванне і аналіз крыніцавых матэрыялаў таго часу, перш за ўсё справаздач мясцовых улад, даных статыстычных даведнікаў і архіўных матэрыялаў.

**Summary**

**Fertility of Arable Land in the Polesie Voivodeship in the Years 1921-1939: an Overview of the Problem**

The article is devoted to research on the fertility rates of the main agricultural crops in the lands of the Polesie Voivodeship in the years 1921-1939. It shows the researchers' approach to the subject matter and analyzes the source base. At that time, the Polesie voivodeship was rightly assessed by contemporaries as exclusively agricultural, because the absolute majority of the local population were peasants whose prosperity directly depended on the size of farms and their productivity rates, which determined the study.

**Keywords**: fertility, Polesie, arable land, agricultural policy.

**Streszczenie**

**Urodzajność gruntów ornych województwa poleskiego w latach 1921-1939: przegląd problemu**

Artykuł poświęcony jest badaniom wskaźników urodzajności głównych upraw rolnych na ziemiach województwa poleskiego w latach 1921-1939, ukazaniu podejścia badaczy do przedmiotowego zagadnienia oraz analizie bazy źródłowej. Województwo polskie było wówczas przez współczesnych słusznie oceniane jako wyłącznie rolnicze, ponieważ bezwzględną większość miejscowej ludności stanowili chłopi, których dobrobyt bezpośrednio zależał od wielkości gospodarstw rolnych i wskaźników ich produktywności, co determinowało przeprowadzenie badania.

**Słowa kluczowe:** urodzajność, Polesie, grunty orne, kultura rolna.

**Wital Harmatny** — kandydat nauk historycznych, kierownik Wydziału Pracy Wychowawczej z Młodzieżą Prywatnego Instytutu Zarządzania i Przedsiębiorczości w Mińsku. Zainteresowania naukowe: historia agrarna Zachodniej Białorusi w latach 1921-1939, rozwój gospodarczy i społeczno-polityczny województwa poleskiego.

**Ілля Вярбіла**
(Мінск)

# Павільён БССР на Усесаюзнай выставе 1923 г. у Маскве: пошукі нацыянальнага стылю беларускай архітэктуры

## 1. Усесаюзная выстава 1923 г. і БССР

Першая Усесаюзная сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстава ў Маскве[1] была вельмі значнай эканамічнай, міжнароднай і культурнай падзеяй для савецкай улады. Для Беларускай Савецкай рэспублікі ўдзел у выставе быў першай магчымасцю прадэманстраваць свае гаспадарчыя і культурныя дасягненні. Улічваючы наступствы Першай сусветнай вайны і цалкам разбураную гаспадарку, Беларускі выставачны камітэт (Выстнкамбел) асноўны акцэнт удзелу БССР у выставе зрабіў менавіта на дэманстрацыі культурных набыткаў і этнаграфічных асаблівасцей Беларусі.

У першыя мірныя гады ў БССР паступова адраджаліся розныя галіны беларускай культуры і мастацтва. Амаль з самага пачатку існавання БССР беларускія навукоўцы і культурныя дзеячы пачалі даследаванні гісторыі айчыннай архітэктуры, падчас якіх паўстала пытанне вызначэння нацыянальнага стылю архітэктуры, які можна было б выкарыстоўваць для адбудовы беларускіх гарадоў і праектавання новых будынкаў.

У артыкуле даследуецца ўдзел БССР ва Усесаюзнай выставе 1923 г., пабудова асобнага выставачнага павільёна Беларусі і асаблівасці яго знешняга выгляду ў кантэксце першых крокаў у пошуках нацыянальнага архітэктурнага стылю ў БССР.

Сярод беларускіх даследчыкаў у сучаснай гістарыяграфіі першай тэму ўдзелу БССР у выставе і падрыхтоўкі да яе закранула Марыя Бяспалая ў артыкуле „Беларусь на Першай Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужнай выставе 1923 г." у 1997 годзе[2]. У год 100-гадовага юбілею выставы да пытання ўдзелу ў ёй БССР звярнуліся Алена Макаранка ў артыкуле „К 100-летию открытия белорусского павильёна

[1] Да 17 жніўня 1923 г. мела назву Усерасійская сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстава.

[2] М. А. Бяспалая, *Беларусь на Першай Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужнай выставе 1923 г.*, «Спадчына», 1997, № 1, с. 101-109.

Всероссийской сельскохозяйственной и кустарно-промышленной выставки в г. Москве”[3], а таксама Сяргей Грунтоў, Яніна Грыневіч, Надзея Саўчанка — аўтарскі калектыў альбома-манаграфіі „Забытая экспедыцыя 1923 года”, у якой падрыхтоўцы да выставы прысвечаны асобны раздзел[4]. Акрамя таго, у кантэксце выхаду альбома-манаграфіі ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі была арганізавана выстава „Забытая экспедыцыя. 100 год”, дзе былі прадстаўлены фота і архіўныя дакументы па тэме.

Асноўнымі архіўнымі крыніцамі па пытанні ўдзелу ў выставе 1923 г. дэлегацыі БССР з’яўляюцца фонд № 645 Выставачнага камітэта БССР і фонд № 15 Паўнамоцнага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе РСФСР, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Дакументы характарызуюць працэс падрыхтоўкі БССР да Усесаюзнай выставы, у справах фонду захоўваюцца пратаколы пасяджэнняў Высткамбела, справаздачы ўстаноў і наркаматаў аб падрыхтоўцы да выставы і інш. Паўнамоцнае прадстаўніцтва і яго супрацоўнікі адыгралі значную ролю ў арганізацыі выставы, вырашалі аператыўныя праблемы беларускай дэлегацыі ў Маскве, удзельнічалі ў перамовах з прадстаўнікамі Галоўвысткама, вялі нагляд за будаўніцтвам павільёна БССР на выставе.

Важнай крыніцай па будаўніцтве і архітэктуры павільёнаў Усесаюзнай выставы 1923 г. з’яўляецца архіў яе галоўнага архітэктара Аляксея Віктаравіча Шчусева. З 2018 г. гэты архіў знаходзіцца ў калекцыі маскоўскага Музея сучаснага мастацтва „Гараж” у якасці асобнага фонду. У фондзе захоўваецца праектна-будаўнічая дакументацыя Усесаюзнай выставы 1923 года: генеральны план выставы, архітэктурныя і ландшафтныя планы і чарцяжы, эскізы павільёнаў і дэталяў іх мастацкага аздаблення, фотаздымкі. Важнасць архіва А. Шчусева, як крыніцы для даследавання ўдзелу БССР у выставе 1923 г. палягае ў тым, што ў фондах НАРБ выяўленчыя матэрыялы па праектах павільёна БССР і іх варыянтах захаваліся фрагментарна і не даюць цэласнага ўяўлення аб знешнім выглядзе і асаблівасцях будынка павільёна БССР на выставе. Дакументы архіва А. Шчусева алічбаваныя і знаходзяцца ў вольным доступе на сайце Сеткі архіваў расійскага мастацтва RAAN[5].

[3] Е. А. Макаренко, *К 100-летию открытия белорусского павильона Всероссийской сельскохозяйственной и кустарно-промышленной выставки в г. Москве*, «Юстиция Беларуси», 2023, № 7, с. 63-68.

[4] С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года: ля вытокаў акадэмічнай этнаграфіі ў Беларусі: альбом-манаграфія*, Мінск 2023, 216 с.

[5] https://russianartarchive.net/ru [доступ: 10.09.2024].

Ідэя арганізацыі Усесаюзнай выставы з'явілася на IX Усерасійскім з'ездзе Саветаў 23-28 снежня 1921 г.[6] Канчатковае рашэнне аб правядзенні выставы і часе яе адкрыцця было зацверджана амаль праз год пастановай Прэзідыума УЦВК ад 20 кастрычніка 1922 г., а старшынёй Галоўнага Выставачнага камітэта (Галоўвысткам) быў прызначаны Абрам Рыгоравіч Брагін[7]. Галоўвысткам надаваў вялікае значэнне ўдзелу ў выставе савецкіх рэспублік. Усім рэспублікам была дадзена магчымасць пабудаваць уласныя павільёны для дэманстрацыі асаблівасцей жыцця кожнага народа[8]. Усесаюзная выстава і выставачны комплекс для яе правядзення ў Маскве павінны былі быць падрыхтаваны ў вельмі кароткі тэрмін, таму першапачатковы план правядзення выставы, колькасць рэспублік-удзельніц і фармат іх удзелу некалькі разоў змяняліся падчас падрыхтоўчага працэсу.

Падрыхтоўка да ўдзелу БССР у выставе пачалася яшчэ ў 1922 годзе і праходзіла пад кіраўніцтвам ЦВК, які сфарміраваў на базе Наркамата земляробства спецыяльную ўстанову — Высткамбел, які ўзначаліў наркам земляробства БССР Адам Славінскі[9]. Паступова дзяржаўныя ўстановы ўсё больш уключаліся ў падрыхтоўчую працу. Народны камісарыят земляробства БССР даў прынцыповую згоду на ўдзел у выставе і сфармуляваў уласныя прапановы па фармаце яе правядзення 11 снежня 1922 года[10]. Тады ж пачалася падрыхтоўка каштарыса да ўдзелу БССР у выставе. Першапачатковы каштарыс БССР склаў 50 тыс. руб. золатам — вельмі значная сума, якую Высткамбел разлічваў атрымаць ад маскоўскага Галоўвысткама, бо сродкаў на правядзенне выставы ні Наркамзем, ні СНК БССР не мелі[11]. Але ўжо ў канцы студзеня Галоўвысткам разгледзеў каштарыс БССР для ўдзелу ў выставе і пастанавіў скараціць яго да 21 тыс. руб. Канчатковае рашэнне аб фінансавай магчымасці будаўніцтва асобнага беларускага павільёна было прынята толькі ў пачатку лютага 1923 г. на пасяджэнні Высткамбела[12].

[6] Е. А. Макаренко, *К 100-летию открытия белорусского павильёна Всероссийской сельскохозяйственной и кустарно-промышленной выставки в г. Москве*, «Юстиция Беларуси», 2023, № 7, с. 63.
[7] *Всероссийская сельско-хозяйственная и кустарно-промышленная выставка с иностранным отделом. Материалы и документы*, Москва 1922, с. 5.
[8] Там жа, с. 10.
[9] С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 145.
[10] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НАРБ), ф. 15, воп. 1, спр. 50, арк. 12.
[11] Там жа, арк. 16.
[12] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 7.

Першапачаткова конкурс на праект беларускага выставачнага павільёна праводзіць не планавалася, 1 сакавіка 1923 г. на пасяджэнні Высткамбела было вырашана звярнуцца ў Будаўнічае бюро для падрыхтоўкі каштарысаў і праектаў павільёна[13]. Адначасова, у пачатку сакавіка 1923 г. змяняецца сітуацыя ў Маскве: Галоўвысткам прапануе выключыць БССР са спісу рэспублік, якія будуць прадстаўлены на выставе асобнымі павільёнамі і пакінуць прадстаўніцтва Беларусі толькі ў агульнадзяржаўных павільёнах. Паўнамоцнае прадстаўніцтва БССР у сваім звароце ад 8 сакавіка заяўляе аб неабгрунтаванасці такога рашэння Галоўвысткама. Прадстаўніцтва даводзіць, што такім чынам будзе парушаны прынцып прысутнасці на выставе ўсіх рэспублік СССР, акрамя таго, такое рашэнне Галоўвысткама будзе палітычна няправільным і не можа быць ухвалена вышэйшымі органамі ўлады краіны. Таму Прадстаўніцтва просіць Галоўвысткам „безумоўна даць Беларусі магчымасць мець асобны павільён”[14]. Можна меркаваць, што пасля ўмяшання ў справу Паўнамоцнага прадстаўніцтва сітуацыя з павільёнам хутка вырашылася на карысць БССР і права на асобны павільён Беларусь захавала.

Нягледзячы на тыя захады, якія прымала Паўнамоцнае прадстаўніцтва БССР, праблемы з фінансаваннем цалкам вырашаны не былі і ў выніку беларуская частка выставы была пабудавана ў больш сціплым варыянце. 24 траўня 1923 г. кіраўнік Высткамбела А. Славінскі перадае інфармацыю з Масквы аб тым, што павільён Беларусі будзе моцна зменены ў параўнанні з зацверджаным у Мінску праектам. Адначасова была заключана канчатковая дамова з Галоўвысткамам аб часе і месцы пабудовы павільёна. Згодна з рахункам Галоўвысткама, на пабудову павільёна вырашана было прасіць у СНК БССР 14 тыс. руб. золатам[15]. Пазней адмовіліся таксама ад ідэі будаваць разам з выставачным павільёнам тыповую беларускую сялянскую сядзібу. У пачатку чэрвеня было вырашана, што побытавая частка экспазіцыі замест сядзібы будзе дэманстравацца ў асобнай частцы галоўнага павільёна БССР[16].

Варта адзначыць, што фінансавыя і арганізацыйныя праблемы адыгралі значную ролю ў працэсе падрыхтоўкі беларускай часткі выставы і будаўніцтве выставачнага павільёна. Змены ў канцэпцыі выставы Галоўвысткама і няпэўнасць у пытаннях фінансавання скарацілі маштаб прадстаўніцтва БССР на выставе і паўплывалі на адмову

13 Там жа, арк. 19.
14 НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 38, арк. 134.
15 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 55.
16 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 7, арк. 292.

ад першапачатковага праекта павільёна, падрыхтаванага беларускімі архітэктарамі. У выніку, беларускі павільён быў пабудаваны па значна больш сціплым праекце.

## 2. Першыя крокі пошуку беларускага стылю архітэктуры ў БССР і Усесаюзная выстава

На пачатку падрыхтоўкі да выставы праблема існавання самабытнага беларускага мастацтва і архітэктуры была пастаўлена ў навуцы зусім нядаўна. Расійскія і польскія гісторыкі і мастацтвазнаўцы, якія вывучалі архітэктуру беларускіх зямель у XIX ст. не вылучалі асобна беларускае мастацтва і беларускі стыль у архітэктуры. Толькі падчас Першай сусветнай вайны нямецкія даследчыкі Альберт Іпель і П. Вебер звярнулі ўвагу на самабытнае беларускае мастацтва і адметную гістарычную архітэктуру беларускіх зямель.

У сваю чаргу, першыя спробы ўвасобіць на практыцы беларускі архітэктурны стыль пачаліся раней за тэарэтычнае вылучэнне беларускага мастацтва ў якасці самабытнай з'явы. Некаторыя архітэктары, якія працавалі на Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. сталі цікавіцца мясцовымі архітэктурнымі традыцыямі і формамі, спрабавалі на грунце архітэктурных рыс, гістарычна характэрных для беларускіх зямель, стварыць сучасны нацыянальны стыль у архітэктуры. Самым вядомым з такіх архітэктараў быў Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Вучыўся ў Пецярбургу і Парыжы, у 1880-1890 гг. працаваў будаўнічым майстрам у Магілёўскай губерні, шмат займаўся рэстаўрацыяй і аднаўленнем касцёлаў і цэркваў. У 1916 г. спраектаваў касцёл у Янатрудзе ў беларускім стылі, прычым асобна адзначаў, што яму давялося самому вылучыць, на яго думку, асноўныя рысы і характарыстыкі стылю, бо ніякіх згадак пра беларускі архітэктурны стыль у літаратуры тады не было[17]. На аснове гэтага праекта з некаторымі зменамі ў 1928 г. быў пабудаваны касцёл у Дрысвятах.

Таксама ў гэтым кантэксце трэба згадаць мінскага епархіяльнага архітэктара Віктара Струева, які ў канцы XIX ст. у некаторых сваіх праектах спрабаваў выкарыстоўваць формы і мастацкія прыёмы, характэрныя для традыцыйнага царкоўнага дойлідства беларускіх зямель.

У 1920-1930 гг. нацыянальныя матывы ў беларускай архітэктуры шырока выкарыстоўваюцца на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая

[17] С. Харэўскі, *Беларускі стыль у будаўніцтве 1921-1939 гг.*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2002, № 18, с. 208.

заставалася пад кантролем Польшчы. Працягваў працаваць у гэтым кірунку згаданы вышэй Л. Вітан-Дубейкаўскі. Менавіта ў гэты час ён увасобіў у некалькіх будынках уласны беларускі стыль. Акрамя таго Вітан-Дубейкаўскі падрыхтаваў першую тэарэтычную працу па нацыянальнай беларускай архітэктуры „Эвалюцыя і рэформа дзераўлянага будоўніцтва", у якой звярнуў увагу на характэрныя асаблівасці беларускіх драўляных збудаванняў[18]. Таксама ў „крэсавым" ці „мясцовым" стылі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўзводзілі будынкі архітэктары Юліуш Клос, А. Дубянецкі, Ян Бароўскі і іншыя.

Інфармацыя пра пошукі беларускага стылю архітэктуры ў БССР у міжваенны час у беларускай гістарыяграфіі амаль адсутнічае. Асобныя згадкі пра сам факт існавання такіх пошукаў прыводзяцца ў кантэксце поўнай адсутнасці звестак пра канкрэтныя эпізоды гэтага працэсу[19]. Традыцыйна першым новым стылем, які пачынае выкарыстоўвацца ў будаўніцтве БССР у канцы 1920 гг. у рэчышчы агульнасаюзнага развіцця архітэктурных напрамкаў, называюць канструктывізм.

Пасля ўтварэння БССР беларускія навуковыя і культурныя дзеячы, аб'яднаныя ў структурах Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), пачалі развіваць думку пра існаванне самабытнага беларускага мастацтва і архітэктуры. Аднак у пачатку 1920-ых гг. сталае разуменне аб тым, якія характарыстыкі павінны вылучаць беларускі архітэктурны стыль, яшчэ не сфарміравалася. Гісторык Мікалай Улашчык у сваіх мемуарах згадвае размовы пра беларускі архітэктурны стыль, якія вяліся ў тыя часы сярод беларускіх студэнтаў: «А якім гэты стыль павінен быць — толкам тады мала хто ведаў. Той-сёй падсміхаўся: гняздо буслінае ўзнясіце над дахам — вось вам і стыль беларускі»[20].

Актыўнай працай па вывучэнні беларускага мастацтва і разам з тым захадамі па распрацоўцы нацыянальнага стылю для беларускай архітэктуры займаўся цэлы шэраг даследчыкаў. Свой уклад унеслі Мікалай Брунаў, Іван Хозераў, Уладзімір Краснянскі, Пётр Красавіцкі, аднак галоўнымі ідэолагамі вывучэння беларускага мастацтва наогул і выяўлення беларускага стылю ў архітэктуры ў прыватнасці былі Мікалай Шчакаціхін і Мікалай Каспяровіч. М. Шчакаціхін, які фактычна стаяў у вытокаў беларускага мастацтвазнаўства, склаў грунтоўны курс

18 Там жа.

19 Е. В. Морозов, *Идеи национального возрождения в архитектурной стилистике Беларуси 1920-30-ых гг.*, [у:] *Архитектура: сборник научных трудов*, Минск 2012, вып. 5, с. 30.

20 М. Улашчык, *Даць народу гісторыю: успаміны, лісты*, уклад. А. Каўка і М. Скобла, Мінск 2016, с. 332.

лекцый па гісторыі беларускага мастацтва, які пазней паклаў у аснову сваіх «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва». Уключаюцца ў працу адраджэння гістарычнага і стварэння новага беларускага мастацтва і мастацкія дзеячы — у першую чаргу выбітны беларускі мастак Міхаіл Філіповіч.

Актыўнасць у вывучэнні беларускімі навукоўцамі пытанняў, звязаных з беларускай архітэктурай добра ілюструе той факт, што нават час прабывання ў Маскве, звязаны з падрыхтоўкай і працай на Усесаюзнай выставе, яны спрабавалі скарыстаць для далейшага вывучэння гісторыі беларускай архітэктуры. Так, захавалася запіска Паўнамоцнага прадстаўніцтва Беларусі ў РСФСР кіраўніку Румянцаўскай бібліятэкі з просьбай даць магчымасць працаваць у ёй Міхаілу Мялешку, які займаецца даследаваннямі каменных помнікаў беларускай архітэктуры[21].

Першую згадку пра магчымасць аздаблення будынкаў у беларускім стылі ў БССР можна знайсці ў матэрыялах да падрыхтоўкі сельскагаспадарчай выставы, якую планавалася правесці ў Мінску ў 1922 годзе. На ёй планавалася прадэманстраваць актуальны стан розных галін беларускай сельскай гаспадаркі і прамысловасці[22]. З-за браку грашовых рэсурсаў ад правядзення выставы ў сталіцы БССР адмовіліся, аднак у дакументах аб падрыхтоўцы да выставы захаваліся каштарысы, у якіх асобным пунктам пазначана неабходнасць „прыдаць беларускі стыль выстаўке”. Знешняе і ўнутранае аздабленне выставы ў беларускім стылі даручалася мастаку М. Філіповічу[23].

Канцэпцыя Усесаюзнай выставы 1923 г. прадугледжвала вялікую ролю ўдзелу ў выставе саюзных і аўтаномных рэспублік. Як адзначалі супрацоўнікі Галоўвысткама, у прыватнасці галоўны дырэктар выставы А. Р. Брагін, ідэя пабудовы асобных павільёнаў для рэспублік з’явілася на пазнейшых этапах абмеркавання асноўных умоў выставы і была ініцыятывай саміх прадстаўнікоў саюзных рэспублік[24]. Прадстаўнікі рэспублік патрабавалі ад Галоўвысткама вылучыць асобныя аддзелы на выставе для дэманстрацыі дасягненняў кожнай рэспублікі. Па выніку абмеркавання было знойдзена кампраміснае рашэнне — асноўная структура выставы захавала галіновы прынцып сістэматызацыі, аднак рэспублікі атрымалі магчымасць пабудаваць уласныя павільёны, каб прадэманстраваць свае гаспадарчыя дасягненні і культурныя адрозненні ад астатняй краіны.

[21] НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 38, арк. 762.
[22] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 6а, арк. 69.
[23] Там жа, арк. 2.

Сыходзячы з абранай канцэпцыі, падчас пабудовы выставы нацыянальным павільёнам надавалася шмат увагі з боку майстэрні галоўнага архітэктара выставы. Прызначаны галоўным архітэктарам акадэмік Аляксандр Віктаравіч Шчусеў пачынаў кар'еру архітэктара ў дарэвалюцыйнай Расіі з будаўніцтва храмаў, з 1901 г. служыў у канцылярыі Обер-пракурора Сінода. Займаўся тэмай навуковай рэстаўрацыі старажытнарускіх храмаў, у 1910 годзе атрымаў званне акадэміка архітэктуры за рэстаўрацыю Свята-Васільеўскага сабора XII ст. у Оўручы. Прыкладамі творчасці А. В. Шчусева з'яўляюцца маскоўскі Казанскі вакзал, Марфа-Марыінскі манастыр і інш. У сваіх будынках 1900-1910-ых гг. А. Шчусеў прытрымліваўся рускай нацыянальнай версіі архітэктурнага мадэрну. У выданнях, прысвечаных падрыхтоўцы выставы, звяртаецца ўвага на галоўны кірунак архітэктурнай працы А. Шчусева — „аднаўленне старажытна-рускага архітэктурнага стылю па яго сапраўдным першакрыніцам пазбягаючы тое змяшэнне розных характараў і архітэктурных манер XVIII стагоддзя, якое доўга лічылася ў нас «рускім стылем»”[25]. Такім чынам, галоўны архітэктар выставы сам працаваў у рэчышчы далейшых пошукаў новых варыянтаў і творчых перапрацовак рускага нацыянальнага архітэктурнага стылю і прыхільна адносіўся да падобных пошукаў іншых народаў.

Архітэктурна-мастацкая канцэпцыя выставы прэзентавалася як „спалучэнне Еўрапеізма з Поўднем, Усходам і Поўначчу — нашымі памежнымі рэспублікамі, а таму асноўныя павільёны рускага аддзелу, пабудаваныя на класічным грунце, суседнічалі з навакольным кангламератам характэрных этнаграфічных і нацыянальных стыляў”[26]. У сваім інфармацыйным дакладзе 12 сакавіка 1923 г. А. В. Шчусеў адзначаў, што агулам архітэктура будынкаў выставы будзе, наколькі магчыма, простая, асноўным будаўнічым матэрыялам будзе дрэва, павільёны будуць аздоблены дэкаратыўнымі элементамі і пано[27]. Генеральны план выставы было даручана скласці іншаму вядомаму расійскаму архітэктару Івану Жалтоўскаму, ураджэнцу Беларусі.

24 «Бюллетень Всероссийского Совещания о Сельско-хозяйственной и Кустарно-промышленной Выставке», 1923, № 7, с. 2.

25 «Вестник Главного выставочного комитета Всероссийской сельско-хозяйственной и кустарно-промышленной выставки с иностранным отделом», 1923, № 7, с. 52.

26 Строительство выставки. Статья, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D15099 [доступ: 02.12.2023].

27 «Бюллетень Всероссийского Совещания о Сельско-хозяйственной и Кустарно-промышленной Выставке», 1923, № 7, с. 3.

Галоўвысткам планаваў, што некаторыя рэспублікі прадставяць уласныя праекты павільёнаў, а некаторыя з-за недахопу часу і кадраў дадуць толькі эскізы, якія будуць рэалізоўваць архітэктары ў Маскве. Праектаванне павільёнаў па гэтых эскізах ускладалася на супрацоўнікаў майстэрні Галоўнага архітэктара. Сектар з нацыянальнымі павільёнамі па задуме А. Шчусева павінен быў уяўляць сабой „маляўнічую групу самых разнастайных стыляў”. Павільёны рэспублік павінны былі мець адметны выгляд, дэманстраваць яскравыя рысы нацыянальнай архітэктуры кожнай рэспублікі і маглі значна адрозніваца як адзін ад аднаго, так і ад астатняй выставы[28].

З такім падыходам Шчусева былі згодныя не ўсе ўдзельнікі абмеркавання пытання ў Галоўвысткаме. Агучваліся перасцярогі наконт магчымага залішняга захаплення гістарызмам у прадстаўнікоў рэспублік, у выніку чаго атрымаюцца грандыёзныя і багата аздобленыя павільёны, якія будуць дысгарманічна спалучацца з іншымі павільёнамі і перашкодзяць успрыманню сучаснай архітэктуры. Аднак А. Шчусеў настойваў на тым, што нельга прымушаць архітэктараў рэспублік кіравацца нейкім адзіным вызначаным стылем ці архітэктурнай формай. Па меркаванні Шчусева менавіта этнаграфічныя і нацыянальныя асаблівасці павінны выявіцца ў архітэктурных збудаваннях кожнай рэспублікі. Галоўны архітэктар нават зазначаў, што бачыць нацыянальныя павільёны „цвіком” Усесаюзнай выставы[29].

У выніку, некаторыя праекты павільёнаў рэспублік рэалізоўвалі маскоўскія архітэктары, напрыклад павільён Туркестанскай рэспублікі праектаваў Фёдар Восіпавіч Шэхтэль. У іншых рэспубліках, у тым ліку і ў БССР, адбыліся архітэктурныя конкурсы на праекты ўласных павільёнаў, на якіх перамаглі мясцовыя архітэктары. Як і задумваў Шчусеў, павільёны саюзных і аўтаномных рэспублік былі пабудаваны з шырокім выкарыстаннем рыс гістарычнай архітэктуры. У паказальніку па выставе 1923 г. асобна вылучаюцца некаторыя стылі павільёнаў рэспублік: грузінскі, сярэднеазіяцкі, украінскі, стыль кіргізскіх помнікаў і г.д.[30].

[28] Там жа, с. 4.
[29] Там жа.
[30] *Первая сельско-хозяйственная и кустарно-промышленная выставка СССР. Указатель*, вып. 1, Москва 1923, 40 с.



Іл. 1. Павільён Туркестанскай ССР у сярэднеазіяцкім стылі

Аднак, конкурсы, якія праводзіліся ў рэспубліках на праекты павільёнаў фактычна мелі толькі рэкамендацыйны характар. Канчатковае ўзгадненне і карэкціроўкі ў праекты ўносіў Галоўвысткам у Маскве. У выпадку з павільёнам БССР замест карэкціровак Галоўвысткам даручыў падрыхтаваць супрацоўніку майстэрні Галоўнага архітэктара Аляксандру Грынбергу цалкам новы праект. Падобным чынам быў зменены і праект павільёна УССР, з той розніцай, што і над новай версіяй праекта таксама працаваў украінскі архітэктар Віктар Трацэнка,




Іл. 2. Павільён УССР аўтарства В. К. Трацэнкі

які перамог на мясцовым украінскім архітэктурным конкурсе. Будынак украінскага павільёна, пабудаваны згодна з другім праектам архітэктара Трацэнкі, меў досыць вялікія памеры, агульны выгляд яго адсылаў да традыцыйнай украінскай сялянскай хаты-мазанкі. У якасці дэкору прысутнічалі маляваныя пано з раслінным арнаментам, над франтонам роспіс з сялянскімі краявідамі, а таксама стылізаваны надпіс „Украіна" пад страхой будынка[31].

Тут жа трэба адзначыць, што ў архіве архітэктара Шчусева акрамя праектаў украінскага павільёна аўтарства В. К. Трацэнкі захаваліся яшчэ і эскізы павільёна аўтарства Васіля Крычэўскага, які таксама прапаноўваў асноўны акцэнт у архітэктуры павільёна УССР зрабіць на падабенстве да традыцыйных вясковых будынкаў. В. Р. Крычэўскі — вядомы ўкраінскі архітэктар, адзін з прадстаўнікоў так званага „неаукраінскага стылю" ці ўкраінскай архітэктуры мадэрну[32]. Стыль узнік у пачатку XX ст. і характарызаваўся спалучэннем традыцыйнай сялянскай і царкоўнай архітэктуры з мясцовымі ўзорамі прафесійнай архітэктуры, перш за ўсё ўкраінскага барока і еўрапейскага мадэрну.



Іл. 3. Эскіз павільёна УССР аўтарства В. Р. Крычэўскага

31 В. Троценко, Проект павильона „Украина". Фасады, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D12298 [доступ: 02.12.2023].

32 В. Кричевский, Конкурсный проект павильона „Украина". Перспектива, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D12295 [доступ: 02.12.2023].

Такім чынам, стварэнне павільёна БССР у нацыянальным стылі, згодна з асноўнай канцэпцыяй выставы, знаходзілася ў агульным кантэксце прадстаўлення для выставы ўзораў нацыянальнай архітэктуры кожнай з рэспублік СССР. Неабходнасць вылучыць характэрныя для беларускай архітэктуры рысы для найлепшага прадстаўлення беларускай культуры на выставе натуральным чынам падштурхнула пошукі самабытнага стылю архітэктуры беларускімі навукоўцамі і культурнымі дзеячамі. Акрамя таго, Усесаюзная выстава давала добрую нагоду азнаёміцца з актуальнымі пошукамі новых і далейшым развіццём сталых нацыянальных стыляў і іх варыянтаў у іншых народаў СССР, пераняць іх падыходы да творчага выкарыстання матываў гістарычнай архітэктурнай спадчыны.

### 3. Павільён БССР. Праект, зацверджаны ў Мінску і праект, рэалізаваны ў Маскве

Далей разгледзім працэс выбару праектаў для беларускага павільёна Усесаюзнай выставы 1923 г., каб вылучыць іх стылёвая характарыстыкі, адрозненні і адказаць на пытанне, ці можна лічыць яго будаўніцтва першай спробай у Савецкай Беларусі знайсці беларускі стыль у архітэктуры.

Як ужо згадвалася вышэй, важным фактарам, які ўплываў на выбар стылю для беларускага павільёна была канцэпцыя і мэты выставы па выразнай дэманстрацыі самабытнай культуры і мастацтва саюзных рэспублік, у тым ліку праз архітэктуру ўласных павільёнаў. Вектар пошукаў стылю, зададзены Галоўвысткамам супаў з уяўленнямі беларускіх культурных і мастацкіх дзеячаў наконт беларускага архітэктурнага стылю.

Конкурс на праект павільёна БССР для Усесаюзнай выставы быў абвешчаны ў друку 22 сакавіка 1923 г. Патрабаванні для праекта былі сфармуляваны досыць агульна. Мінімальны памер павільёна быў вызначаны ў 80 кв. сажняў (прыкладна 365 кв. метраў), таксама павільён павінен быў быць не даражэйшым за 2500 рублёў золатам[33]. Абмежаванняў наконт знешняга выгляду ці стылю будучага павільёна ў патрабаваннях конкурсу не было.

Па заканчэнні конкурсу, 11 красавіка 1923 г. спецыяльная мастацкая камісія пры Высткамбеле разгледзела конкурсныя праекты. У склад камісіі ўвайшлі аграномы А. М. Міхайлаў і В. П. Жыван, эксперт па архітэктурна-будаўнічых пытаннях — архітэктар В. І. Струеў і эксперты

[33] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 30.

па пытаннях побыту і беларускага стылю — Сяргей Скандракоў і Аркадзь Смоліч. У кантэксце вывучэння беларускай архітэктуры цікава не толькі запрашэнне экспертаў па беларускім стылі — вядомых навукоўцаў Скандракова і Смоліча, але і архітэктара Віктара Струева[34]. Творчы шлях В. І. Струева падобны на біяграфію галоўнага архітэктара выставы Шчусева. В. Струеў да рэвалюцыі таксама займаў пасаду епархіяльнага архітэктара, рыхтаваў праекты розных духоўных і грамадзянскіх устаноў, а спецыялізаваўся на невялікіх парафіяльных храмах на тэрыторыі Мінскай губерні. Дзеля гэтага архітэктар руплівa вывучаў прыёмы і формы мясцовай царкоўнай архітэктуры і паступова ад стандартнага для тых часоў „псеўдарускага" стылю пераходзіў да натхнёных у большай меры беларускімі архітэктурнымі традыцыямі праектаў. Некаторыя з позніх праектаў В. Струева гісторык архітэктуры Вячаслаў Чарнатаў характарызуе як „неабеларускі стыль" у храмавым дойлідстве[35].

Такі склад мастацкай камісіі для разгляду конкурсных праектаў павільёна відавочна не выпадковы. Акрамя неабходнасці як мага лепш выканаць заданне па падрыхтоўцы да выставы з цэнтра, Высткамбел намагаўся прыцягнуць да працы над выяўленнем беларускага стылю ў конкурсных праектах найлепшых спецыялістаў па пытанні.

Усяго разглядалася сем конкурсных праектаў, а пераможцам конкурсу быў абраны праект пад дэвізам „Мінск" аўтарства грамадскага інжынера Г. В. Кірыка і мастака, выкладчыка мінскіх сямігодак К. Г. Ціханава[36]. Сам пададзены праект складаўся з пяці аркушаў, на якіх былі паказаны галоўны фасад будучага павільёна, перспектыўны від будынка, разрэз, план і матывы аздабленняў фасада[37]. Сярод асноўных недахопаў іншых конкурсных праектаў мастацкая камісія вылучала неадпаведнасць канструкцыі будынка мэтам выставачнага павільёна, беднасць знешняга аздаблення, нехарактэрныя для беларускага дойлідства падлогі, скаты страхі, адсутнасць беларускага стылю і г.д. Асобна адзначаны праект пад дэвізам „Беларусь", які хоць і меў хібы, але камісія заўважыла ў праекце „цікавасць да беларускага стылю ў архітэктуры", таму было прапанавана прыцягнуць аўтара гэтага праекта да мастацка-графічных прац па выставе.

34 Там жа, арк. 31.
35 В. М. Чернатов, *От эклектики до ар-деко (архитектурное наследие Минска первой половины XX века)*, [у:] *Авангард и культуры: искусство, дизайн, среда: материалы Международной научной конференции, 17-19 мая 2007 г.*, ред. И. Н. Духан, Минск 2007, с. 89.
36 С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 157.
37 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 31.




Іл. 4. Эскіз павільёна БССР аўтарства Г. В. Кірыка і К. Г. Ціханава

У праекце беларускага павільёна Кірыка і Ціханава перш за ўсё звяртаюць на сябе ўвагу выразныя рысы гістарызму ў архітэктуры будынка, таксама можна адзначыць спалучэнне рыс розных гістарычных эпох, характэрнае для тагачасных прыкладаў нацыянальных варыянтаў мадэрнізму — неарускага стылю, украінскага архітэктурнага мадэрну, паўночнага мадэрну і іншых нацыянальна-рамантычных напрамкаў.

У праекце дамінуюць матывы сярэднявечнай замкавай архітэктуры беларускіх зямель, драўляныя сцены і вежы ў спалучэнні з масіўным каменным падмуркам не пакідаюць сумневаў у крыніцах натхнення аўтараў праекта. Будынак павільёна па форме ўяўляў сабой квадрат, па вуглах якога былі размешчаныя чатыры рызаліты, якія нагадвалі чатырохгранныя замкавыя вежы. Над галоўным уваходам высілася пятая вежа без вокнаў. Усе вежы мелі высокія шатровыя дахі, на вежах размяшчаліся шпілі са сцягамі. Знешняе аздабленне павільёна было вельмі сціплае, строгія фасады не мелі адмысловых роспісаў ці дэкаратыўных элементаў. Аўтары ўдала выкарысталі традыцыйныя формы замкавага будаўніцтва для патрэб выставачнага павільёна. У тагачасным друку БССР з нагоды вынікаў конкурсу на праект павільёна для Усесаюзнай выставы адзначалася вельмі ўдалая перадача старасвецкіх беларускіх архітэктурных матываў у знешнім выглядзе будынка Г. Кірыка і К. Ціханава.

Мастацкая Камісія прызнала праект Кірыка і Ціханава падыходзячым для беларускага павільёна, а Высткамбел 12 красавіка 1923 г. зацвердзіў гэта рашэнне. Разам з тым, аўтарам было прапанавана дадаткова

ўзмацніць беларускія матывы ў аздабленні фасада будынка[38]. Высткамбел звярнуў увагу аўтараў на неабходнасць выкарыстання ў дашчатай шалёўцы будынка вертыкальных ліній, а таксама дадаць залам павільёна больш святла, зрабіўшы з боку ўнутранага дворыка ў даху верхняе святло, а ў цэнтральнай вежы прарэзаць акно[39].

Прычым, трэба адзначыць, што гэтыя ўказанні Высткамбела аўтарамі праекта былі ўлічаны, і перад тым як праект быў дасланы ў Маскву, у яго былі ўнесены карэкціроўкі. Гэта бачна з выяўленчых матэрыялаў праекта, якія захаваліся ў архіве архітэктара Шчусева. Заўвагі мастацкай камісіі Высткамбела наконт пажаданай вертыкальнай шалёўкі павільёна па ўзоры традыцыйнага беларускага жыллёвага будаўніцтва і неабходнасці дадатковага знешняга аздаблення будынка беларускімі матывамі былі ўлічаны і ў рэалізаваным у выніку праекце архітэктара А. Грынберга.



Іл. 5. Павільён БССР у разрэзе з унесенымі карэкціроўкамі

[38] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 30 адв.
[39] Там жа, арк. 29.




Іл. 6. Рызаліт павільёна БССР з вертыкальнай шалёўкай

Нягледзячы на тое, што конкурс на праект беларускага павільёна для выставы адбыўся, яго вынікі былі зацверджаны Высткамбелам, а праект быў адасланы ў Маскву для рэалізацыі, у выніку на Усесаюзнай выставе быў узведзены павільён паводле зусім іншага праекта.

Спачатку Высткамбел атрымаў з Масквы інфармацыю, што ў праект павільёна аўтарства Кірыка і Ціханава будуць унесены некаторыя змены. Аб гэтым стала вядома Высткамбелу 28 красавіка, калі прадстаўнік БССР перадаў змест перамоў з адным з кіраўнікоў Галоўвысткама Міхаілам Шэфлерам наконт удзелу БССР у выставе. На гэтых перамовах у Маскве дэлегацыі БССР паведамілі, што „праект павільёна будзе крыху зменены з захаваннем, канешне, стылю"[40]. Некаторыя элементы праекта Г. В. Кірыка і К. Г. Ціханава Галоўвысткам палічыў непажаданымі для рэалізацыі, напрыклад, каменны падмурак, бо пры будаўніцтве часовых павільёнаў выставы камень увогуле не будзе выкарыстоўвацца. Вырашана было таксама адмовіцца ад унутранага дворыка, што павінна было значна зменшыць плошчу павільёна. Ключавыя змены ў праекце былі накіраваны на максімальнае змяншэнне кошту ўзвядзення павільёна з-за згаданых раней праблем з фінансаваннем. Падкрэслівалася, што гаворка ідзе толькі пра змены ў бягучым праекце, а не пра стварэнне новага.

40 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 1, арк. 108.

Аднак ужо 24 траўня старшыня Высткамбела А. Славінскі паведамляе ў Мінск інфармацыю аб тым, што праект беларускага павільёна быў карэнным чынам перароблены[41]. У гэтым паведамленні гаворка ўжо ідзе пра новы праект беларускага павільёна аўтарства маскоўскага архітэктара А. З. Грынберга, які быў скончаны не пазней за 18 траўня. Менавіта 18 траўня 1923 г. датуецца запіска А. Грынберга галоўнаму архітэктару Галоўвысткама А. Шчусеву аб выплаце ганарару ў памеры 4000 рублёў за распрацоўку праекта беларускага павільёна на выставе[42].

Можна сцвярджаць, што канчатковае рашэнне па выбары праекта павільёна прымалася ў Маскве Галоўвысткамам, супрацоўнікі Паўнамоцнага прадстаўніцтва БССР у РСФСР толькі ўзгаднялі яго. Прычым усе пратэсты прадстаўніка БССР падчас перамоў супраць змен у праекце былі адхілены, прадстаўнік перадаў словы М. Е. Шэфлера, які падчас перамоў заявіў, што Беларусі ўвогуле не варта было б будаваць асобны павільён, можна было б абмежавацца тыповай сялянскай сядзібай. Такім чынам, кіраўніцтва Галоўвысткама заставалася пры ранейшым меркаванні наконт непажаданасці асобнага павільёна для БССР на выставе, хоць і не мела магчымасці паўплываць на прынцыповае рашэнне аб яго пабудове[43].

Праектная дакументацыя рэалізаванага ў выніку на Усесаюзнай выставе 1923 г. павільёна БССР добра захавалася ў архіве архітэктара А. Шчусева, што выключае магчымасць версіі аб карэкціроўках, нібыта ўнесеных маскоўскімі архітэктарамі ў першапачатковы праект. Згодна з дакументамі, аўтарам праекта пабудаванага на тэрыторыі выставы беларускага павільёна стаў архітэктар Аляксандр Зіноўевіч Грынберг. А. Грынберг — расійскі і савецкі архітэктар, скончыў Імператарскую акадэмію мастацтваў у 1911 годзе, у тым жа годзе пачаў кар'еру архітэктара. У 1920-1930-ых гг. плённа працаваў, паводле яго праектаў пабудаваны цэлы шэраг грамадскіх і жылых будынкаў па ўсім СССР.

Аляксандр Грынберг на Усесаюзнай выставе пачаў працаваць з 30 сакавіка 1923 г., але не з'яўляўся штатным супрацоўнікам каманды праекціроўшчыкаў выставы. Галоўны архітэктар А. Шчусеў, з якім А. Грынберг быў добра знаёмы і працаваў разам раней, прыцягнуў яго да ўдзелу ў працы над выставай у якасці дапамогі[44]. А. Грынберг падчас

[41] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 5, арк. 55.

[42] Счёт от А. З. Гринберга. 18.05.1923, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D15303 [доступ: 02.12.2023].

[43] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 1, арк. 108.

[44] Список внештатных сотрудников главного архитектора, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D14610 [доступ: 02.12.2023].

працы ў майстэрні галоўнага архітэктара Усесаюзнай выставы таксама падрыхтаваў праекты вакзала Наркамата шляхоў зносін, праект рэстарана для Іншаземнага аддзела выставы і шэраг іншых.

Па новым праекце А. Грынберга выставачны павільён быў цалкам драўляны, уяўляў сабой двухпавярховы будынак, звонку і знутры аздоблены ўпрыгожаннямі з матывамі беларускага арнаменту і элементамі традыцыйнага дэкору сялянскіх хат, вакол будынка былі прадугледжаны клумбы і пасадкі з маладых дрэўцаў[45]. Новы праект адпавядаў указанням Галоўвысткама па памерах — была скарочана плошча пакояў павільёна, іх колькасць знізілася з сямі да трох, у праекце адсутнічалі мураваныя элементы і ўнутраны дворык. Аднак архітэктар, згодна з абяцаннямі Галоўвысткама, пастараўся захаваць беларускі стыль павільёна, хоць разумеў яго сутнасць інакш, чым пераможцы конкурсу ў Мінску. У сваім праекце А. Грынберг зрабіў акцэнт на традыцыйнай вясковай архітэктуры, намагаўся падкрэсліць этнаграфічнасць выгляду павільёна яго формай і выкарыстаннем традыцыйных форм дэкору сялянскай хаты.



Іл. 7. Павільён БССР аўтарства А. Грынберга

[45] С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 159.




Іл. 8. Праект павільёна БССР А. Грынберга

У беларускай прэсе адзначаўся сціплы характар будынка, адсутнасць вялікага размаху і яркіх элементаў знешняга аздаблення. Сціпласць, хутчэй за ўсё, была добра бачная ў параўнанні з павільёнамі іншых рэспублік, якія былі больш багата дэкараваны. Таксама можна выказаць здагадку, што аўтары зацемак у друку былі знаёмыя з першым праектам Кірыка і Ціханава, і параўноўвалі новы павільён з ім. Аднак у цэлым гэтая сціпласць віталася — агульным планам будынак нагадваў вялікую сялянскую хату, а страха, некалькі ўзроўняў якой навісалі адзін над адным — адсылала да форм традыцыйнага драўлянага храмавага дойлідства Беларусі, нагадвала страху капліцы ці царквы[46].

У той час адсылкі да рэлігійных будынкаў у архітэктуры цалкам можна прадставіць. Архітэктары СССР працягвалі шырока выкарыстоўваць старыя формы ў новых будынках. Напрыклад, у архіве Галоўнага архітэктара выставы Шчусева знаходзіцца эскіз павільёна УССР аўтарства самога А. Шчусева, які дакладна адсылае да драўлянай рэлігійнай архітэктуры. Галоўная вежа, прамаляваная дахоўка і знешнія галерэі па баках будынка не пакідаюць сумневаў у крыніцы натхнення архітэктара ў храмавым дойлідстве[47].

46 Там жа.

47 Эскиз павильона „Украина”. Фасад, перспектива. А. В. Щусев, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D12289 [доступ: 02.12.2023].



Іл. 9. Праект распланіроўкі павільёна БССР і тыповай сядзібы

Акцэнты на беларускі стыль выразна праглядаюцца ў асобных элементах знешняга аздаблення павільёна А. Грынберга. Напрыклад, на сценах пад карнізам і на шчыце павільёна былі размешчаны невялікія ўстаўкі з узорамі з дошак, якія нагадвалі асобныя элементы з беларускага традыцыйнага арнаменту. Трэба адзначыць, што шаляваныя кампазіцыі меліся і на праектах іншых павільёнаў выставы, як прыклады можна прывесці павільёны Жывёлагадоўлі[48] і Сельсаюза[49].

48 Проект отдела „Животноводство”. Разрез перехода в Манеж. И. Жолтовский П. Голосов, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D13608 [доступ: 02.12.2023].

49 Конструктивный чертёж павильона „Сельсоюз”. Деталь главного фасада, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D15535 [доступ: 02.12.2023].



Іл. 10. Праект павільёна УССР аўтарства А. Шчусева

Аднак менавіта на беларускім павільёне яны вылучаюцца ў асобныя элементы дэкору, а ўзоры яскрава нагадваюць традыцыйны беларускі геаметрычны арнамент, які выкарыстоўваўся на тканінах і іншых гаспадарчых вырабах. Гэта дае падставу сцвярджаць пра першую спробу свядомага выкарыстання элементаў беларускага арнаменту ў якасці вонкавага аздаблення будынка. Іншыя прыклады праектаў будынкаў, аздобленых беларускім арнаментам вядомыя толькі пачынаючы з канца 1920-ых гг. А шырокая практыка выкарыстання геаметрычнага арнаменту ў аздабленні будынкаў паўстала ўжо ў 50-ыя гады XX ст.[50]

Пад карнізам страхі павільёна быў змешчаны выкладзены шалёўкай салярны дэкаратыўны элемент — паўдыск сонца з прамянямі, які сустракаецца ў традыцыйным дэкоры сялянскіх хат, асабліва на Палессі. Шаляваныя дэкаратыўныя элементы на шчытах беларускіх хат з'яўляюцца адносна познім відам народнага мастацтва, аднак іх

[50] Я. В. Марозаў, *Нацыянальны беларускі арнамент як архітэктурны дэкор: гісторыя стварэння сучаснай традыцыі*, [у:] *Традыцыі і сучасны стан культуры і мастацтваў: зборнік навуковых артыкулаў*, Мінск 2020, вып. 1, с. 144.

можна лічыць яскравым прыкладам творчай народнай перапрацоўкі старажытных матываў, якія сустракаліся ў прадметах побыту, тэкстыльных вырабах і іншых узорах мастацтва[51]. Таксама, над пярэднім ганкам павільёна быў размешчаны каляровы малюнак-пано з вясковымі краявідамі — дарога, паабапал якой зялёныя нівы, удалечыні вёска[52]. Падобныя малюнкі featured розных зместу шырока выкарыстоўваліся ў аздабленні выставы, як павільёнаў асобных рэспублік, так і галіновых.

Яшчэ адным выразным дэкаратыўным элементам беларускага павільёна з'яўляўся вялікі стылізаваны надпіс „Беларусь", выкананы з боку цэнтральнай плошчы выставы на бакавым шчыце павільёна пад паўдыскам сонца. Надпіс чырвонага колеру, стылізаваны пад старaславянскі шрыфт, адсутнічае на ўсіх чарцяжах павільёна А. Грынберга і быў дададзены на павільён пазней за этап праектавання. Можна выказаць здагадку, што дадалі надпіс з мэтай узмацніць рысы беларускага стылю па прыкладзе павільёна Украіны, які меў адпаведны надпіс стылізаванымі літарамі ўжо на этапе праектавання[53].

Шмат увагі надавалася наданню адмысловага стылю і ўнутранаму ўбранству павільёна. Мастацкім аздабленнем павільёна кіраваў выбітны беларускі мастак М. Філіповіч, які сярод іншага падрыхтаваў адмыслова для выставы пано „Беларуская вёска"[54]. У інструкцыях па размяшчэнні экспанатаў у павільёне асобна адзначалася неабходнасць „зрабіць усё, каб не толькі пакой дамаводства і побыту, але і ўвесь павільён Беларусі выглядаў беларускім"[55].

Параўноўваючы конкурсны і рэалізаваныя праекты беларускага павільёна, можна канстатаваць, што А. Грынберг склаў цалкам новы праект, які адрозніваецца ад першапачатковага галоўным чынам змяншэннем памераў і адмовай ад выкарыстання каменю ў будоўлі, што звязана са скарачэннем выдаткаў на будаўніцтва. Аднак маскоўскі архітэктар імкнуўся выкарыстаць беларускі стыль у праекце павільёна. Калі праект Кірыка і Ціханава адсылае да гістарызму ў формах павільёна, праект Грынберга звяртаецца да больш сучасных і падкрэслена вясковых этнаграфічных матываў. Трэба адзначыць, што пасля адкрыцця выставы ў беларускім друку адзначаўся „не зусім нацыянальны" характар

51 Я. М. Сахута, *Беларускі народны архітэктурны дэкор*, Мінск 2020, с. 112.

52 С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 159.

53 Виктор Троценко. Проект павильона „Украина". Фасады, [у:] Архив Алексея Щусева, https://russianartarchive.net/ru/catalogue/document/D12298 [доступ: 02.12.2023].

54 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 3, арк. 212.

55 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 7, арк. 385.



Іл. 11. Агульны від Усесаюзнай выставы з нацыянальнымі павільёнамі

будынка. Можна думаць, што тут мела ўплыў адсутнасць яскравага аздаблення будынка і параўнанне рэалізаванага праекта з нашмат буйнейшым па памерах першапачатковым праектам[56]. Можна дапусціць, што Галоўвысткам, змяняючы ў бок спрашчэння праект беларускага павільёна, хацеў зрабіць яго больш суадносным з іншымі павільёнамі, зменшыць гістарычныя матывы ў яго стылістыцы, разам з тым значную ролю ў змене праекта гралі фінансавыя праблемы.

Справаздачы Высткамбела па выніках удзелу БССР у выставе даюць даволі стрыманыя ацэнкі беларускага павільёна і экспазіцыі. Адзначаецца, што пабудаваны паводле новага праекта павільён БССР атрымаўся даволі сціплым, не вылучаўся асаблівай прыгажосцю і яркім аздабленнем[57]. Узгадваецца таксама ацэнка павільёна прыёмнай Камісіяй Галоўвысткама на чале з М. Ф. Шэфлерам, якая, прызнала пабудаваны павільён БССР „у агульным задавальняючым"[58]. У той жа час водгукі наведвальнікаў і грамадскасці на беларускі павільён былі вельмі станоўчыя, што бачна і ў пакінутых водгуках у журнале наведвання павільёна і ў матэрыялах тагачаснага друку. Асабліва адзначалі наведвальнікі этнаграфічную і побытавую частку выставы[59].

56 С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 159.
57 НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 7, арк. 815.
58 Там жа, арк. 815 адв.
59 С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 163.

Аўтары водгукаў асобна звяртаюць увагу на добрую дэманстрацыю на экспазіцыі беларускага мастацтва, якое, як нішто іншае, прыцягвае ўвагу наведвальнікаў. Цікавіла наведвальнікаў і больш яркае ўнутранае ўбранне, павільён быў „пекна ўвабраны тканінамі, ручнікамі, паясамі, ён увесь пераліваецца ў шматлікіх фарбах”[60]. Згодна з журналам рэгістрацыі экскурсій беларускі павільён наведалі 15 679 чалавек[61].

Усесаюзная сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстава скончыла сваю працу 21 кастрычніка 1923 года[62]. У адрозненні ад лёсу экспанатаў, якія, згодна з дакументамі, былі вернуты ў беларускі Дзяржаўны музей, інфармацыі аб далейшым лёсе будынка выставачнага павільёна БССР пасля сканчэння выставы няшмат. Першапачаткова ў дамове на пабудову беларускага павільёна адна з умоў прадугледжвала дэмантаж павільёна, як часовага збудавання, цягам месяца пасля заканчэння выставы[63]. Аднак, можна лічыць, што на практыцы гэтая ўмова выканана не была і ў 1923 годзе павільён не быў дэмантаваны, бо на пасяджэнні СНК БССР 21 траўня 1924 года па хадайніцтве Наркамзема БССР было разгледжана пытанне аб беларускім павільёне на Усесаюзнай выставе. Па выніках, ад карыстання павільёнам вырашана было адмовіцца, што сведчыць аб існаванні павільёна Беларусі як мінімум да траўня 1924 года[64].

## Высновы

Удзел БССР з уласным выставачным павільёнам ва Усесаюзнай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выставе 1923 г. быў, як адзначала тагачасная беларуская прэса, „першым выпадкам, калі беларускае мастацтва і беларуская народная стыхія выступілі перад усім Савецкім Саюзам і нават перад заграніцаю”[65]. Нягледзячы на той факт, што беларускае мастацтвазнаўства і вывучэнне гісторыі нацыянальнай архітэктуры знаходзілася на самых пачатковых этапах развіцця, а Беларусь не мела яшчэ ўласнай нацыянальнай архітэктурнай школы,

[60] *Выстаўка і беларускае мастацтва*, «Савецкая Беларусь», 26.08.1923, с. 1.
[61] Е. А. Макаренко, *К 100-летию открытия белорусского павильёна Всероссийской сельскохозяйственной и кустарно-промышленной выставки в г. Москве*, «Юстиция Беларуси», 2023, № 7, с. 68.
[62] С. Грунтоў, Я. Грыневіч, Н. Саўчанка, *Забытая экспедыцыя 1923 года*, с. 165.
[63] НАРБ, ф. 645, воп. 1, спр. 1, арк. 107.
[64] НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 28, арк. 235.
[65] *Выстаўка і беларускае мастацтва*, «Савецкая Беларусь», 26.08.1923, с. 1.

вайны ў яе адкрылася язва страўніка з камплікацыямі. Больш пра стан здароўя Надзеі згадвае Зоська Верас у кнізе „Я помню ўсё". Вось некалькі прыкладаў. У лісце да настаўніка Алеся Белакоза з Гудзевіч Мастоўскага раёна Зоська Верас пісала ў чэрвені 1970 года: „Была я ў Надзеі Маркаўны Шнаркевіч. Яна як быццам крыху ажывілася, прынамсі, рукі перасталі балець. Але наагул — мучаніца яна". А ў лістападзе 1970 года ў лісце да Адама Мальдзіса Зоська Верас паведамляла: „Марыцца мне, каб пазнаёміць Вас з Надзеяй Маркаўнай Шнаркевіч. Гэта чалавек вялікай сілы духу. Былая кіраўніца ТБШ, паміма 73 гадоў жыцця, з чаго больш за 30 прыкаваная да ложка (але не спаралізаваная), дасюль поўная энергіі, ініцыятывы, волі да грамадскай працы"[8].

Надзея Шнаркевіч сябравала з многімі вядомымі людзьмі Беларусі, з якімі шмат гадоў перапісвалася. Яна збірала фотаальбомы па гісторыі Нясвіжска-Клецкай, Навагрудскай, Радашковіцкай і Віленскай беларускіх гімназій. Краязнавец з Маладзечна Міхась Казлоўскі неяк сказаў мне, што некалькі альбомаў ён сам трымаў у руках. Гэта былі даволі вялікія альбомы са здымкамі беларускіх гімназій, найбольш трапіла ў альбомы здымкаў-арыгіналаў. Некалькі альбомаў магчыма захоўваюцца ў Алесі Луцкевіч у Вільні. Сярод фотаальбомаў беларускіх гімназій быў і альбом, прысвечаны беларускаму спеваку Міхасю Забэйду-Суміцкаму. А яшчэ Надзея Маркаўна запісвала народныя песні, музычны фальклор. „Пару гадоў таму запісала цэлае беларускае вяселле (песні) — ад запоінаў да канца. Ноты напісаў П. Каруза[9]. Цяжка ёй было над гэтым працаваць, але цешыла сябе, што мо з гэтага будзе карысць. Літоўцы зрабілі такое „Вяселле" для тэлебачання... Але не ў нас. Узяла Г. Барташэвіч[10], нічога не зрабіла..."[11], — пісала Зоська Верас Адаму Мальдзісу ў студзені 1975 года.

Пісала Надзея Шнаркевіч і артыкулы ў газеты і часопісы. Напрыклад, у 1969 годзе яна даслала ў газету „Літаратура і мастацтва" артыкул „Аб народным мастацтве", але яго доўга не друкавалі. Па словах усё той жа Зоські Верас, ён быў добра напісаны. І яна прасіла паэта Сяргея Панізьніка, каб той пацікавіўся лёсам артыкула. Звярнуўся нядаўна да Сяргея Сцяпанавіча і я, запытаў наконт таго артыкула, але ён не памятае.

[8] З. Верас, *Я помню ўсё. Успаміны, лісты*, Гародня-Wrocław 2013, с. 104, 108.

[9] Маецца на ўвазе Павел Каруза (1906-1988) — беларускі кампазітар і фальклярыст.

[10] Галіна Барташэвіч (1932-2012) — беларускі фальклярыст, доктар філалагічных навук.

[11] З. Верас, *Я помню ўсё*, с. 125-126.

Шчыра сябравала Надзея Маркаўна Шнаркевіч з настаўнікам, заслужаным работнікам культуры Беларусі, заснавальнікам Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея Алесем Мікалаевічам Белакозам (1928-2016). Жанчына дасылала з Вільні для музея этнаграфічныя экспанаты і рэчы сялянскага побыту, збірала для іх музычны фальклор. Аднойчы Надзея Маркаўна прыслала ў музей вялікую пасылку, у якой ляжаў беларускамоўны глобус з Віленскай беларускай гімназіі. Гэты глобус Надзеі Шнаркевіч прынёс Янка Багдановіч, а яна падаравала Гудзевіцкаму музею. Дарэчы, гэты глобус у музеі захоўваецца і сёння. Ён адзіны беларускамоўны глобус у свеце. Глобус, хутчэй за ўсё, з'явіўся на свет па заказе Віленскай беларускай гімназіі ў 1939 годзе, але ўжо пры савецкай уладзе, бо на ім пазначана „Камітэт картаграфіі".

Дзякуючы супрацоўнікам Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея адшукаў у фондах музея некалькі лістоў ад Надзеі Маркаўны Шнаркевіч. У адным лісце ад 8 сакавіка 1970 года яна пісала:

> Паважаны Алесь Мікалаевіч!
>
> Пасылаю Вам глобус, якім карысталася Віленская беларуская гімназія ў апошнія дні яе існавання. Апрача гэтага дадаю некалькі ўзораў нашага арнаменту. Выткаў іх Ян Тулейка. А што ў Вас добрага чуваць? Надыходзіць вясна. Не забудзьце пра вінаград. Пашукайце яму добрае сонечнае месца — паўднёвую сцяну. А вось яшчэ што. Можа б вашыя дзяўчаткі павучыліся ад старых бабулек, якім напэўна вядомы такі від нашага мастацтва, ткаць паясы. Маем шмат узораў на паперы, ахвотна падзелімся. Калі там у Вас будзе трудна дастаць нітак, то можна было б выслаць адсюль. Тут выбар вялікі: і шоўку, і рысу. Падумайце пра гэта.
>
> Паштоўкі з беларускім арнаментам выдаў Уладыслаў Паўлюкоўскі. Вільня. Друкарня імя Ф.Скарыны, 1938 год.
>
> Пакуль усяго найлепшага. Поспехаў Вам у Вашай святой справе.
>
> Шчыра прызнаная — Надзея Маркаўна Шнаркевіч.

Напачатку 1973 года Надзея Шнаркевіч на паштоўцы напісала ліст усім супрацоўнікам Гудзевіцкага музея:

> Даражэнькія! Дзякуй за віншаванні і за добрыя пажаданні. Няхай жа Новы год і Вам усім прынясе як найбольш радасці, удачы і поспехаў у Вашай пачэснай працы на карысць Маці-Радзімы. Фотаздымкі маю толькі далёкіх мінулых часінаў. Цяперашніх не маю, як зраблю — прышлю. Н. М. Шнаркевіч[12].

[12] Лісты і паштоўкі захоўваюцца ў Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі Мастоўскага раёна.

У добрых адносінах з Надзеяй Шнаркевіч быў беларускі грамадска-культурны дзеяч з Вільні Янка Багдановіч (1906-1990). У 1992 годзе доктар філалагічных навук Арсень Ліс (1934-2018) падрыхтаваў і выдаў кніжку ўспамінаў Янкі Багдановіча „На жыццёвым шляху". У ёй аўтар светла і шчыра прыгадвае і пра Надзею Маркаўну:

> Прыпамінаецца, што вельмі коратка жыла ў нашым будынку п. Шнаркевічыха, не памятаю яе дзявочага прозвішча. Жыла яна ў нас нядоўга, але пакінула па сабе добрую, шчырую, гуманную памяць. Памятаю, з польскай мовы была ў мяне слабая ацэнка і яна мне многа памагала падрыхтавацца да экзамену, давала бясплатныя лекцыі-ўрокі не толькі мне, але і іншым маім таварышам, якія знаходзіліся ў прытулку. Жыла вельмі скромна, апрача стала і нейкага тапчанчыка, нічога больш не было. Кожны з вучняў адчуваў яе сціпласць і апеку над дзецьмі. Часта прыходзіцца ўспамінаць добрымі, шчырымі словамі. Сёння ўжо вельмі старэнькая, але вельмі цікавіцца ўсім і ўсімі. Чытае многа літаратуры і добра ва ўсім арыентуецца, мае вельмі добрую памяць, памятае ўсіх тых, каторыя вучыліся ў віленскай беларускай гімназіі, а таксама тых, каторыя знаходзіліся ў прытулку. Многія наведваюць, многія забыліся, а частка дзяцей рассыпалася па свеце і не мае магчымасці наведаць[13].

У 1964 годзе Надзея Маркаўна напісала невялікія ўспаміны з працы ў Таварыстве беларускай школы ў 1924-1930 гадах у Вільні. Гэтыя ўспаміны мне нядаўна даслаў паэт Алег Мінкін. У апошнім абзацы ўспамінаў Надзея Маркаўна занатавала: „Я з усёй упэўненасцю кажу, што як народ беларускі, так і ягоная мова жылі, жывуць і будуць жыць, развівацца і квітнець. І выйдзе яшчэ з гушчару майго народа шмат-шмат самародкаў, каторыя праславяць нашу мову ў стагоддзях! А нашчадкі няхай ведаюць, як беларускі народ змагаўся за мову сваіх дзядоў і прадзедаў, за школу ў роднай мове, за сваю нацыянальную культуру". І працягвае народ змагацца ўжо 60 гадоў пасля слоў Надзеі Шнаркевіч.

У архіве Надзеі Шнаркевіч Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча сёння захоўваюцца сшыткі з апісаннем жаночага нацыянальнага адзення на Палессі, ліст да Веры Андрэеўны Тарашкевіч[14], матэрыялы пра беларускую гімназію ў Радашковічах, успаміны аб працы ў Галоўнай управе ТБШ у Вільні ў 1924-1930-х гадах, фальклорныя матэрыялы пра вяселлі на Беларусі, запісы каляндарных народных

[13] Я. Багдановіч, *На жыццёвым шляху*, с. 84.
[14] Вера Андрэеўна Тарашкевіч (1901-1998) — жонка беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча Браніслава Тарашкевіча (1892-1938).

песень, лісты да Надзеі Шнаркевіч і іншыя матэрыялы, якія чакаюць сваіх даследчыкаў...

Памерлі Надзея і Язэп Шнаркевічы ў адзін год — у 1974-м. Пахаваны ў Вільні на праваслаўных Свята-Ефрасіннеўскіх могілках.

**Summary**

**A Contribution to the Biography of Jazep and Nadzieja Sznarkiewicz**

The article presents Jazep and Nadzieja Šnarkievič - Belarusian socio-cultural activists, teachers and regionalists. Jazep Sznarkievič (1888-1974) was the founder of Belarusian secondary schools in Niaśviż and Kleck, headed the Belarusian Teachers' Union. In the summer of 1920, he started working at the People"s Commissariat of Education of the BSSR, and in November of that year he was sent to Western Belarus, which became part of the Polish state, to conduct cultural and educational activities. In the years 1925-1926 and 1928-1933 he worked as a teacher at the Vilnius Belarusian secondary school. He was one of the organizers of the Belarusian Peasant-Worker Group «Hramada». He was arrested in 1925 and spent a year in prison. Later he worked in Vilnius schools, became interested in beekeeping, and collaborated with the Vilnius magazine «Беларуская борць» (Belarusian Beehive). His wife Nadzieja nee Kalada (1897-1974) was an activist of the Vilnius Belarusian Women's Organization in the early 1930s.) and editor of the socio-political magazine «Жаноцкая справа» (Women's Affairs).

**Keywords**: Western Belarus, national movement, Belarusian education.

**Streszczenie**

**Przyczynek do biografii Jazepa i Nadziei Sznarkiewiczów**

Artykuł przedstawia Jazepa i Nadzieję Sznarkiewiczów — białoruskich działaczy społeczno-kulturalnych, nauczycieli i regionalistów. Jazep Sznarkiewicz (1888-1974) był założycielem białoruskich gimnazjów w Nieświeżu i Klecku, stał na czele Białoruskiego Związku Nauczycieli. Latem 1920 r. podjął pracę w Ludowym Komisariacie Oświaty BSRR, a już w listopadzie tegoż roku został wysłany na Zachodnią Białoruś, która weszła w skład państwa polskiego, w celu prowadzenia tam działalności kulturalno-oświatowej. W latach 1925-1926 i 1928-1933 pracował jako nauczyciel w Wileńskim Gimnazjum Białoruskim. Był jednym z organizatorów Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady. W 1925 r. został aresztowany i prawie rok spędził w więzieniu. Następnie pracował w wileńskich szkołach, zainteresował się pszczelarstwem, współpracował z wileńskim czasopismem „Беларуская борць" („Barć Białoruska"). Jego żona Nadzieja z domu Kolada (1897-1974) na początku lat trzydziestych XX w. była działaczką Wileńskiej Białoruskiej Organizacji Kobiet im. Alojzy Paszkiewicz (Ciotki) i redaktorką czasopisma społeczno-politycznego „Жаноцкая справа" („Sprawa Kobieca").

**Słowa kluczowe:** Zachodnia Białoruś, ruch narodowy, szkolnictwo białoruskie.

**Siarhiej Czyhryn** — białoruski literaturoznawca, historyk, regionalista i dziennikarz. Absolwent Wydziału Filologicznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku. Autor około stu książek o tematyce literackiej, historycznej i regionalnej oraz tomików poezji. Bada ruch narodowy na Białorusi Zachodniej (1920-1940), emigrację białoruską i losy represjonowanych Białorusinów. Dużo pisał o białoruskim ruchu społeczno-kulturalnym na Białostocczyźnie. Opublikował książki „Беларуская Беласточчына" (2008), „З Беластоцкай зямлі" (2008), „Мора Віктара Шведа" (2015), „Шляхамі Беласточчыны" (2015), „Рэпатрыяцыя беларусаў Беласточчыны, 1944-1948" (2024).

**Віктар Корбут**
(Варшава)

# Гісторыя беларусаў і іх суседзяў на старонках газет «Наша Доля» і «Наша Нива» ў 1906-1907 гг.

Як вядома, першая кніга па гісторыі Беларусі на беларускай мове ўбачыла свет у Вільні толькі ў 1910 г. (перавыдадзена ў 1992 г.)[1]. Яе аўтарам быў Вацлаў Ластоўскі, а яго праца склалася з нарысаў[2], напісаных у значнай ступені на падставе прац публіцыста сярэдзіны XIX ст. Адама Ганоры Кіркора і іншых літаратараў таго часу[3], якія ўбачылі свет у тым жа годзе ў віленскай беларускамоўнай газеце «Наша Ніва» („Nasza Niwa"). Аднак матэрыялы на гістарычную тэматыку на старонках «Нашай Нивы»[4] публікаваліся з яе першых нумароў — у 1906-1907 гг.[5] Іх аўтарамі былі сярод іншых заснавальнікі і фактычныя рэдактары газеты браты Ян і Антон Луцкевічы, а таксама іншыя асобы.

1 Власт, *Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі*, Вільня 1910; В. Ю. Ластоўскі, *Кароткая гісторыя Беларусі*, Мінск 1992.
2 Włast, *Karotkaja historyja Biełarusi (pa Kirkoru)*, „Naša Niwa", 1/13.01.1910, nr 1.
3 V. Korbut, *Franciszek Skoryna i inni drukarze z Wielkiego Księstwa Litewskiego i Korony Polskiej na łamach wileńskiej prasy białoruskojęzycznej w latach 1909-1918. Przyczynek do dziejów kształtowania białoruskich stereotypów narodowych*, „Przegląd Środkowo-Wschodni", 2018, t. III, s. 35-57; ён жа, *«Гэта ёсць фундамент нашага адраджэння!» Вытокі беларускай нацыянальнай міфалогіі ў творчасці Вацлава Ластоўскага і Максіма Багдановіча і інфільтрацыя яе элементаў у дзяржаўную ідэалогію БССР і Рэспублікі Беларусь*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2018, nr 49, s. 133-152; ён жа, *Etnogeneza Białorusinów w świetle ustaleń Wacława Łastowskiego*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2019, nr 51, s. 27-38.
4 Арыгінальныя формы назвы выдання ў 1906-1907 гг.: «Наша Нива. Першая беларуская газэта з рысунками. Выходзиць раз у тыдзень рускими и польскими литэрами»; „Nasza Niwa. Pierszaja biełaruskaja hazeta z rysunkami. Wychodzić raz u tydzień polskimi i ruskimi literami" («Наша Нива», 24.11/7.12.1906, № 3, с. 1; „Nasza Niwa", 10/23.11.1906, nr 1, s. 1.
5 Гл. таксама: В. А. Корбут, *Ад Мінска да Вільні. Гісторыя Беларусі ў журналісцкіх нататках*, Мінск 2016; ён жа, *Беларускае пытанне на старонках першых беларускіх газет «Наша Доля» („Nasza Dola") і «Наша Нива» („Nasza Niwa") (1906 г.)*, „Acta Polono-Ruthenica", 2020, t. XXV, z. 3, s. 177-189; ён жа, *Polskie wpływy i tematy na łamach pierwszych gazet białoruskich „Nasza Dola" i „Nasza Niwa" w latach 1906-1907*, [у:] *Polacy na Białorusi od Powstania Styczniowego do XXI wieku*, t. V: *Traktat ryski i jego konsekwencje dla Polaków i Białorusinów*, red. T. Gawin, Warszawa 2021, s. 61-80; ён жа, *Kwestia religijna w relacjach białorusko-polskich na łamach pierwszych gazet białoruskich „Nasza Dola" i „Nasza Niwa" w latach 1906-1907*, [у:] *Polacy na Białorusi od Powstania*

З 1906 г. на старонках «Нашай Нівы» пераважаў падыход, згодна з якім гісторыя Беларусі і Літвы разглядалася як адно цэлае. У той жа час асобная ўвага надавалася падзеям, якія датычылі беларусаў, літоўцаў, палякаў і яўрэяў — карэнных жыхароў краю, а таксама ўкраінцаў, паколькі гісторыя і сучаснасць нацыянальных рухаў гэтых народаў аналізаваліся дзеячамі беларускага нацыянальнага руху, згуртаванага вакол «Нашай Нівы».

1906-1907 гг., як заключны перыяд Першай рускай рэвалюцыі 1905-1907 гг., падчас якой і аформіўся беларускі нацыянальны рух, выклікаюць асаблівую цікавасць з мэтай «рэканструкцыі» першапачатковых поглядаў беларускіх дзеячаў на далёкае і блізкае мінулае свайго народа і суседзяў.

## Фармаванне беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці братоў Яна і Антона Луцкевічаў

Як мяркуе філосаф Валеры Булгакаў,

> двум людзям, якія перажылі ўплыў Багушэвіча, Вацлаву Іваноўскаму і Івану Луцкевічу, мы абавязаныя стварэньнем мадэрнай беларускай літаратуры, якая заклала аснову для пашырэньня нацыянальнай ідэнтычнасьці, а таксама пачаткамі ўласна беларускага палітычнага мысьленьня[6].

*Styczniowego do XXI wieku,* t. VI: *Kościół katolicki*, red. T. Gawin, Warszawa 2022, s. 135-143; ён жа, *Образ России и русских на страницах виленской белорусскоязычной газеты «Наша нива» в 1906-1907 годах*, [у:] *Восточнославянские исследования*, вып. 1, гл. ред. Б. Н. Флоря, Москва—Санкт-Петербург 2022, с. 58-84; ён жа, *Фарміраванне ідэнтычнасці беларускіх нацыянальных дзеячаў у 1890-х гг. — пачатку XX ст.: ад польскай да беларускай самасвядомасці*, [у:] *Wielokulturowość Europy Środkowo-Wschodniej: doświadczenia przeszłości i wyzwania teraźniejszości. Z okazji 20. rocznicy utworzenia Katedry Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej*, red. nauk. J. Getka, J. Grzybowski, Warszawa 2023, s. 68-90; ён жа, *Фарміраванне «нацыянальнага ўзору» тапаніміі на старонках першых беларускамоўных газет «Наша Доля» і «Наша Нива» (1906-1907 гг.)*, [у:] *Спазнаючы Беларусь... Да 65-годдзя беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта = Odkrywając Białoruś... 65-lecie białorutenistyki na Uniwersytecie Warszawskim = Discovering Belarus... On the Occasion of the 65th Anniversary of Belarusian Studies at the University of Warsaw*, red. R. Kaleta, Warszawa 2023, s. 243-267; ён жа, *Гісторыя першай беларускай газеты «Наша Доля»*, „Przegląd Środkowo-Wschodni", 2023, t. 8, s. 101-141; ён жа, *Гістарыяграфія першых беларускамоўных газет «Наша Доля» і «Наша Нива»*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", Białystok 2023, nr 56, s. 131-220.

6 В. Булгакаў, *Гісторыя беларускага нацыяналізму*, Vilnius 2006, с. 264.

З гэтым меркаваннем нельга не пагадзіцца. Але варта ўнесці пэўныя ўдакладненні, у прыватнасці, па пытанні фармавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці Яна Луцкевіча і яго брата Антона.

Я. Луцкевіч нарадзіўся ў Шаўлях (цяпер Шаўляй) у Літве ў 1881 г., там жа ў 1884 г. нарадзіўся яго брат Антон. Калі Яну было шэсць гадоў, яго сям'я, якая паходзіла з Мінска, пераехала ў Лібаву (цяпер Ліепая) у Латвіі. Тут у 1890 г. Ян пайшоў у Мікалаеўскую гімназію, дзе, паводле брата Антона, «зышоўся з таварышамі-літвінамі, гуртаваўшыміся каля старога літоўскага дзеяча [Ёнаса. — *В. К.*] Амброзайтіса»:

> І тут, на сходках у цеснай кватэрцы старога фанатычнага літоўскага рэвалюцыянера, у душы 13-14-гадовага хлопца родзіцца думка, што і яго народ — народ тых мужыкоў у шэрых сьвітках, з якімі ён сустракаўся толькі калі-некалі ў летку на вёсцы ў бабак у Вілейскім павеці (у ваколіцах Краснага), мае такое-ж права да лепшага эканамічнага быту і пашаны яго мовы, як і літвіны і латышы. А добрае знаёмства з мінуўшчынай Бацькаўшчыны гаварыла яму, што народ беларускі не заўсёды жыў так, як цяпер, што меў слаўную прошласьць і нямала ўлажыў працы сваёй у культурную скарбніцу[7].

У 1895 г. сям'я Луцкевічаў перабралася ў Мінск, і тут Я. Луцкевіч пазнаёміўся з калекцыянерам Генрыкам Татурам. Луцкевіч таксама стаў збіральнікам старажытнасцей. Відавочна, у гэты час фарміравалася яго асоба. Падчас навучання ў мінскай мужчынскай гімназіі ён арганізуе «беларускі кружок», «гуртуючы шчыра дэмакратычные элемэнты». А. Луцкевіч лічыў, што менавіта падчас навучання ў мінскай гімназіі яго брат Ян вырастае ў «першага тварца беларускага руху»[8].

А. Луцкевіч падкрэсліваў, што «яшчэ на школьнай лаве мой брат Іван і я ўсьведаміліся і нацыянальна, і сацыяльна ды пачалі гуртаваць каля сябе болей-меней сьвядомых беларусаў»:

[7] *Жыцьце і праца Івана Луцкевіча*, [у:] *Памяці Івана Луцкевіча ў першые ўгодкі сьмерці яго (20.VIII.1919 — 20.VIII.1920)*, Вільня 1920, с. 5-7. Цікава адзначыць, што ў той час немцы пакідалі рускамоўныя дзяржаўныя школы Остзейскага краю, пераходзячы ў прыватныя з нямецкай мовай навучання, а на іх месца прыходзілі літоўцы, якіх многа было сярод выкладчыкаў прагімназіі ў Паланзе, гімназій у Мітаве (цяпер Елгава ў Латвіі), Лібаве і Рызе (И. И. Баринов, *Политика русификации в Литве: случай Казиса Шкирпы*, «Славянский мир в третьем тысячелетии», 2020, т. 15, № 1-2, с. 41).

[8] *Жыцьце і праца Івана Луцкевіча*, с. 7-8.

Было гэта ў Менску, дзе мы ад 1897 году хадзілі ў гімназію. *Spiritus movens* гэтае работы быў Іван, які й да самае сьмерці сваёй аставаўся запраўдным павадыром беларускага адраджэнскага руху. Ужо тады да нас, гімназістаў, прыходзіў Казімер Кастравіцкі (Карусь Каганец) [...]. Ён чытаў нам свае беларускія вершы, якія пачаў пісаць у пачатку 90-ых гадоў, ды гутарылі мы зь імі *(sic!)* аб беларускай справе. Прыходзілі й калегі-гімназісты, у якіх пачала прабуджацца нацыянальная сьвядомасьць. [...] Мы заклалі беларускую бібліатэчку — ня гэтулькі беларускую па мове кніжак, бо такіх было йшчэ вельмі мала (творы Марцінкевіча ды Багушэвіча), сколькі па зьместу; бо ў ёй былі кніжкі аб беларускай гісторыі, этнаграфіі і інш. Было, памятаю, і шмат украінскіх літаратурных твораў. Іван, як знаўца гісторыі, якой пачаў вельмі цікавіцца ад трэцяе клясы гімназіі (яшчэ ў Лібаве), будзіў і разьвіваў у нас нацыянальную сьвядомасьць успамінамі аб слаўнай мінуўшчыне, выясьняючы ўсю тэндэнцыйнасьць расейскіх гістарычных падручнікаў ды польскае патрыятычнае літэратуры, якія роўна стараліся ўкрыць праўду аб беларусах. Так утварыўся даволі чысьленны беларускі гурток, з якога пасьля выйшаў цэлы рад актыўных работнікаў на беларускай адраджэнскай ніве[9].

Сярод выпускнікоў мінскай гімназіі, якія далучыліся да беларускага руху, былі таксама выпускнік 1897 г. Антон Неканда-Трэпка, выпускнік 1898 г. Уладзімір Самойла, выпускнік 1902 г. Яўген Барычэўскі[10].

Такім чынам, першыя беларускія нацыянальныя дзеячы спярша адчулі ўплыў з боку літоўскіх дзеячаў і адпаведнага вопыту, а затым з боку ўкраінскай літаратуры і, што немалаважна, з боку асоб, якія ўжо ў той час пісалі па-беларуску, як К. Кастравіцкі або, завочна, Ф. Багушэвіч. Пад уплывам гэтых фактараў сфарміравалася крытычнае стаўленне да польскага і рускага поглядаў на беларусаў, якое панавала ў адпаведнай літаратуры. У выніку, гэта паспрыяла пераходу на наступны этап — да сцвярджэння самастойнасці і самабытнасці беларусаў, да выпрацоўкі ўласнай канцэпцыі аб беларускім народзе (нацыі).

Яшчэ адной крыніцай для рэканструкцыі працэсу фармавання ідэнтычнасці Я. Луцкевіча з'яўляюцца яго запісныя кніжкі. У іх ён карыстаўся як рускай мовай[11], так і польскай[12]. Напрыклад, у запісной

9 А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада*, [у:] ён жа, *Да гісторыі беларускага руху*, укл. А. Сідарэвіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius-Białystok 2010, с. 171.

10 Інфармацыя Ігара Барынава (Масква).

11 Запісная кніжка Я. Луцкевіча, 1888 г., Lietuvos Mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka (далей: LMAVB), F. 21-374; Запісная кніжка Я. Луцкевіча з раздзела-

кніжцы каля 1904 г.[13] запісы зроблены пераважна на рускай мове, але сустракаюцца запісы на польскай і беларускай[14].

Сярод розных нататак звяртаюць на сябе ўвагу кнігі, якія цікавілі Я. Луцкевіча: „Litewska Bibliografia Stankiewicza”, „Gramatyka Litewska Krakowska [неразборліва] Paszkiewicza”[15]. Луцкевіч зрабіў замалёўкі курганоў[16], пячаткі земскага суда Мінскага павета 1812 г.[17], запісваў песні, паданні на беларускай мове ад розных асоб, якія сустракаліся падчас паездак[18]. Сярод мясцовасцей, якія Луцкевіч наведаў у 1899-1903 гг. былі Рэчыца, Мазыр, Гомель, Барысаў, Крэва, Лоск, Лябёдка, Мураванка — у Беларусі; ваколіцы Вільні, Коўна і Шаўляў — у Літве; Лібава — у Латвіі[19].

Я. Луцкевіча цікавала палеаграфія[20], гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, у прыватнасці, падзел вялікімі князямі Альгердам і Кейстутам літоўскай дзяржавы на ўсходнюю і заходнюю часткі[21]. Луцкевіч перапісаў тэкст на (старабела)рускай мове з надмагілля XVI ст. віленскага бурмістра Афанасея Брагі і яго сына Антонія ў царкве Святой Тройцы ў Вільні[22].

У нататніку Луцкевіча змешчаны выпіскі з прац Яўфімія Карскага. Працы Карскага публікаваліся ў той час на рускай мове, але Луцкевіч перапісаў іх кароткі змест па-польску:

> Z ankiety Pr. Karskiego „Co takiego starożytne narzecze zachodnio-ruskie”; „Odrębności białoruskiego starożytnego i teraźniejszego języka (tenże Karski

мі «Расходы», «Замѣтки по этнографіи и говорамъ», «Замѣтки по археологіи, матеріалы для карты; каменн. орудія» і інш., без даты, LMAVB, F. 21-371.

12 Запісная кніжка Я. Луцкевіча са спісам антыкварных прадметаў, 1883-1899 гг., LMAVB, F. 21-373.

13 Пра гэта сведчаць запісы з датамі паездак па Беларусі і Літве ў 1899-1903 гг.: LMAVB, F. 21-366, l. 14v-15; „Ankieta Pr. Karskiego 1902 r.”, LMAVB, F. 21-366, l. 41; „1903 r. lato”, LMAVB, F. 21-366, l. 13v.; „Kraków — Muzeum Narodowe. 2 grudnia 1904 roku”, LMAVB, F. 21-366, l. 8v.

14 Запісная кніжка Я. Луцкевіча, каля 1902-1904 гг., LMAVB, F. 21-366.

15 Там жа, l. 3.

16 Там жа, l. 3v-4v.

17 Там жа, l. 8v.

18 Запісная кніжка Я. Луцкевіча, каля 1902-1904 гг., запісы выказванняў сястры лесніка і лесніка з Нядзведзіц пад Навагрудкам, лета 1903 г., LMAVB, F. 21-366, l. 12-13v; запіс падання, якое чуў Г. Татур летам 1904 г. у Дулебах Ігуменскага павета, LMAVB, F. 21-366, l. 22r-23r.

19 Запісная кніжка Я. Луцкевіча, каля 1902-1904 гг., LMAVB, F. 21-366, l. 14v-15r, 17r-17v.

20 Там жа, l. 16r.

21 Там жа, l. 24v.

22 LMAVB, F. 21-370, l. 4r. Фота і апісанне надмагілля Брагаў, якое захавалася да нашых дзён, гл.: M. Matušakaitė, *Išėjusiems atminti. Laidosena ir kapų ženklini-*

pr)"; „Ankieta Pr. Karskiego 1902 r. Względem opracowania etnograficznej karty białoruskiego plemienia[23].

Сярод выпісак, якія Я. Луцкевіч зрабіў з прац Я. Карскага, звяртаюць на сябе ўвагу цытаты з гістарычных крыніц пра (старабела)рускую мову часоў Вялікага Княства Літоўскага. У гэтым можна бачыць уплыў на Луцкевіча дыскурсу аб беларусах, які несла тагачасная расійская навука, у тым ліку заходнеруская ідэалогія, носьбітам якой з'яўляўся Карскі.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. з'яўляліся гістарычныя працы па «гісторыі Беларусі», аднак яны датычылі тэрыторыі *Беларусі* перш за ўсё ў геаграфічным сэнсе гэтага слова. У ранейшы перыяд гэта тэрыторыя магла выступаць пад іншымі назвамі — *Русь*, *Літва* і нават *Польшча*. Інакш кажучы, «гісторыя Беларусі» — паняцце рэтраспектыўнае.

Стварэнне нацыянальнай карціны мінулага з канца XVIII ст. было неабходнасцю для кожнай новай нацыі ў Еўропе. Як заўважыў чэшскі гісторык і сацыёлаг Міраслаў Грох, „obraz nowoczesnego narodu był skierowany ku przyszłości, ale miał zawsze także swój historyczny aspekt": „Wspomnienie o tym, „czym byliśmy", „jak cierpieliśmy", „czego dokonaliśmy" itd. było zawsze składnikiem narodowej agitacji i znalazło się bardzo szybko wsród stereotypów narodowych"[24].

А як адзначае мінская даследчыца Марыяна Сакалова, «вывучэнне нацыяналістычных праектаў, якія выпрацавалі пачынальнікі беларускай нацыянальнай ідэі, мае прынцыповае метадалагічнае значэнне»:

> Менавіта яны, па-першае, пачалі канструяваць мінулае на аснове сацыяльна-гістарычнай рэчаіснасці, якая іх акружала і звязаных з ёй інтарэсаў; а, па-другое, абапіраючыся на гэтае пэўным чынам інтэрпрэтаванае мінулае яны прапанавалі праекты для будучыні[25].

Разгледзім, як на старонках «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» ў 1906-1907 гг. апісваліся падзеі агульнай гісторыі беларусаў з іх найбліжэйшымі суседзямі. І перш за ўсё звернемся да беларуска-літоўскага кантэксту.

*mas LDK*, Vilnius 2009, p. 66-67; В. А. Корбут, *Ад Мінска да Вільні. Гісторыя Беларусі ў журналісцкіх нататках*, Мінск 2016, с. 450.

23 LMAVB, F. 21-33, l. 34r-40v, 41r-42r.

24 M. Hroch, *Małe narody Europy. Perspektywa historyczna*, Wrocław-Warszawa-Kraków 2003, s. 127.

25 М. Сакалова, *Пра разуменне паняццяў «нацыя» і «этнас» у сучаснай айчыннай гістарыяграфіі*, «Гістарычны альманах», 2002, т. VI, с. 179.

**Беларусь і Літва, беларусы і літоўцы (літвіны)**

Пішучы пра Літву і літоўцаў, «Наша Доля» і «Наша Нива» ў 1906-1907 гг. выкарыстоўвалі наступныя лексемы: *Литва, Litwa*; *Litwin* (толькі адзін раз *litoŭcy*[26]); *литоускiе, litoŭskije, litouskija; па литоўску, pa litoŭsku*; *Wialikaje Kniažestwa Litoŭskaje*. Пры гэтым формы *литвин, літвін, Litwin*, *литоўски, літоўскі, litoŭski* адзначаны ў «Нашай Ниве» і ў наступныя гады[27]. У мове першых беларускіх газет выкарыстоўваецца толькі форма *ŭ Litwie*, якая падтрымлівалася як тагачасным польскім узусам (*w Litwie*, але і: *na Litwie*)[28], так і рускім (*въ Литвѣ*). Параўн. ранейшыя прыклады словаўжывання: у беларускім тэксце: *na Litwie* — у Ф. Багушэвіча (1891 г.)[29]; у польскіх: *na Litwie* — у Адама Міцкевіча (1834 г.)[30], Аляксандра Валіцкага (1873 г.)[31]; *w Litwie, na Litwie* — у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1857 г.)[32].

У (старабела)рускай мове была вядома форма *литвин*, аднак нельга выключаць яе паходжанне з польскай мовы (*Litwin, Litwini*). Форма *litwin* звязана перш за ўсё з уплывам польскай пісьменнасці, а *litoŭcy*, праўдападобна, з рускай. Зрэшты, і ў рускай мове слова *литвин* функцыянавала[33] [параўн. у творах заходнерускага публіцыста Міхаіла Каяловіча (1860-я гг.)[34], у рускага этнографа Пампея Бацюшкава (1890-я г.)[35]]. Формы *Литвины* і *Литовцюв* з перавагай першай адзначаны ў расійскім афіцыёзным выданні на беларускім і маларускім (украінскім) дыялектах «Разсказы на бѣлорусскомъ нарѣчіи», што ўбачыла свет у Вільні ў 1863 г.[36]

26 „Nasza Niwa”, 1906, nr 1.

27 *Слоўнік мовы «Нашай нівы». 1906-1915. У 5 т.*, т. 2: *Д-Н*, укл.: І. А. Гапоненка [і інш.], навук. рэд. В. П. Лемцюгова, Мінск 2007, с. 473-474.

28 M. Łaziński, *Przyimki* na, w *oraz* do *przed nazwami państw, krajów i krain. Historia i współczesne wahania normatywne*, „Język Polski”, 2022, R. CII, z. 1, s. 26-40.

29 *Dudka białaruskaja Macieja Buraczka*, Kraków 1891, s. V.

30 *Pan Tadeusz, czyli Ostatni zajazd na Litwie. Historja szlachecka z r. 1811 i 1812, we dwunastu księgach, wierszem*, przez Adama Mickiewicza, t. I, Paryż 1834.

31 *Stanisław Moniuszko*, przez A. Walickiego. *(Z portretem i z dodatkiem kartki nut)*, Warszawa 1873, s. 30.

32 *Dudarz białoruski, czyli wszystkiego potrosze*, przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza, Mińsk 1857, s. 45.

33 K. Bŭga, *Lietuvių tauta ir kalba bei jos artimieji giminaičiai*, [у:] K. Bŭga, *Rinktiniai raštai. 3 tomai*, t. III, sud. Z. Zinkevičius, Vilnius 1961, p. 85.

34 М. О. Коялович, *Чтения по истории Западной России*, Санкт-Петербург 2020, с. 7 і наст.

35 *Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы Сѣверо-Западнаго края*, издано П. Н. Батюшковымъ, С.-Петербургъ 1890, с. 1-2.

36 А. Латышонак, *Гутарка «царкоўнага старасты Янкі» зь «Яськам, гаспадаром з-пад Вільні»*, [у:] ён жа, *Нацыянальнасьць — Беларус*, навук. рэд. А. Пашкевіч; 2-е выд., дап. і папр., Vilnius-Białystok 2012, с. 475-478.

Запісы Івана Насовіча сярэдзіны XIX ст. з усходняй Беларусі фіксуюць наступныя формы: *Литвинъ, якъ линъ; Литвяки по нашему не говоруць*[37]. У беларускіх гаворках вядомы наступныя формы гэтага этноніма: *ліцвяк, ліцвін, лецвяк, літвін, літвячка*[38].

З першага нумара «Нашай Доли» ў ёй з'явілася пастаянная рубрыка «З Беларуси и Литвы» („Z Biełarusi i Litwy"), якая прысутнічала таксама ў «Нашай Ниве», што сведчыць пра тое, што Беларусь успрымалася як адно цэлае з Літвою, а яшчэ шырэй пад паняццем «Беларусь і Літва» меліся на ўвазе тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага і, адпаведна, Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, якія ахоплівалі таксама латышскія (латгальскія) (паўночныя паветы Віцебскай губерні) і ўкраінскія землі (паўднёвыя паветы Гродзенскай губерні)[39].

Невыпадкова таму ва ўзусе першых беларускіх газет паняцце *Беларусь* часта спалучаецца як з *Літвою*, так і — у гістарычным кантэксце — з *Польшчай*: *mnoha narodu z naszaj Biełarusi i Litwy*[40]; *Вильня — дауней сталичнае места Литвы и Белай Руси*[41]; *Polszcza, Litwa i Biełaruś nasza byli niezaležnym hasudarstwam*[42].

Можна сцвярджаць, што на мяжы XIX і XX стст. існавала ўяўленне пра нейкае непадзельнае гістарычна-геаграфічнае цэлае — «Літву і Беларусь» (часам нават толькі пра «Літву» — у польскай традыцыі) як пра тэрыторыю былога Вялікага Княства Літоўскага (у граніцах 1772 г.), адпаведна тагачасны Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі, што знайшло сваё адлюстраванне ў публіцыстыцы[43] і картах[44].

37 *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія*, сост. И. И. Носовичемъ, Санктпетербургъ 1870, с. 269.

38 *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 6: *Л-М*, укл. І. І. Лучыц-Федарэц, рэд. В. У. Мартынаў, Мінск 1990, с. 12.

39 V. Korbut, *«Беларусь», «Беларусь и Литва» и производные понятия на страницах первых белорусскоязычных газет*, [у:] *Jednostki języka w systemie i w tekście*, 5, red. A. Charciarek, A. Zych, G. Wilk, Katowice 2023, s. 133-149; ён жа, *Літоўцы і літоўска-беларускія адносіны на старонках газет «Наша Доля» і «Наша Нива» ў 1906-1907 гг.*, „Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej", 2023, t. 16, s. 41-67.

40 „Nasza Niwa", 1907, nr 31.

41 «Наша Нива», 1907, № 28.

42 „Nasza Niwa", 1907, nr 21.

43 *Живописная Россія. Отечество наше в его земельномъ, историческомъ, племенномъ, экономическомъ и бытовомъ значеніи*, т. III, ч. 1: *Литовское Полѣсье*, ч. 2: *Бѣлорусское Полѣсье*, общ. ред. П. П. Семеновъ, С.-Петербургъ—Москва 1882; *Россія. Полное географическое описаніе нашего отечества: настольная и дорожная книга для русскихъ людей*, ред. В. П. Семеновъ, общ. рук. П. П. Семеновъ, В. И. Ламанскій, т. IX: *Верхнее Поднѣпровье и Бѣлоруссія*, сост. В. П. Семеновъ [и др.], С.-Петербургъ 1905; *Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы...*; *Przewodnik po Litwie i Białej Rusi*, oprac. N. Rouba, Wilno b.r.w.

Пра пачаткі фармавання ўяўленняў пра адзінства Літвы і Белай Русі яшчэ ў XVII ст. пісаў у свой час польскі беларусазнавец Алег Латышонак, прыводзячы прыклады з крыніц: *nieunici Ruś w Koronie i Litwie i na Białej Rusi; do Litwy i na Białą Ruś; na Białej zaś Rusi przy inszych miastach i miasteczkach, które są tak w Litwie, jako i na Rusi Białej* (1632 г.); *Z Białej Rusi i z Litwy do Polski i Szlonska* (сярэдзіна XVIII ст.)[45].

Варта напомніць, што расійскія ўлады называлі ў некаторых дакументах 1799-1800 гг. землі былога Вялікага Княства Літоўскага і правабярэжнай Украіны, далучаныя да Расійскай імперыі ў 1772-1795 гг., тэрыторыяй «возвращенной» ад Польшчы. У пачатку 1810-х гг. з'яўляецца тэрмін «заходнія губерні» ў адносінах да далучаных тэрыторый (у геаграфічным сэнсе). Адначасова існаваў тэрмін «присоединенные от Польши губернии». Аднак пасля задушэння паўстання 1830-1831 гг. застаецца тэрмін «возвращенные от Польши губернии». З 1830-х гг. распаўсюджваецца паняцце «Заходні край». Да Літвы, літоўскіх губерняў у той жа час адносіліся Віленская, Гродзенская, а Беларуссю, беларускімі лічыліся Віцебская і Магілёўская. У 1840 г. гэтыя губерні цар Мікалай I загадаў не называць літоўскімі і беларускімі, а кожную паасобку. Да 1850 г. існавала Беларуская (з 1850 г. — Віленская) навучальная акруга. Мінская губерня часцей за ўсё не далучалася ні да беларускіх, ні да літоўскіх[46].

У ідэнтычнасці ўдзельнікаў паўстання 1863-1864 гг. у Беларусі і Літве склаліся розныя вобразы гэтага краю. У рукапісе шостага нумара пракламацыі „Mużyckaja Prauda", напісанай 12 кастрычніка 1862 г. (яе змест не супадае з шостым нумарам друкаванага выдання[47]; цяпер захоўваецца ў Нацыянальным музеі Літвы[48]), змешчаны такія думкі:

> Wy Dziaciuki peunie niewiedaje cie chto wy takije, jak nazywaječ sia heta ziemla na jakoj naszyje baćki żyli, na jakoj my żywiemo i naszyje dzietki życi budué, — szto z jeju czaupło sia z daunich let, jakim heto sposobom maskal pad siebie zaharnuŭ i dla czoho to jon nas da hetaj pary jeszcze trymaje. [...] Ziemla nasza z wiekou wiecznych nazywaieć sia litouskaja, a my to nazywajem sia Litoucy.

44 *Mapa sześciu gubernji Litwy i Białej Rusi*, oprac. B. Hertz, b.m. i b.r.w.

45 O. Łatyszonek, *Od Rusinów Białych do Białorusinów. U źródeł białoruskiej idei narodowej*, Białystok 2006, s. 135, 252.

46 Д. Сталюнас, *Польша или Русь? Литва в составе Российской империи*, Москва 2022, с. 54-59.

47 К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць. Творы, дакументы*, укл. Г. Кісялёў, Мінск 1999, с. 35-37.

48 *N. 6. Mużyckaja Prauda*, [у:] *1863-1864 metų sukilimas Lietuvoje*, sud. A. Bieliūnienė, B. Kulnytė, R. Subatniekienė, Vilnius 2013, p. 102-105.

Тут бадай упершыню ў беларускамоўным тэксце яго адрасаты называюцца літоўцамі, а іх краіна Літвой. Адначасова ў тэксце абгрунтоўваецца гістарычная сувязь літоўцаў з палякамі. Аднак аўтарства дакумента дагэтуль не высветлена, прычым ім не быў Вінцэнты Канстанты Каліноўскі[49].

У іншым рукапісе паўстанцаў за май 1863 г., „Kaimszczyna na Litwie i Biełajrusi", які падпісаны Янкам з-пад Вільна (выяўлены ў Нацыянальным музеі Літвы Аляксандрам Смаленчуком у 2022 г.), звяртае на сябе ўвагу дуалізм паняцця „Ajczyzna"[50].

У газеце „Chorągiew Swobody", што ўбачыла свет у Вільні 19 лютага 1863 г. пад рэдакцыяй аднаго з кіраўнікоў паўстання В. К. Каліноўскага, „Prowincjonalny Rząd Tymczasowy na Litwie i Białorusi" звяртаўся да чытачоў: „Narodzie Litwy i Białorusi!" У той жа час адзначалася, што

> swiezem *(sic!)* męczeństwem święcony sojusz z bracią z nad Wisły i Dniep... [страчаны фрагмент тэксту. — *В.К.*] obliczu wroga i świata całego potwierdzisz męztwem [страчаны фрагмент тэксту. — *В.К.*] ...mnem w walce nad Niemnem i Wiliją.

Тут жа гаворыцца пра баі ў „Królestwie" з ворагам „Wielkopolan" — расійскім войскам. Мы тут бачым выразны прыклад аб'яднання Літвы і Беларусі з Польшчай у агульнае цэлае[51].

Іншы дакумент паўстання, выдадзены ў Вільні 1 лютага 1863 г., гэта „Manifest Rządu Polskiego", які пачынаецца словамі: „Prowincyonalny Rząd Tymczasowy na Litwie i Biało-Rusi, w imieniu Rządu Narodowego Polskiego [...]". Канчаецца маніфест словамі: „Bożę zbaw Polskę"[52]. Тымі ж словамі канчаецца дакумент пад назвай „Rząd Narodowy. Wydział Zarządzający Prowincyami Litwy", выдадзены ў Вільні 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. Гэта важны дакумент, бо ў ім гаворыцца пра тое, што „Komitet Prowincyonalny Litewski został zreorganizowanym *(sic!)* i odtąd nosi nazwę Wydziału zarządzającego *(sic!)* prowincyami Litwy"[53]. У дакуменце пад

49 С. Абламейка, *Каліноўскі не пісаў «Зямля наша... называецца літоўская». Графалягічная экспэртыза адкрыла гістарычную сэнсацыю*, https://www.svaboda.org/a/32009287.html [доступ: 30.08.2022].

50 Д. Гурневіч, *«Гэта скарб, бо там і яго асабістыя рэчы». Даведаліся больш пра новыя знаходкі Каліноўскага ў Вільні, зь якімі не працавалі дасьледчыкі*, https://www.svaboda.org/a/31992693.html [доступ: 30.08.2022].

51 „Chorągiew Swobody", 19.02.1863, nr 2, s. 1, [у:] *1863-1864 metų sukilimas...*, p. 128-129.

52 *Manifest Rządu Polskiego*, [у:] там жа, p. 138-139.

53 *Rząd Narodowy. Wydział Zarządzający Prowincyami Litwy,* [у:] там жа, p. 168-169.

назвай „Rząd Narodowy. Wydział Zarządzający Prowincyami Litwy", выдадзеным у Вільні 21 красавіка 1863 г., гаворыцца „w imieniu Litwinów i Rusinów": „Walka narodowa trwać będzie na wszystkich punktach Litwy i Rusi dopokąd wypartym z nich nie będzie ostatni żołnierz Moskiewski [...]".

Маскоўскі цар заклікаўся да таго, каб вывесці „swe wojska za stare Polski granice; — a wówczas ludy litewski i ruski wolnemi głosami wyrzekną o swym losie" і дакажуць цару, што „z głębokiej miłości dla Ojczyzny walczy cały naród za niepodległość Polski"[54].

Такім чынам, яшчэ ў час паўстання 1863-1864 гг. тэрмін *Białoruś* і вытворныя ад яго лексемы ў спалучэнні з паняццем *Litwa* мог узаемазамяняцца тэрмінам *Ruś* і аб'ядноўвацца з паняццем *Polska*. Адпаведна, гаварыць пра замацаванне тэрміна «Беларусь» за пэўнай тэрыторыяй і яго стабільную семантыку ў той час гаварыць яшчэ нельга.

Ідэя гістарычнай агульнасці «Литвы и Билоруссіи», «Литвинувъ и Русскихъ» прасочваецца ў нарысе «Кто булы наши найдавнійшии диды и якая ихъ була доля до уніи?», апублікаваным на маларускім (украінскім) дыялекце ў расійскім афіцыёзным выданні «Разсказы на бѣлорусскомъ нарѣчіи», што ўбачыла свет у Вільні ў 1863 г. Пры гэтым у нарысе выразна праводзіцца ідэя аб адметнасці «Билорусського народа» і акрэсліваюцца граніцы «Билоруссіи», а да «Литвы» адносяцца Віленская губерня, частка Гродзенскай (да Нёмана) і ўся Ковенская[55]. Змешванне маларускай (украінскай) і беларускай моў пад назвай «бѣлорусское нарѣчіе» таксама пацвярджае нестабільнасць тагачасных уяўленняў пра беларусаў і іх мову.

Выданнямі, якія ўплывалі на фармаванне ў масавага чытача ў Расійскай імперыі ўяўленняў пра Літву і Беларусь, сталі праца А. Г. Кіркора і інш. пра Літву і Беларусь у выдавецкай серыі «Живописная Россія»[56], кніга П. Бацюшкава «Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы Сѣверо-Западнаго края» , што ўбачыла свет у 1890 г.[57] Выхад у свет у 1905 г. дзявятага тома мнагатомнага выдання «Россія. Полное географическое описаніе нашего отечества», прысвечанага Беларусі, адным з аўтараў якога быў Мітрафан Доўнар-Запольскі, даў чытачу аб'ектыўныя звесткі па гісторыі, этнаграфіі Беларусі, беларускай мове[58].

П. Бацюшкаў тлумачыў, што

54 *Rząd Narodowy. Wydział Zarządzający Prowincyami Litwy*, [у:] там жа, p. 301.
55 А. Латышонак, *Гутарка «царкоўнага старасты Янкі»...*, с. 475-479.
56 *Живописная Россія...*
57 *Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы...*
58 *Россія. Полное географическое описаніе...*; Л. В. Алексеев, В. П. Богданов, *Западные земли домонгольской Руси в историко-археологическом осмыслении*, Москва 2009, с. 190.

въ настоящее время подъ Бѣлоруссіею въ тѣсномъ смыслѣ извѣстны двѣ нынѣшнія губерніи Могилевская и Витебская, за исключеніемъ трехъ уѣздовъ послѣдней Динабургскаго, Люцинскага и Рѣжицкаго. Но бѣлоруссы живуть также в губерніяхъ Минской и Гродненской, за исключеніемъ южныхъ уѣездовъ ихъ, занятыхъ малороссами, въ большей части Виленской губерніи, за исключеніемъ сѣверо-западнаго угла ея, и въ Смоленской губерніи.

«Литовское племя» Бацюшкаў лакалізаваў у амаль усёй Ковенскай губерні, паўночна-заходняй частцы Віленскай, большай частцы Сувалкаўскай і ў некаторых мясцовасцях Гродзенскай. Бацюшкаў рэзюмаваў:

> Такимъ образомъ, бѣлоруссы и литвины въ настоящее время населяютъ почти весь Сѣверо-Западный край Россіи, въ иныхъ случаяхъ переступая за его предѣлы, а въ другихъ — не достигая ихъ. Поэтому исторія Бѣлоруссіи и Литвы можетъ быть отождествлена съ исторіей Сѣверо-Западнаго края Россіи[59].

На «Картѣ Бѣлорусско-Литовскаго Полѣсья» ў зборніку «Русская земля» 1899 г. гэты рэгіён ахоплівае тэрыторыю былога Вялікага Княства Літоўскага ў граніцах 1772 г. і Смаленскую губерню: з гарадамі Беласток, Брэст-Літоўск на захадзе, Белым, Вязьмай, Гжацкам на ўсходзе, Люцынам, Рэжыцай, Дзвінскам на поўначы і Кобрынам, Пінскам, Туравам на поўдні. Пры гэтым да «Бѣлорусской области» ў выданні аднесены губерні ў наступнай паслядоўнасці: Смаленская, Магілёўская, Віцебская і Мінская, а асноўным насельніцтвам «Бѣлорусско-Литовскаго Полѣсья» названы «бѣлоруссы» і «литовцы»[60].

У даведачным выданні 1905 г. «Верхнее Поднѣпровье и Бѣлоруссія» абмяжоўвалася Віцебскай, Смаленскай, Магілёўскай і Мінскай губернямі[61]. На карце «Племена Верхняго Поднѣпровья и Бѣлоруссіи. По Риттиху и Карскому и др.» мы бачым, што заходняя граніца гэтага рэгіёна праходзіць ад Навагрудка на поўдзень да Пінска, а паўночна-заходняя — ад Навагрудка — Мінска — Барысава — Дрысы — на поўнач да Дзвінска і Рэжыцы. На ўсходзе яна праходзіць па лініі Себеж — Белы — Юхнаў — Ельня — Рослаў

59 *Бѣлоруссія и Литва. Историческія судьбы...*, с. 1-2.

60 *Русская земля (природа страны, населеніе и его промыслы). Сборникъ для народнаго чтенія*, т. VII: *Бѣлорусско-Литовское Полѣсье. По «Этнографіи Россіи» Л. Весина и др. источникамъ*, сост. Я. И. Рудневъ; 2-е изд., С.-Петербургъ 1899, с. 5.

61 *Россія. Полное географическое описаніе...*, с. III.

— Клімавічы — Новая Беліца. Пры гэтым тэрыторыя ад Пінска да Мазыра адзначана як заселеная «пинчуками (малороссами)», а лінія «границы малорусскаго вліянія» праведзена адразу на поўдзень ад Слуцка — Бабруйска — Гомеля. На поўначы, у ваколіцах Дзвінска, Рэжыцы і Люцына, адзначана тэрыторыя рассялення латышоў, а на ўсход ад Смаленска — велікарусаў[62]. Беларусы складалі 66,3% насельніцтва гэтай вобласці: больш за ўсё ў Магілёўскай губерні (84%) і менш за ўсё ў Смаленскай (46,7%)[63].

Ужо з сярэдзіны 1880-х гг. у літоўскім нацыянальным руху пачала афармляцца ідэя будучай асобнай ад палякаў літоўскай дзяржаўнасці (адным з першых яе выказаў і абгрунтаваў вядомы публіцыст Ёнас Шлюпас), што выклікала рэзкую рэакцыю палякаў[64].

Паводле А. Луцкевіча, «зь беларускага боку (на зьездах краёвае інтэлігенцыі ў Вільні ў 1904 г., на міжпартыйных канфэрэнцыях там жа ў 1905-[190]6 гг.) выстаўляецца ідэя адбудовы колішняга Вялікага Княства Літоўскага як беларуска-літоўскай фэдэрацыі»[65]. На з’ездзе «краёвае інтэлігенцыі» прысутнічалі Алаіза Пашкевіч і іншыя віленскія беларускія дзеячы, Аляксандр Уласаў з Радашковіч (з канца 1906 г. будзе афіцыйным рэдактарам газеты «Наша Нива»), А. і Я. Луцкевічы з Мінска (апошні быў дакладчыкам)[66]. Магчыма, гэта быў адзін і той жа з’езд, які адбыўся ў 1905 г., а дата 1904 г. недакладная. Бадай, тут можа ісці гаворка і пра тое, што ў 1905 г. у Вільні група мясцовых дзеячаў, сярод якіх былі беларусы, літоўцы, палякі, стварыла палітычны клуб для абмеркавання збліжэння народаў гістарычнай Літвы. Клуб спыніў існаванне ў тым жа годзе. Аднак у маі 1905 г. клуб паспеў сабраць з’езд, у якім удзельнічалі беларусы Я. Луцкевіч, А. Уласаў, А. Пашкевіч. На з’ездзе было прапанавана прыняць рэзалюцыю аб тым, што будучая Расія павінна быць федэрацыяй, у склад якой увойдзе Літва на правах аўтаноміі з соймам у Вільні. Пад Літвой разумеліся або землі, на якіх жывуць беларусы і літоўцы, або землі былога ВКЛ з цэнтрам у Вільні. Аднак рэзалюцыю не падтрымалі рускія кадэты і польскія нацыянальныя і прагрэсіўныя дэмакраты[67].

62 Там жа, уклейка паміж сс. 144-145.

63 Д. З. Шендрикъ, М. В. Довнаръ-Запольскій, *Распредѣленіе населенія Верхняго Поднѣпровья и Бѣлоруссіи по территоріи, его этнографическій составъ, бытъ и культура*, [у:] *Россія. Полное географическое описаніе...*, с. 134-135.

64 A. Vyšniauskas, R. Gaidis, L. Švec, *«Lietuviai ir lenkai» (1887). Jono Šliūpo pozicija ir valstybingumo vizijos XIX amžiaus pabaigoje. Mokslinių darbų rinkinys*, sud. ir moksl. red. A. Vyšniauskas, Vilnius 2016.

65 А. Луцкевіч, *Палітычныя лёзунгі беларускага руху*, [у:] ён жа, *Да гісторыі беларускага руху*, с. 97.

66 А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў...*, с. 174.

67 А. Кучэўскі, *Жменя ўспамінаў пра падзеі 1905 г. у Вільні*, «Наша слова», 17.02.2021, № 7, с. 6.

Беларуская сацыялістычная грамада была прыхільніцай аб'яднання з Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй, ППС у Літве ў «агульнакраёвую с[ацыял]-д[эмакратычную] партыю Беларусі і Літвы»[68] з самастойнымі нацыянальнымі секцыямі. Луцкевічы «вельмі горача падтрымлівалі гэту ідэю». Некалькі партыйных нарад па гэтай тэме адбыліся ў маі-чэрвені 1906 г. у віленскай кватэры братоў Алаізы Пашкевіч — Вацлава і Юзафа, афіцэраў Маладзечанскага пяхотнага палка, з якімі Алаіза жыла ў раёне Сніпішкі, на вул. Хівінскай, 44 (цяпер Giedraičių gatvė)[69].

Аднак, як пісаў А. Луцкевіч, у 1906 г. з літоўцамі і палякамі не ўдалося дамовіцца пра стварэнне супольнай партыі:

> Але тут віна была, здаецца, цалком на старане літвінаў, якія імкнуліся да такое аўтаноміі «этнаграфічнае» Літвы, каб у склад яе ўвайшлі беларускія абшары Віленшчыны і Горадзеншчыны пад відам «этнаграфічна-літоўскіх», а з рэштай Беларусі ніякага дзела мець не хацелі. Ведама, з такой пастаноўкай справы не маглі пагадзіцца ня толькі мы, але навет і пэпээсы[70].

Адной з прычын нязгоды называлася і тое, што «сярод беларускае і польскае сацыялістычнае інтэлігенцыі крэпка панавала йшчэ ідэя адбудовы супольнае для Беларусі і Літвы дзяржаўнае арганізацыі». Аднак перагаворы «разьбіліся», бо сярод розных прычын «літвіны выразна заявілі, што яны стаяць на грунце пастановаў так званага «Вялікага Літоўскага Сойму» ў Вільні 1905 году, які пастанавіў, што літоўская дзяржаўная арганізацыя мае складацца з этнаграфічнае Літвы плюс — Віленшчына і Горадзеншчына»[71].

У літоўскім нацыянальным руху тады ўжо існавала тэндэнцыя да ўключэння ў склад Літвы зямель вакол Вільні[72], стварэння літоўскай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі з сеймам у Вільні, як, напрыклад, было пастаноўлена ў прынятым 5 (18) лістапада 1905 г. мемарандуме арганізацыйнага

[68] А. Луцкевіч, *Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады*, [у:] ён жа, *Да гісторыі беларускага руху*, с. 153.

[69] А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў...*, с. 183; А. Будзька, *Успаміны пра Івана Луцкевіча*, [у:] *Памяці Івана Луцкевіча...*, Вільня 1920, с. 40; С. Кайрыс, *З маіх успамінаў пра Цётку*, [у:] *На суд гісторыі. Успаміны. Дыялогі*, укл. Б. І. Сачанка, Мінск 1994, с. 15-16.

[70] А. Луцкевіч, *За дваццаць пяць гадоў...*, с. 184.

[71] А. Луцкевіч, *Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады*, с. 153.

[72] Параўн. карты А. Мацяўскаса 1899 г. і П. Матулёніса 1906 г.: *Lietuva žemėlapiuose*, sud. A. Bieliŭnienė, B. Kulnytė, R. Subatniekienė, Vilnius 2011, p. 370-373.

камітэта З’езда літоўцаў у Вільні (Вялікага віленскага сейма), накіраваным старшыні Савета Міністраў Расіі Сяргею Вітэ. Пры гэтым у мемарандуме абвяшчалася, што літоўцамі заселены ў тым ліку Віленская і Гродзенская губерні, а беларусаў на гэтых тэрыторыях аўтары дакумента Ёнас Басанавічус, Юозас Амбразеюс, Мячыславас Давайніс-Сільвястрайціс, Данатас Малінаўскас лічылі «славянизированными литовцами»[73].

Аднак дзеяч літоўскага сацыял-дэмакратычнага руху Сцяпанас Кайрыс, характарызуючы адносіны ў 1905-1906 гг. беларускіх і літоўскіх дзеячаў да польскіх, сцвярджаў: «Пытанне тэрытарыяльнага размежавання абодвух рухаў, а разам і пытанне дзяржаўнай прыналежнасці Віленшчыны, тады ў паважнейшай форме не паўставала»[74].

Фактам з’яўляецца тое, што з часу правядзення ў Вільні ў 1905 г. З’езда літоўцаў і пачатку выдання ў гэтым горадзе першай штодзённай газеты на літоўскай мове „Vilniaus žinios” горад «пакрысе станавіўся арганізацыйным цэнтрам літоўскага нацыянальнага руху»[75]. У гэты і пазнейшы час актыўнасць дзеячаў беларускага нацыянальнага руху тут была прапарцыянальна меншая.

Умовы фармавання сучаснай літоўскай нацыі былі падобныя да беларускай сітуацыі, хаця ў літоўскім выпадку гэты працэс пачаўся раней. Падабенства абумоўлівалася ў тым ліку тым, што літоўцы і беларусы як нацыі «выйшлі» з адной гісторыка-культурнай прасторы — былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

У ВКЛ і Рэчы Паспалітай літоўцы, аднак, «страцілі» «свой» вышэйшы клас феадалаў. К канцу феадальнага перыяду літоўцы былі прадстаўлены сялянамі, часткай дробнай шляхты, асабліва ў Жамойці, і мяшчан. На першым этапе літоўскага нацыянальнага руху ў першай

[73] «Литовцы, признавая, что обитаемая ими территория, с исторических времен, обнимает так называемые литовския *(sic!)* губернии Северо-Западного края: Виленскую, Ковенскую, Гродненскую, часть Курляндской и причисленную со времен Венского конгресса к Царству Польскому Сувалкскую губернию, считают их в этнографическом отношении литовскими, живущих в этих губерниях между литовцами поляков, евреев, русских и других пришельцами позднейших времен, а белоруссов — славянизированными литовцами и поныне живущими в селах с литовскими названиями и литовской архитектурой. [...] Литовцы требуют признания за литовским языком прав языка административного в местностях, где живут литовцы. [...]
Литовцы требуют, чтобы во всех Высочайших Манифестах и указах не был игнорирован титул Великого Князя Литовского» (E. Motieka, *Didysisvilniaus Seimas*; 2-oji pataisyta laida, Vilnius 2005, p. 274).

[74] С. Кайрыс, *З маіх успамінаў...*, с. 15.

[75] D. Mačiulis, D. Staliūnas, *Vilnius — Lietuvos sostinė: problema tautinėsvalstybės projekte (XIX a. pabaiga — 1940 m.)*, Vilnius 2015, p. 37.

палове XIX ст. ён не меў палітычных форм. Апалячаная літоўская шляхта амаль не падтрымлівала гэтага руху. Шляхта ўдзельнічала ў руху, які падтрымліваў палітычныя традыцыі былога ВКЛ, але не на літоўскай нацыянальнай (этнічнай) аснове, а на аснове кансерватыўных падыходаў і правінцыянальных інтарэсаў шляхты. У выніку развіцця буржуазнага грамадства гэта шляхта пакрысе страчвала свае рэгіянальныя адметнасці і злівалася з сучаснай польскай нацыяй. Дэнацыяналізаваны былы феадальны клас літоўскага грамадства паводле сацыяльных і этнакультурных рыс стаў чужы літоўскаму народу. Адпаведна, як адзначаў літоўскі гісторык Вітаўтас Мяркіс, гэты клас не мог перадаць літоўскаму народу сваіх палітычных традыцый, у тым ліку традыцыі літоўскай феадальнай дзяржаўнасці[76].

Аналагічныя тэндэнцыі назіраліся і ў той частцы былога ВКЛ, дзе ў асяроддзі шляхты з'яўляліся рэдкія парасткі беларускай нацыянальнай свядомасці. Праўда, у пачатку 1910-х гг. польскі публіцыст Леан Васілеўскі выказваў пэўны скепсіс: „Nie jestem jednakże skłonny przypuszczać, aby Białorusini mogli się skrystalizować w naród samodzielny, tak jak to jest zupełnie możliwe u Litwinów"[77].

Сапраўды, кансалідацыя беларускамоўнага насельніцтва ў нацыю адбывалася павольна. А беларусы часта азіраліся на літоўцаў. А. Уласаў пісаў А. Луцкевічу з Мінска 10 снежня 1914 г.: «Беларускі рух перэжываець цяпер крытычны перыод (ухудшаець яго вайна), калі трэба з тэорыі трэба [!] перэходзіць да практыкі, як у Літвіноў»[78].

Улічваючы супольнае мінулае літоўцаў і беларусаў, выклікае цікавасць, як яно было адлюстравана на старонках першых нумароў «Нашай Нівы».

Я. Луцкевіч яшчэ ў нарысе «Жменя слоў пра Белу Русь»[79] у першай палове 1900-х гг. (захаваўся ў запісной кніжцы; у 2016 г. апублікаваны фрагмент з адаптацыяй да сучаснай беларускай мовы і правапісу і з вялікай колькасцю тэкстуальных памылак[80]) выклаў сваё бачанне

[76] [V. Merkys], *Lietuvos socialinė-ekonominė ir politinė raida Rusijos imperijoje (1795-1861)*, [у:] *Lietuvos TSR istorija*, t. I: *Nuo seniausių laiku iki 1917 metų*, red. kol.: B. Vaitkevičius (ats. red.) [ir kt.]; 2-as leid., Vilnius 1986, p. 265-266.

[77] L. Wasilewski, *Litwa i Białoruś. Przeszłość - teraźniejszość - tendencje rozwojowe*, Kraków [1912], s. XVI.

[78] А. Ўл..., *Ант. Ив.!*, ліст з Мінска, 10 снежня 1914 г., LMAVB, F. 21-715, l. 16.

[79] [Я. Луцкевіч], *Жменя слоў пра Белу Русь яе гисторію литературу и нац. узвиження пачатки*, LMAVB, F. 21-366, l. 45r-48v.

[80] *Вястун «нашаніўскай» эпохі. Старонкамі жыццяпісу Івана Луцкевіча. Да 135-х угодкаў нараджэння (09.06.1881 — 20.08.1919)*, «Скарыніч. Літаратурна-навуковы гадавік», вып. 11, укл. А. Каўка, В. Чайчыц, Москва 2016, с. 248-251.

гісторыі Русі і Полацка, Вялікага Княства Літоўскага ад князя Міндоўга, «которому вельми памагли беларуски княжата», а «зъ панаваня Гедемина пачинается супольны час для гистории Белоруси и Литвы». Луцкевіч лічыў, што «найлепших часаў дочекалася Белорусь при сыну Гедымина князю Олгерду», калі «до литоўско белорускаго гаспадарства прилучилась (добравольна) и Мала Русь або Украина». Луцкевіч так тлумачыў ролю беларускіх зямель у ВКЛ: «У XIII веку белоруски княжества едночатся з Литвою. Околичносцей того было две: перш сяборовство, а друге военне счасце Литвиноў».

Паводле Луцкевіча, беларускія княствы існавалі і ў эпоху старажытнай Русі. А пішучы далей пра ВКЛ, ён карыстаецца пераважна наступнымі тэрмінамі: *Литва и Белорусь; Белорусь; У Литве и Белоруси и Малоруси; Литоўско белоруско украиньске князьство; Литоўска і Белоруская шляхта*.

Ужо ў першым нумары „Naszaj Niwy” за 1906 г. быў апублікаваны фотаздымак замчышча ў Лішкяве (цяпер вёска ў Варэнскім раёне Літвы) з гістарычным каментарыем Ščastnaha[81], якім з’яўляўся Я. Луцкевіч[82] (паводле даных начальніка Віленскай губернскай жандарскай управы за 1910 г., «Сченстный» — гэта «рэвалюцыйная мянушка» Я. Луцкевіча[83]). У каментарыі сцвярджаецца, што „zamczyszcze” было насыпана ў сярэдзіне XI ст.: „Należało jano da biełoruskich — krywiczanskich, jak daůniej kazali, Kniazioů — haspadaroů tutejszaho kraju”.

Аднак гістарычныя і археалагічныя матэрыялы не сведчаць аб прысутнасці ў гэтым рэгіёне ў XI ст. крывічоў, а ў пачатку XX ст. — беларусаў.

Звяртае на сябе ўвагу выкарыстанне тэрміна „krywiczanski” як сіноніма паняцця „biełoruski”, прычым да тэрыторыі этнаграфічнай Літвы. Луцкевіч, відавочна, запазычыў ад мясцовых польскіх аўтараў XIX ст. тэрмін „krywiczanski” ў адносінах да беларусаў, які ў форме „sławiano-krewicka”, „krewicka” ў адносінах да беларускай мовы выкарыстоўваў ужо ў 1840-я гг. Ян Чачот[84].

Аднак досыць паказальна, што Луцкевіч не звярнуў увагі на размяшчэнне замчышча на літоўскай этнічнай і гістарычнай тэрыторыі.

81 Ščastny, [*Zamczyszcze Liszkoů*], „Nasza Niwa”, 10/23.11.1906, nr 1, s. 5.

82 А. Адамовіч, *«Як дух змаганьня Беларусі» (да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча)*, New York 1983, с. 17.

83 *Вястун «нашаніўскай» эпохі...*, с. 31.

84 *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny z dołączeniem pierwotwornych w mowie sławiano-krewickiéj*, Wilno 1844; *Piosnki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie Sławiano-Krewickiej, z postrzeżeniami nad nią uczynionemi*, Wilno 1846.

Магчыма, гэта адзін з першых прыкладаў канструявання ў асяроддзі беларускага нацыянальнага руху версіі «нацыянальнай» гісторыі, якая была абумоўлена не столькі рэальнымі фактамі, колькі ўяўленнямі аўтараў падобных канструкцый. Як заўважыў В. Булгакаў, «тое, што рэгіён „Беларусь" не валодаў хоць якой значнай гістарычнай традыцыяй і адсутнічаў на мэнтальнай мапе Эўропы аж да другой паловы XIX ст., траўмавала сьвядомасьць новасьпечаных беларускіх нацыяналістаў і штурхала іх на спробы атрыбуцыі гісторыі альбо літаратуры ўсяго Вялікага Княства Літоўскага як беларускай»[85].

У каментарыі пра мясцовасць, адлюстраваную на здымку гарадзішча, які быў апублікаваны Ščastnym, сказана: „Zamczyszcze Liszkoů (raniej Nawahrudok)", што стварае ўражанне, быццам бы гэта сапраўды гістарычны горад Навагрудак. Аднак рэальны Навагрудак знаходзіўся ў Мінскай губерні, пра што Я. Луцкевіч ведаў. Тым не менш, ён пісаў:

> u trynadcatom wieku (XIII w.) haspadar Litwy i Biełoje Rusi, Kniaża Mendog karanawaŭsia na litoŭskaho Karala u hetym samym Liszkowie, jak ab hetym piszuć niekatoryje z wuczonych. Sześć sot hadoŭ tamu nazad da pietnacataho wieku (XV w.), hety haradok — Liszkoŭ nazywaŭsia „Nawahrudkom".

Луцкевіч, такім чынам, яшчэ раз сцвярджаў непадмацаваную, аднак, гістарычнымі фактамі тоеснасць Лішкявы і Навагрудка. Гэтыя ўяўленні Луцкевіч мог запазычыць, напрыклад, з выдадзенай у 1856 г. працы гісторыка Тэадора Нарбута „Wiadomość historyczna o Liszkowie niegdyś Nowogródku Nadniemnowym czyli Nauenpille"[86].

Цікава, што Луцкевіч гаворыць пра „Mendoga" не як пра ўладара Літвы, а як пра „haspadara", „Karala" „Litwy i Biełoje Rusi". Гэта тлумачыцца тагачаснымі поглядамі дзеячаў беларускага нацыянальнага руху на «свой» край як на «Літву і Беларусь» («Беларусь і Літву»).

Тэндэнцыя да ўспрымання літоўскай гісторыі як літоўска-беларускай, а то і беларускай, з адсылкай да пераемнасці паміж літоўскім і «крывічанскім» перыядамі мінулага стане пазней адной з галоўных тэндэнцый у інтэрпрэтацыі гісторыі ВКЛ у беларускім нацыянальным дыскурсе[87] і захаваецца да нашых дзён, знайшоўшы «абгрунтаванне» нават у акадэмічнай літаратуры[88]. Гэты погляд сфарміраваўся

[85] В. Булгакаў, *Гісторыя беларускага нацыяналізму*, с. 294.
[86] K. Mekas, *Liškiavos pilis*, [у:] *Lietuvos pilys*, ats. red. J. Jurginis, Vilnius 1971, p. 241.
[87] M. Biržiška, *Apie lietuvių ir gudų santykius*, «Santarvė», 1955, nr 4-5, p. 158-159.
[88] І. А. Марзалюк, *Міфы «адраджэнскай» гістарыяграфіі Беларусі: манаграфія*, Магілёў 2009; [І. А. Марзалюк], *Вялікае Княства Літоўскае — поліэтнічная*

пад уплывам рускага (заходнерускага) навуковага і публіцыстычнага дыскурсу, паводле якога ВКЛ лічылася «літоўска-рускай дзяржавай», а ў 1920-я гг. у БССР яшчэ нядаўна заходнерускія аўтары і іх вучні, паслядоўнікі (М. Доўнар-Запольскі, Дзмітрый Даўгяла, Уладзімір Пічэта, Мацвей Любаўскі, Васіль Дружчыц і інш.) замянілі гэты тэрмін на «літоўска-беларуская дзяржава»[89].

### Беларусь і Польшча, беларусы і палякі

У беларускім выпадку, думаецца, наклаліся адна на адну дзве канцэпцыі гісторыі — уласна беларускі падыход і польска-літоўскі, прыняты беларускімі дзеячамі як часткова «свой», што звязана з тым, што яны паходзілі з польскіх нацыянальна-культурных колаў гістарычнай Літвы.

Польшча і палякі на старонках «Нашай Доли» і «Нашай Нивы» акрэсліваліся наступнымі паняццямі:

> **ПОЛЬШЧА:** *Polszcza*[90]; *уся Польшча*[91]; *з Польшчы = z polszczy (sic!)*; *над Польшчэю = nad Polszczeju*[92]; *у суседнюю Польшчу*[93]; *палякам у Польшчы*[94]; *и Polszczy*[95]; *й Polszczy*[96]; *и adnoj Polszczy*[97]; *z Polszczy*[98]; *na hranicy Polszczy i Litwy*[99]; *narod Polszczy, Litwy i Biełaj Rusi*[100]; *9 hubernij Biełarusi, Litwy i Polszczy*[101] (параўн. ст.-пол. *Polszcza*);

*феадальная дзяржава Усходняй Еўропы*, [у:] І. А. Марзалюк, А. Г. Каханоўскі, С. М. Ходзін, Д. У. Дук, С. М. Цемушаў, П. І. Брыгадзін, А. В. Бурачонак, В. Ф. Гігін, *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці*, аг. рэд. І. А. Марзалюк, навук. рэд. Г. Г. Краско, Мінск 2022, с. 52-53; В. Ф. Голубев, *Образование ВКЛ*, [у:] *История белорусской государственности. В 5 т.*, т. 1: *Белорусская государственность от истоков до конца XVIII в.*, отв. ред. В. Ф. Голубев, О. Н. Левко, ред. кол.: А. А. Коваленя (гл. ред.) [и др.]; 3-е изд., Минск 2020, с. 232-248.

89 „Arche. Пачатак", 2009, nr 7. Беларуская гістарыяграфія 1920-х: Сярэднявечча і раньнемадэрны час; Д. Сталюнас, *Польша или Русь?*, с. 67.
90 „Nasza Niwa", 1907, nr 6.
91 «Наша Нива», 1906, № 7.
92 «Наша Доля», 1906, № 3; „Nasza Dola" 1906, nr 3.
93 «Наша Нива», 1906, № 6.
94 «Наша Нива», 1906, № 7.
95 „Nasza Niwa", 1907, nr 21.
96 „Nasza Niwa", 1907, nr 36.
97 „Nasza Niwa", 1907, nr 3.
98 „Nasza Niwa", 1906, nr 1; 1907, nr 2, 12.
99 „Nasza Niwa", 1906, nr 4.
100 „Nasza Niwa", 1907, nr 21.
101 „Nasza Niwa", 1907, nr 20.

**ЦАРСТВА ПОЛЬСКАЕ:** *Carstwa Polskaho*[102];

**ПАЛЯК:** *ды ў газэтах писаў, што ён не беларус-каталик, а паляк прыродны*[103]; *bytcam jon nie biełarus, a palak pryrodny*[104]; *palak*[105]; *Palak Dmowski*[106]; *palaki*[107]; *žydy dy palaki*[108]; *на палякоу = па palakou*[109]; *перэкруциць палякоў на руских*[110]; *palakoй*[111]; *pamieszczykoй-palakoй*[112]; *s palakami*[113]; *ckujuć* [...] *ruskich na žydoй dy palakoй; pryłuczyйsia da palakoй; Tutejszyje pamieszczyki — najbolsz z palakoй*[114]; *kab palakoй zrabić ruskimi*[115];

**ЛЯХІ:** *lachy*[116];

**ПОЛЬСКІ:** *biełarusko-rusko-polski słoйnik*[117]; *польскую = polskuju*[118]; *польские студэнты*[119]; *polskije*[120]; *polskich rabotnikoй*[121]; *deputatoй „polskaho koła"*[122];

**ПА-ПОЛЬСКУ:** *Pisaй Mickiewicz pa-polsku*[123].

Нягледзячы на адзінкавы прыклад выкарыстання этноніма *lachy* на старонках „Naszaj Niwy", да таго ж, у польскай форме, трэба адзначыць распаўсюджанасць гэтага слова ў беларускай дыялектнай мове сярэдзіны XIX ст., пра што сведчаць прымаўка *Мудзёръ Ляхъ по шкодзѣ; Почомъ познаць Ляха? — Што па черевѣ бляха*; выраз *Панъ нашъ самъ въ Польщѣ живець*[124].

102 „Nasza Niwa", 1907, nr 13, 16, 18.
103 «Наша Нива», 1907, № 28.
104 „Nasza Niwa", 1907, nr 15.
105 „Nasza Dola", 1906, nr 4, 5.
106 „Nasza Niwa", 1907, nr 12.
107 „Nasza Niwa", 1906, nr 1, 4.
108 „Nasza Niwa", 1907, nr 27.
109 «Наша Доля» ,1906, № 2; „Nasza Dola", 1906, nr 2.
110 «Наша Нива», 1906, № 7.
111 „Nasza Niwa", 1907, nr 3.
112 „Nasza Niwa", 1907, nr 5.
113 „Nasza Niwa", 1907, nr 6.
114 „Nasza Niwa", 1907, nr 15.
115 „Nasza Niwa", 1907, nr 18.
116 „Nasza Niwa", 1907, nr 1.
117 „Nasza Niwa", 1907, nr 31.
118 «Наша Доля», 1906, № 1; „Nasza Dola", 1906, nr 1.
119 «Наша Нива», 1906, № 7.
120 „Nasza Niwa", 1906, nr 1.
121 „Nasza Niwa", 1907, nr 12.
122 „Nasza Niwa", 1907, nr 14.
123 „Nasza Niwa", 1907, nr 23.
124 *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія...*, с. 276, 463.

Этнонім *ляхъ* быў вядомы яшчэ ў старажытнарускай мове[125], слова ж *паляк* лічыцца запазычаннем польскага этноніма *Polak*[126].

Дагэтуль не разгледжана комплексна значэнне польскай мовы, культуры, гісторыка-культурнай спадчыны, дзеячаў агульнай польска-беларускай гісторыі ў працэсе фармавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці ў пачатку XX ст. Гэта звязана з тым, што адносіны паміж беларускім і польскім нацыянальнымі рухамі ў XX ст. характарызаваліся рознымі супярэчнасцямі. З польскага боку беларускі нацыянальны рух часам недаацэньваўся, разглядаўся неаб'ектыўна, а таксама ўспрымаўся як канкурэнт польскага на тэрыторыі, дзе беларусы і палякі пражывалі разам і часам па-рознаму бачылі як мінулае, так і сучаснасць[127].

З боку дзеячаў беларускага нацыянальнага руху польскі фактар у гісторыі Беларусі не заўсёды ацэньваўся аб'ектыўна, што было звязана са складанасцю працэсу фармавання як беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, так і ідэнтычнасці палякаў у Беларусі і Літве. Пэўныя стэрэатыпы, якія ўзнікалі і культываваліся нацыянальна свядомымі палякамі ў адносінах да беларусаў і нацыянальна свядомымі беларусамі ў адносінах да палякаў, аднак, не існавалі спрадвеку.

Сучасны польскі даследчык Міхал Футыра звяртае ўвагу на тое, што

> świadomość narodowa, czy szeroko rozumiane poczucie tożsamości narodowej w czasach Rzeczypospolitej Obojga Narodów dotyczyło stosunkowo nielicznej warstwy społecznej: szlachty i magnaterii (i to nie jedynie etnicznie polskiej)[128].

А. Латышонак удакладняе, што для магнатаў важны быў толькі іх род, а не свядомасць прыналежнасці да таго або іншага народа, а мяшчанская эліта ў Беларусі ўжо ў пачатку XVIII ст. мела польскую самасвядомасць[129].

У першых нумарах першых беларускіх газет Польшча і палякі з'яўляліся ў пазітыўным кантэксце, папулярызавалася польская літаратура, творы польска-беларускіх пісьменнікаў, творчасць іншых дзеячаў

125 *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 6, с. 144.

126 *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы,* т. 8: *Н-П*, укл. Г. А. Цыхун [і інш.], рэд. В. У. Мартынаў, Мінск 1993, с. 137.

127 Параўн.: *Кароткі нарыс беларускага пытаньня*, Мінск 2009; А. Ф. Смалянчук, *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864-1917 гг.*, Гродна 2001.

128 M. Futyra, *Od Rzeczypospolitej szlacheckiej do IV RP. Krótki przegląd polskiej mitologii założycielskiej*, „Sprawy Narodowościowe. Seria nowa", 2017, nr 49.

129 O. Łatyszonek, *Od Rusinów Białych...*, s. 240 i n.

польскай культуры, як, напрыклад, мастака Артура Гротгера. Яго малюнак «Пад сценамі турмы» быў першай рэпрадукцыяй твора выяўленчага мастацтва на старонках беларускамоўнай прэсы[130].

Усё вышэйадзначанае дазваляе пагадзіцца з вывадам мовазнаўца Ніны Мячкоўскай:

> Польскі ўплыў прысутнічаў у беларускім Адраджэнні перш за ўсё як узор супраціву імперскай асіміляцыі. Вядома, што беларускае Адраджэнне ішло з заходніх зямель Беларусі, яго пачынальнікамі ў большасці былі беларусы-каталікі. Ідэалогія беларускага Адраджэння фарміравалася пад працяглым уплывам польскага свабодалюбства. Разам з тым Адраджэнне ад пачатку падкрэслівала самастойнасць беларускага народа, яго асобнасць і ад палякаў, і ад рускіх[131].

У публіцыстыцы «Нашай Нивы» польская культурная спадчына, асабліва тая яе частка, якая стваралася ўраджэнцамі Беларусі, успрымалася не як чужая, а як свая, і гэтым можна патлумачыць яе інтэрпрэтацыю як «беларускай» на старонках гэтага выдання ў 1906-1907 гг.

Сацыяльна-эканамічныя адрозненні паміж землямі Польшчы і Беларусі адыгралі пэўную ролю ў фармаванні перадумоў далейшага развіцця дзвюх частак некалі адзінай цывілізацыйнай прасторы — былой Рэчы Паспалітай. У адным з артыкулаў «Нашай Нивы» за 1906 г. аўтар пад псеўданімам Войцех (ім з'яўляўся А. Луцкевіч) параўноўваў у гэтым кантэксце вопыт «дэмократычнаго жыцця» ў Беларусі і Польшчы:

> У Беларуси не было и той маленькай прычэпки *(sic!)* для тутэйшых сил, як земства ў Расеи, як агульная воласць у Польшчы. (У Польшчы да воласци належаць усё: и мужыки, и паны, и мешчане). За тоеж у нас не было для тутэйшых людзей ниякой школы дэмократычнаго жыцця и ниякой ахвоты ани можнасци пазнаць агульные справы сваей аколицы[132].

Войцех таксама разглядаў наступствы паўстання 1863-1864 гг. у Польшчы і Беларусі для развіцця сельскай гаспадаркі. І ўпершыню ў беларускім друку Беларусь і Польшча тут супрацьпастаўляюцца — як розныя тэрыторыі, краіны. «Беларусь» — «наша», «Польшча» — «там»:

[130] «Наша Нива», 24.11/7.12.1906, № 3, с. 5-6.

[131] Н. Мячкоўская, *Мовы і культуры Беларусі: нарысы*, Мінск 2008, с. 204-205.

[132] Войцех, *Зямельная справа у Беларуси (Прадаўжэнне)*, «Наша Нива», 22.12.1906, № 7, с. 2.

> Не раўнавацца нашай Беларуси, прымерам, с Польшчаю: там справа зямельная идзе па сваей простай дарози, а у нас формы зямельнай ўласносци замёрзли ў 63 г. и не парухалися ни крыхи. Зямли, купленай мужыками, як бы и не было, дый, агульне гаворачы, ад 63 году земля у нас не тавар.

Аўтар апісвае сітуацыю, у якой тутэйшыя «паны» не маглі купляць зямлю, а гэта былі пераважна «паны» польскага паходжання (але аўтар слова «польскі» спачатку замяняе на «тутэйшы»):

> Тутэйшым вучоным, разумным людзям нельга было купляць зямли. Дзеля гэтаго права ни водзин пан не хацеў прадаць ани кавалачка сваёй зямли, бо ведаў ён добра, што ни да яго, ни да дзецей и ўнукоў яго ня вернецца тая земля. [...]
> Недазваленне купляць зямлю асобам «польскаго роду» и жыдом винавата ў тым, што земля перэстала быць таварам и не магла папасць у руки таких людзей, каторые патрапили бы добра каля яе хадзиць. [...]
> Вось гэтая няможнасць працаваць на зямли таму, хто да ёй найбольш рвецца — тутэйшым людзём з грашми и навукаю, з году на год гониць найлепшые силы у суседнюю Польшчу, ци Вяликаросью, — за Нёман, за Днепр, за Дзьвину. Гэтаких людзей выежджаець многа, и праз тое ешчэ больш цямнее, ешчэ больш дзичае наша старонка.

Далей аўтар дадае, што «нельга было купляць зямлю ни католиком, ни жыдом, а гэтаж найбайчэйшые у нас людзи»[133].

## Польска-беларускія пісьменнікі — першыя персанажы беларускага нацыянальнага пантэона

Значную ўвагу «Наша Доля» і «Наша Нива» прысвяцілі пісьменнікам XIX ст., якія бачыліся папярэднікамі беларускіх дзеячаў пачатку XX ст. Гэтыя літаратары могуць быць залічаны да своеасаблівага беларускага нацыянальнага пантэона, у якім яны засталіся і да сённяшняга дня. Гэта звязана з тым, што беларуская мова з'яўлялася галоўным фактарам фармавання беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, таму творчасць на ёй успрымалася як уласна беларускі нацыянальны рух.

[133] Войцех, *Зямельная справа у Беларуси (Прадаўжэнне)*, «Наша Нива», 14/27.12.1906, № 6, с. 3-4.

Невыпадкова, калі Янка Купала ў канцы 1920-х гг. успамінаў пра фармаванне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці і пра пачаткі сваёй творчасці, то сведчыў: «Из белорусских писателей прошлого близки мне почти все — и Марцинкевич, и Богушевич, и Неслуховский, и Чечот и др.»[134].

Сапраўды, да з'яўлення беларускага перыядычнага друку беларускі «данацыянальны» рух у пісьменстве (зрэшты, пераважна ў ім) увасабляўся ў творчасці вышэй названых аўтараў, якія паходзілі з польскага культурнага асяроддзя, пісалі ў асноўным па-польску, але таксама часам і па-беларуску. Менавіта таму яны — пісьменнікі — склалі аснову таго пачатковага беларускага нацыянальнага «пантэона», які склаўся на старонках першых беларускіх газет.

У першым нумары за 1907 г. „Nasza Niwa" раіла чытачам сярод прац па беларусазнаўстве работы і рускіх фалькларыстаў (у тым ліку беларускага паходжання) — Паўла Шэйна, Зінаіды Радчанка, Еўдакіма Раманава, і польскіх (таксама і беларускага паходжання) — Міхала Федароўскага, Czeczota „Pieśni z nad Niemna i Dżwiny *(sic!)*"[135].

У 1906 г. Biełaruskaja Wydaunickaja Supołka «Zahlanie Sonce i u Naše Wakonce» ў Санкт-Пецярбургу выдала і рэкламавала на старонках газет „Nasza Dola" і „Nasza Niwa" паштоўкі: „Wincuk Marcinkiewič — pieśniar Biełaruski", „Janka Łučyna (Iwan Niesłuchoŭski)", „Prancišek Bohušewič (Maciej Buračok) Pieśniar Biełaruski", а таксама „Dom Tadeuša Kościuški u Merečoŭščyni"[136].

Акрамя таго, чытачам першых беларускіх газет прапаноўвалася кніга „Wiazanka — Janki Łuczyny"[137]. У маі 1907 г. на першай старонцы «Нашай Нивы» з'явіўся верш Янкі Лучыны[138].

На старонках першых беларускіх газет анансаваўся выхад серыі з васьмі кніг „Biełaruskije pieśniary", у тым ліку трох з творамі Ф. Багушэвіча: „Dudka Biełaruskaja", „Smyk Biełaruski", „Skrypačka"; твораў В. Дуніна-Марцінкевіча: „Hapon", „Wiečernicy", „Ščeroŭskije dažynki", „Staŭry-Haŭry", „Kupałła" і перакладзеным ім пачаткам паэмы Адама Міцкевіча — „Pan Tadeuš" (Dżwie pierszyje bylicy)"[139].

134 Я. Купала, *Поўны збор твораў. У 9 т.*, т. 9, кн. 1: *Пераклады. Эпісталярная спадчына. Дарчыя надпісы. «Расейска-беларускі слоўнік». Калектыўнае. Службовыя і асабістыя дакументы. Дадатак*, рэд. кал.: С. А. Андраюк [і інш.]; рэд. тома М. І. Мушынскі, В. У. Скалабан, Мінск 2003, с. 276.

135 *Pacztowaja skrynka*, „Nasza Niwa", 6/19.01.1907, nr 1, s. 8.

136 „Nasza Dola", 20.09.1906, nr 3, s. 8; 1.12.1906, nr 6, s. 8; «Наша Нива», 24.11/7.12.1906, № 3, с. 8; „Nasza Niwa", 2/15.12.1906, nr 4, s. 8.

137 *Wydannie „Naszaje Niwy"*, „Nasza Niwa", 2/15.03.1907, nr 9, s. 8.

138 Янка Лучына, *Роднай старонцы*, «Наша Нива», 4/17.05.1907, № 17, с. 1.

139 „Nasza Dola", 20.09.1906, nr 3, s. 8; 1.12.1906, nr 6, s. 8; «Наша Нива», 24.11/7.12.1906, № 3, с. 8; „Nasza Niwa", 2/15.12.1906, nr 4, s. 8.

Як відаць з прыведзеных вышэй фактаў, асобае месца на старонках „Naszaj Niwy” займаў Багушэвіч. Ужо ў першым нумары яго вядомую прадмову пра беларускую мову са зборніка „Dudka białaruskaja” цытавала А. Пашкевіч (Мацей Крапіўка)[140], а ў верасні 1907 г. Канстанцін Міцкевіч (Адзінокі), больш вядомы як Якуб Колас, прыводзіў верш «Не цурайся»[141].

Першы твор Багушэвіча цалкам быў апублікаваны ў „Naszaj Niwie” ў сакавіку 1907 г. — апавяданне „Świedka”[142]. Яно было падпісана і псеўданімам — Maciej Buraczok, і сапраўдным прозвішчам пісьменніка — F. Bohuszewicz. У наступным нумары за тым жа подпісам было апублікавана апавяданне Багушэвіча „Palasoŭszczyk”[143]. Яшчэ адзін твор гэтага пісьменніка з’явіўся ў ліпені 1907 г. — „Dziadzina. Narodnaje apawiedannie. Zapisaŭ F. Bohuszewicz”[144].

У лістападзе 1907 г. „Nasza Niwa” паведамляла, што „Biełaruskaje towarystwo” — „Zahlanie sonce i ŭ nasze wakonce” выдала „twory biełaruskich pieśniaroŭ — „Dudka biełaruskaja” Macieja Buraczka, „Smyk biełaruski” i „Skrypka”. Nadrukowana knižka „Hutarki ab niebi i ziamli”; drukujecca „Žalejka” Januka Kupały i dr.”[145].

Пасля публікацыі гэтай інфармацыі ў газеце «Русь», інфармавала беларуская газета, у рэдакцыю «Руси» „i ŭ supołku pryjszło szmat listoŭ ad ludziej, katory *(sic!)* choczuć pracawać dla Biełarusi i biełarusoŭ”. На падставе гэтай публікацыі можна выказаць думку пра тое, што ўжо тады адбывалася далучэнне да «сонму» беларускіх пракарокаў-пісьменнікаў Янука Купалы, што ўрэшце неўзабаве і адбылося, аднак — ужо ў паслярэвалюцыйны перыяд, з 1908 г.

## Польскія пісьменнікі, ураджэнцы Беларусі, у беларускім нацыянальным кантэксце

У агульнабеларускі нацыянальны пантэон уключаліся, аднак, не толькі польска-беларускія, але і польскія пісьменнікі, якія паходзілі з беларуска-літоўскіх зямель.

140 Maciej Krapiŭka, *Jak nam uczycca*, „Nasza Niwa”, 10/23.11.1906, nr 1, s. 5.

141 Adzinoki, *s. Mikałaeŭszczyna (sic!) Minskaj hub.*, „Nasza Niwa”, 2/14.09.1907, nr 29, s. 6.

142 Maciej Buraczok (F. Bohuszewicz), *Świedka*, „Nasza Niwa”, 2/15.03.1907, nr 9, s. 4-5.

143 Maciej Buraczok (F. Bohuszewicz), *Palasoŭszczyk. (Apawiedannie staroha laśnika)*, „Nasza Niwa”, 9/22.03.1907, nr 10, s. 5-6.

144 *Dziadzina. Narodnaje apawiedannie. Zapisaŭ F. Bohuszewicz*, „Nasza Niwa”, 20.07.1907, nr 25, s. 3.

145 Chalimon, *Da biełarusoŭ*, „Nasza Niwa”, 23.11/6.12.1907, nr 34, s. 6. Псеўданім Халімон з-пад пушчы выкарыстоўваў Яўген Хлябцэвіч з в. Кленікі Бельскага павета.

Адным з першых быў «успрыняты» як беларус Адам Міцкевіч. Я. Луцкевіч пад псеўданімам Szczastny ў другім нумары „Naszaj Niwy" пісаў, што „dla nas Nawahrudak maje wialikoje znaczennie: tut paczaŭ uczycca wialiki pieśniar naszaho kraju Adam Mickiewicz, katory ŭ swaich pieśniach apisaŭ nam wielmi pieknie Nawahrudzkaje Zamczyszcze"[146].

Асаблівыя адносіны да Міцкевіча не былі чымсьці выпадковым. У чацвёртым нумары за 1906 г. „Naszaj Niwy" Беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» анансавала выхад у серыі з васьмі кніг „Biełaruskije pieśniary" пачатку паэмы Міцкевіча „Pan Tadeuš" (Dźwie pierszyje bylicy)" у перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча (W. Marcinkiewicza)[147]. Бадай, пачаткі рэцэпцыі Міцкевіча ў беларускі нацыянальны пантэон трэба шукаць у перакладзе Дуніна-Марцінкевіча, які ўпершыню быў апублікаваны ў Вільні ў 1859 г.[148] (тыраж быў канфіскаваны расійскай цэнзурай[149]). „Nasza Niwa" перадрукавала пачатак гэтага перакладу з партрэтам Міцкевіча і з рэдакцыйнай прадмовай у чэрвені 1907 г.:

> Pisaŭ Mickiewicz pa-polsku. Woś tut nadrukowanyje wierszy — paczatak „Pana Tadeusza" — pierałažyŭ na naszu mowu biełaruski paeta Marcinkiewicz. Dźwie pierszyje czaści „Pana Tadeusza" skora wyjduć z druku ŭ asobnaj knižcy pa biełarusku[150].

Сапраўды, у 1907-1908 гг. пераклад паэмы Міцкевіча, зроблены Дуніным-Марцінкевічам, убачыў свет у Санкт-Пецярбургу — брашурай, выдадзенай Беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» ў серыі „Biełaruskije Pieśniary"[151].

Пачатак «Пана Тадэвуша» фармаваў у чытачоў „Naszaj Niwy", аднак, не вобраз бацькаўшчыны Беларусі, а — Літвы:

*Litwa! — rodna ziamielka! Ty, маŭлаŭ, zdaroŭje!*
*Toj Ciabie aszancuje* [*sic!*], *kamu biezhałoŭje, —*

[146] Szczastny, [*Zamczyszcze u Nawahrudku*], „Nasza Niwa", 17/30.11.1906, nr 2, s. 1.
[147] „Nasza Niwa", 2/15.12.1906, nr 4, s. 8.
[148] *Pan Tadéusz. Dwanátcać szlachéćkich bylíc napisáu Adám Mickiéwicz. Piarawiarnŭu na białarŭśkuju hawórku Wincénty Dŭnin Marcinkiéwicz*. Zeszyt pierwszy, Wilno 1859.
[149] А. Шлюбскі, *Конфіскацыя «Пана Тадэуша» Д.-Марцінкевіча*, «Узвышша», 1927, № 2, с. 199-202.
[150] *Z „Pana Tadeusza" A. Mickiewicza*, „Nasza Niwa", 21.06.1907, nr 23, s. 1-2.
[151] *Pan Tadeusz, pa polsku napisaŭ Adam Mickiewicz, na biełaruskuju hutarku pierawiarnuŭ Wincuk Marcinkiewicz*. Wydańnie druhoje, Pieciarburh 1907 (1908).

*Chto žyŭ kaliś na niŭce Twajoj, jak u raju*
*I woś krywawy ronić ślozki ŭ czužym kraju! —*
*Ciapier to, jak Ty krasna, ja czuju, ja baczu*
*I apiszu, bo horka ŭsciaž pa Tabie płaczu! —*
*Ty, Panna, szto ściaražesz jasnaj Czenstachowy,*
*Szto świecisz ŭ Wostraj-Bramie, szto horad zamkowy*
*Nawahrodzki (sic!) baronisz, jaho narod žyły,*
*Jak mianie Ty padniała, maŭlaŭ, iz mahiły,*
*(Woś Ciabie biedna maci ŭ waczach sa ślazinaj), —*
*I z niemaczy padniaŭsia, i pajszoŭ ŭ darohu,*
*Kab u Twaich kaściołach padziakawać Bohu.*
*Tak nas dziwam pawierniesz u ziamielku rodnu. —*
*Pakul že bliśnie szczaście, choć duszu niahodnu*
*Żwiarni da hor lasistych, — szyrokich prakosoŭ,*
*Szto dywanam pry Niemnie świeciać s-pad niabiosoŭ,*
*Da niŭ rodnych, kałośsiem jarka malawanych,*
*Załoczenych pszanicaj, žytam pasrebranych,*
*Hdzie žoŭtaja świrepka, hdzie hreczka bialeńka,*
*Hdzie dziacielina haryć — woś krasna panienka,*
*A ŭsio miažoj prybita, baczycca ustužkaj,*
*Tam-siam bytcam k adziežce pryszpilena hruszkaj.*

Складана ацаніць, які водгук меў гэты тэкст у чытачоў „Naszaj Niwy". Але вобразы каталіцкіх святынь у польскай Чанстахове і віленскай Вострай браме маглі быць блізкія толькі частцы чытачоў — каталіцкага веравызнання. Аднак большасць беларусаў былі праваслаўныя.

А. Міцкевіча ў беларускі наратыў спрабавалі ўпісаць яшчэ раней заходнерускія публіцысты. «Беларускі» вобраз польскага паэта на старонкі «Нашай Нивы» мог быць запазычаны, такім чынам, часткова і з заходнерускага дыскурсу. Так, яшчэ ў 1864 г. М. Каяловіч прапаноўваў погляд на польскага паэта, які сугучны з нашаніўскім: «В литовском Новгородке Минской губернии, в стране белорусского населения, родился поэт, признанный великим поэтом, — Мицкевич». Праўда, Каяловіч заўважаў, што «Мицкевич, увы, не видел, не понимал, не чувствовал больной стороны западнорусской жизни»[152].

„Nasza Niwa" спрабавала сфармаваць у чытачоў вобраз Міцкевіча як песняра «роднай зямелькі», «роднай старонкі», «роднага краю», прама

152 М. О. Коялович, *Чтения по истории...*, с. 13.

ці ўскосна маючы на ўвазе пад ім Беларусь, хаця бацькаўшчынай паэта была, як ён сам пісаў, Літва[153]:

> Ŭsiu moładaść prawioŭ jon ŭ rodnym kraju, wuczyŭsia i skonczyŭ uniwersytet u Wilni. Alež nia doŭha pryszłosia jamu tutaka žyć: jaho arysztawali za „palitycznyje sprawy” i prysudzili da wysyłki ŭ Rasieju. Paźniej udałosia jamu wyjechać zahranicu; szmat biedy i hora praciarpieŭ jon tamaka. I, žywuczy ŭ czužynie, nie zabyŭsia Mickiewicz ab rodnaj staroncy: jon szczyra kachaŭ jaje i ŭ tworach swaich haraczymi sławami apiswaŭ jaje chorostwo.

У сакавіку 1907 г. на старонках „Naszaj Niwy” з’явілася постаць яшчэ аднаго польскага літаратара, ураджэнца Беларусі — Элізы Ажэшка. У аб’яве пра кніжныя навінкі прапаноўвалася апавяданне Ажэшка „Giedali” „z rysunkami Bohusza-Siestrzencewicza” (мастак Станіслаў Богуш-Сестшанцэвіч), што, як анансавалася, „chutka wyjdzie z druku”[154]. У той жа час у „Naszaj Niwie” пачалася публікацыя гэтага апавядання[155]. У чэрвені 1907 г., як сведчыць чарговая аб’ява ў газеце, гэты твор выйшаў у кніжным фармаце[156]. Аднак Ажэшка „Naszaj Niwaj” не была ўключана ў беларускі нацыянальны «пантэон». Чытачу не была прапанавана нават яе біяграфія.

153 Цікава, што паэму Міцкевіча «Пан Тадэвуш» спрабавалі пакласці таксама ў аснову літоўскай нацыянальнай ідэнтычнасці. У рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі ў Сейнах літоўцы яшчэ ў 1880 г. спявалі як свой нацыянальны гімн той самы пачатак паэмы, што пераклаў Дунін-Марцінкевіч: „Lietuva, mano tėvyne, tu esi kaip sveikata...” і г.д. Адсюль гэта традыцыя была перанесена ў 1887 г. у асяроддзе літоўскіх эмігрантаў у ЗША (V. Maciūnas, *Lietuvos himno istorijos bruožai*, [у:] *Lietuvos himnas*, sud. G. Česnys, B. Kulnytė, R. Treideris, red. L. U. Urbaitė, Vilnius 2005, p. 21; J. Bruveris, *Vinco Kudirkos giesmė*, [у:] *Lietuvos himnas*..., p. 63). Аднак у літоўскім нацыянальным руху Міцкевіч не прыняўся як «свой», хаця для гэтага былі не меншыя падставы (V. Mykolaitis-Putinas, *Adomas Mickevičius ir lietuvių literatūra*, Vilnius 1955; V. Šeina, *Savas svetimas dainius. Adamas Mickiewiczius lietuvių literatūros kanone (1883-1940)*, Vilnius 2021), чым для «рэцэпцыі» яго ў беларускі нацыянальны наратыў.

154 *Wydannie „Naszaje Niwy”*, „Nasza Niwa”, 2/15.03.1907, nr 9, s. 8.

155 *Gedali. Apawiedannia Elizy Orzeszkowaj*, „Nasza Niwa”, 16/29.03.1907, nr 11, 23.03.1907, s. 2-7; nr 12, s. 2-7; 30.03.1907, nr 13, s. 3-7; 6/19.04.1907, nr 14, s. 3-7; *Gedali. Apawiedannie Elizy Ožeszkowaj*, 13/26.04.1907, nr 15, s. 3-6; 20.04.1907, nr 16, s. 3-7.

156 *Wydannia „Naszaje Niwy”*, „Nasza Niwa”, 8/21.06.1907, nr 22, s. 8; *Gedali. Apawiedannie Elizy Ožeszkowaj* (Wydannie „Naszaje Niwy” i supołki „Mińczuk”, № 3), Wilnia 1907.

## Польскія нацыянальныя героі ў гісторыі Беларусі

«Наша Нива» ў 1906-1907 гг. прысвяціла пэўную ўвагу паўстанням XIX ст. за аднаўленне ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

У адрозненне ад польскіх пісьменнікаў, звязаных жыццём і творчасцю з Беларуссю, іншыя дзеячы польскай гісторыі, якіх можна было ўключыць у беларускі кантэкст, у першых беларускіх газетах абмяжоўваюцца асобай Тадэвуша Касцюшкі, дый тое — толькі згадкай. На старонках «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» рэкламавалася паштоўка „Dom Tadeuša Kościuški u Merečoŭščyni”, выдадзеная пецярбургскай Беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца»[157].

У чэрвені 1907 г. на старонках „Naszaj Niwy” ўпершыню з’явіўся (на дзвюх старонках у васьмістаронкавым нумары) нарыс пра аднаго з лідараў паўстання 1830-1831 гг. Шымана Канарскага (у газеце яго імя беларусізавана: *Symon*) з яго партрэтам, падпісаным: „Rysunak hetaho pierszaho u nas wajaki za ziamlu i swabodu”, аўтарства Н. (А. Луцкевіча, які з падобным артыкулам яшчэ раз выступіў у 1924 г.)[158]. У тэксце ўспамінаецца пра час, калі „narod Polszczy, Litwy i Biełaj Rusi; Polszcza, Litwa i Biełaruś nasza byli niezaležnym hasudarstwam”, аднак без тлумачэння чытачу, што тут маецца на ўвазе перыяд ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У гэтым артыкуле дадзена ацэнка паўстання 1830-1831 гг. і прычына яго паражэння:

> Paśla paŭstannia 1831 hoda ŭsie, chto naležaŭ da jaho, musili uciekać za hranicu: ŭ Rasiei czekali ich wielmi ciažkije kary. [...]
> Lepszyje i razumniejszyje s-pamiež ich paniali, szto prahrali jany sprawu swaju, bo nia ŭwieś narod padniaŭsia.

У гэтым тэксце асноўная ўвага была прысвечана не столькі гістарычным аспектам паўстання 1830-1831 гг., колькі алюзіям да рэвалюцыйных падзей 1905-1907 гг. — правам і свабодам «мужыка». Аўтар артыкула адзначаў, што ні да ўваходжання ў склад Расійскай імперыі, ні ў яе складзе «мужыку» не было добра, а ў сувязі з гэтым і ідэя незалежнасці Польшчы (а таксама Беларусі і Літвы пад яе эгідай) ад Расіі,

157 „Nasza Dola”, 20.09.1906, nr 3, s. 8; „Nasza Dola”, 1.12.1906, nr 6, s. 8; «Наша Нива», 24.11/7.12.1906, № 3, с. 8; „Nasza Niwa”, 2/15.12.1906, nr 4, s. 8.

158 Н., *Symon Konarski*, „Nasza Niwa”, 1/14.06,1907, nr 21, s. 6; А. Луцкевіч, *Шыман Канарскі*, [у:] ён жа, *Барацьба за вызваленьне*, укл. А. Сідарэвіч; рэд. А. Ліс, Vilnius-Białystok 2009, с. 479-480.

якая прапагандавалася паўстанцамі, не звязвалася з сацыяльным вызваленнем — ад паншчыны, таму:

> Mužyku drenna žyłosia zaŭsiahdy: i raniej, — jak Polszcza, Litwa i Bełaruś nasza byli niezaležnym hasudarstwam, — mužyk harawaŭ pad panszczynaj, jak i pad Rasiejej. Woś i nie chacieŭ jon iści wajewać za swabodu i niezaležnaść Polszczy, bo nia wieryŭ, szto jamu tam lahczej stanie.

Н. рэзюмаваў, што памылкі паўстанцаў 1830-1831 гг. былі асэнсаваны наступнымі дзеячамі вызваленчага руху:

> Tady mnoha paŭstancoŭ zrazumieło i toje, szto kali ŭ toj Polszczy, za katoruju jany padnialisia, mužyk pa-staramu budzie skryŭdženy i prycisnieny, to nima szto jaje dabiwacca. I žmienia hetych wajakoŭ paczała dakazwać ludziom, szto ŭ swabodnaj Polszczy i ŭwieś narod pracoŭny musić być swabodny. [...] I tolki tady možna było czekać, szto ŭwieś narod Polszczy, Litwy i Biełaj Rusi patrapić pierastroić žyccio swaje na-nowo.

А. Луцкевіч прадставіў Канарскага як «нашага ваяку», што было адзінай спробай рэцэпцыі яго асобы ў беларускай гісторыі: „Samy śmieły u nas wajaka za tyje swiatyje dumki i žadannia byŭ Symon Konarski. Jon naležaŭ da paŭstannia 1831 hodu, razam z tawaryszami nie raz byŭ u bitwach i z imi razam uciok za hranicu”. Але потым „pierabraŭsia praz hranicu rasiejskuju i paspieszyŭ da pracy pamiež swaich ziemlakoŭ. Praz dwa s pałowaj hody pracawaŭ jon u naszym kraju — ŭ huberniach Wilenskoj, Minskoj, Hrodzienskoj — na Wołyniu i Podolu”.

Землі Беларусі, Літвы і Украіны, як бачым, „Naszaj Niwaj” разглядаюцца як адзіны «край», а яго жыхары — «землякамі» Канарскага. З гэтага вымалёўваецца састаўны трохслойны вобраз бацькаўшчыны Канарскага ў інтэрпрэтацыі беларускай газеты: Польшча; Польшча, Беларусь і Літва; Украіна, Беларусь і Літва.

У канцы нарыса расказваецца пра тое, што расійская паліцыя спрабавала схапіць Канарскага, што ўрэшце ўдалося: „Ŭ 1839 hadu, paśla straszennaho katawannia, jazstrelali *(sic!)* jaho u Wilni pa pryhaworu wajennaho suda, jak hasudarstwiennaho prastupnika”.

Чаму менавіта Ш. Канарскі прыцягнуў увагу А. Луцкевіча, цяжка сказаць. Паколькі Канарскі не быў звязаны з Беларуссю, але дзейнічаў у Літве, то з’яўленне яго асобы на старонках беларускай газеты можа сведчыць пра ўспрыманне рэдакцыяй «Нашай Нівы» сваёй бацькаўшчыны як Беларусі і Літвы. Аднак далейшай папулярызацыі «беларускі» вобраз паўстанца не атрымаў[159].

У адным з артыкулаў серыі «Беларуская народная школа» Дзядзька Карусь (К. Міцкевіч) у негатыўным святле ўпамінаў помнік душыцелю паўстання 1863-1864 гг. Міхаілу Мураўёву ў Вільні[160].

Але самі падзеі паўстання 1863-1864 гг. не знайшлі адлюстравання на старонках першых беларускіх газет у 1906-1907 гг.

Можна зрабіць вывад, што ў значнай ступені гістарычная ідэнтычнасць беларускіх дзеячаў складвалася ў выніку «інтэграцыі» ў беларускі нацыянальны наратыў дзеячаў і падзей часоў ВКЛ і польскага нацыянальна-вызваленчага руху XIX ст., як ураджэнцаў Беларусі (А. Міцкевіч), так і не звязаных з ёю (Ш. Канарскі). Сярод пісьменнікаў XIX ст. з польскага культурнага асяроддзя, якія пісалі па-польску і па-беларуску, асаблівай увагай «Нашай Нівы» карысталіся В. Дунін-Марцінкевіч і Ф. Багушэвіч, якія з таго часу засталіся ў кананічным спісе «айцоў» беларускага руху. Аднак спроба ўпісаць у беларускі нацыянальны пантэон Ш. Канарскага аказалася няўдалай: ён пасля 1907 г. быў забыты як «беларус».

Уключэнне ў беларускі нацыянальны пантэон асоб з польскай культурнай ідэнтычнасцю не было выпадковым, а было абумоўлена паходжаннем большасці дзеячаў беларускага руху і вядучых супрацоўнікаў першых беларускіх газет з польскага культурнага асяроддзя.

### **Украіна і ўкраінцы**

Украіна і ўкраінец на рускай мове ў пачатку XX ст. называліся пераважна *Малороссія* і *малороссъ, малоруссъ*. Формы *Украина, украинецъ* выкарыстоўваліся радзей, пераважна дзеячамі і сімпатыкамі

159 Увогуле ж, падстаў «беларусізаваць» асобу Канарскага не было. Ён быў родам з-пад Аліты (літ. Alytùs). Вядома, што ўраджэнец Пінскага павета Францішак Савіч у 1836 г. стварыў Дэмакратычнае таварыства, якое ў 1837 г. увайшло ў кантакт з Канарскім, як эмісарам эміграцкай арганізацыі «Маладая Польшча», што павінна была аб'яднаць у Саюз польскага народа студэнтаў і шляхціцаў з Літвы, Беларусі і Украіны, якія пачалі б партызанскую вайну супраць расійскіх улад. Аднак у 1838 г. арганізацыя была выкрыта расійскімі ўладамі, а Канарскі, як і Савіч, быў арыштаваны. У 1839 г. Канарскі быў расстраляны ў Вільні. Мэтай Канарскага і яго аднадумцаў было аднаўленне Рэчы Паспалітай у граніцах 1772 г. (M. Jučas, *Visuomeninis judėjimas ir revoliucinės demokratinės ideologijos formavimasis*, [у:] *Lietuvos TSR istorija*, t. I: *Nuo seniausių laiku iki 1861 metų*, red. kol.: J. Žiugžda (vyr. red.) [ir kt.], Vilnius 1957, p. 419-420; [V. Merkys], *Lietuvos socialinė-ekonominė ir politinė raida...*, p. 259-260).

160 Дзядзька Карусь, *Беларуская народная школа.* 2. *Беларуская мова у казенной школи*, «Наша Нива», 22.12.1906, № 7, с. 4.

украінскага нацыянальнага руху і паходзілі ад адпаведных украінскіх тэрмінаў *Україна, українець*[161].

«Украінай» называліся яшчэ ў першыя стагоддзі існавання Вялікага Княства Літоўскага паўночная, паўночна-ўсходняя і ўсходняя часткі гэтай дзяржавы — Полацкая, Віцебская і іншыя землі, якія аддзялялі ўнутраныя землі ВКЛ ад маскоўскай дзяржавы[162].

Выклікае цікавасць адна з ранніх лексем у старабеларуска-украінскай пісьменнасці *украинник* — з Метрыкі ВКЛ за 1507 г.: «люди по*д*даныи н(а)ши зе*м*ли Мо*л*давское укра*и*нн*и*ко*м* твое*и* м(и)л(о)сти Коруны По*л*ское шкоды великие починили»[163].

Запісы І. Насовіча сярэдзіны XIX ст. з усходняй Беларусі сведчаць пра існаванне наступных форм і значэнняў, якія Насовічам не атаясамліваліся з Украінай як этнічнай тэрыторыяй на поўдзень ад Беларусі, але, здаецца, з ёй звязаны:

**УКРА́ИНА** ‘страна, лежащая в предѣлахъ, при границѣ или за предѣлами отечества или области’: *Въ украинѣ кажуць жиць хорошо. На украину поѣхавъ*;
**УКРА́ИННИКЪ** ‘пограничный житель’: *украинники привели коней продаваць*;
**УКРА́ИННЫЙ** ‘пограничный, заграничный’: *Украинные людзи*;
**УКРА́ИНСКІЙ** ‘свойственный украинѣ’: *Украинскіе волы*[164].

У сваю чаргу, у мове «Нашай Нивы» сустракаем наступныя формы:

**УКРАІНА:** *Usia Ukraina*[165]; *Deputaty ad Ukrainy*; *dla Ukrainy*[166]; *Ukrainy; z Ukrainy; na Ukrainu*[167];

161 М. В. Лескинен, *«Южноруссы», «малороссияне», «малороссы», «украинцы»: трансформация этнонима в российском этногеографическом дискурсе*, [у:] *Имя народа: Украина и ее население в официальных и научных терминах, публицистике и литературе: сборник статей*, редкол.: Е. Ю. Борисенок [и др.], Москва—Санкт-Петербург 2016, с. 77-102.

162 А. И. Груша, *Государственный строй и органы управления в ВКЛ. Судебно-правовая система*, [у:] *История белорусской государственности. В 5 т.*, Минск 2018, т. 1, с. 265.

163 *Отказъ Богушу, послу короля Жикгимонта*, [у:] *Lietuvos Metrika. Knyga nr. 8 (1499-1514). Užrašytų knyga 8*, par. A. Baliulis, R. Firkovičius, D. Antanavičius, Vilnius 1995, p. 65.

164 *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія...*, с. 656.

165 „Nasza Niwa", 1907, nr 20.

166 „Nasza Niwa", 1907, nr 7.

167 „Nasza Niwa", 1907, nr 20.

**УКРАЙНА:** *swoj rodnyj kraj — Ukrajnu*[168]; *Deputaty ad Ukrajny złuczylisia u „ukrainskuju trudawuju hramadu”*[169]; *nie pryłuczyli Ukrajny da Maskwy*[170];
**УКРАЙНА (ГАЛІЧЫНА Ў АЎСТРЫІ):** *Украйна (Галичына — у Аўстрыи)*[171];
**МАЛАРОСІЯ:** *na Ukrainie, abo ŭ Małorosii*[172]; *Na Ukrainie (abo, jak kažuć, ŭ Małorosii)*[173];
**ВАЛЫНЬ (ЗАПАДНАЯ УКРАЙНА):** *na Wołyni, Zapadnaj Ukrajnie*[174];
**У УКРАІНЕ:** *Prymieram, u Ukrainie*[175];
**НА УКРАІНЕ:** *na Ukrainie*[176]; *Na Ukrainie*[177];
**НА УКРАЙНЕ:** *na Ukrajnie*[178]; *ŭ huberniach* [...] *pałudziennych, na Ukrajnie*[179];
**УКРАІНЕЦ:** *ukrainiec*[180]; *ukraincy*[181]; *ukraincoŭ*[182]; *dziakujem za pawinszawannie studentoŭ instytutu, biełarusoŭ i ukraincoŭ*[183]; *Zjezd narodnych wuczycieloů Ukraincoŭ, czlenoŭ towarystwa wzajemnaj pomaczy*[184];
**УКРАІНСКІ НАРОД:** *Ukrainski narod*[185]; *ukrainski narod*[186]; *žyccio ukrainskaho naroda*[187];
**УКРАІНСКАЯ МОВА:** *Ukrainskaja mowa*[188]; *z ukrainskoj mowy*[189];
**ПА-ЎКРАІНСКУ:** *I ab Ukrainie wuczać pa ukrainsku*[190];

168 „Nasza Niwa”, 1907, nr 33.
169 „Nasza Niwa”, 1907, nr 19.
170 „Nasza Niwa”, 1907, nr 20.
171 «Наша Нива», 1906, № 7.
172 „Nasza Niwa”, 1907, nr 11.
173 „Nasza Niwa”, 1907, nr 33.
174 „Nasza Niwa”, 1907, nr 6.
175 „Nasza Niwa”, 1907, nr 14.
176 „Nasza Niwa”, 1907, nr 11, 20.
177 „Nasza Niwa”, 1907, nr 29.
178 „Nasza Niwa”, 1907, nr 19.
179 „Nasza Niwa”, 1907, nr 36.
180 „Nasza Niwa”, 1907, nr 20.
181 „Nasza Niwa”, 1906, nr 1; 1907, nr 2, 33.
182 „Nasza Niwa”, 1907, nr 1.
183 „Nasza Niwa”, 1907, nr 36.
184 „Nasza Niwa”, 1907, nr 23.
185 „Nasza Niwa”, 1907, nr 20.
186 „Nasza Niwa”, 1907, nr 7.
187 „Nasza Niwa”, 1907, nr 33.
188 Там жа.
189 „Nasza Niwa”, 1907, nr 8.
190 „Nasza Niwa”, 1907, nr 33.

**ПА-РУСІНСКУ:** *Prysiaha dla deputatoŭ była praczytana na 8 mowach:* [...] *pa rusinsku*[191] [у парламенце Аўстра-Венгрыі].

У мове першых беларускіх газет, такім чынам, склаліся назвы краіны і народа пад уплывам украінскай, а не рускай традыцыі з варыянтамі *Ukraina*, *Украйна*. У рускай пісьменнасці выкарыстоўваліся, аднак, розныя тэрміны, параўн. у М. Каяловіча: *Украйна; Малороссия* (1864 г.)[192]. Этнонім *Małarosy* раней сустракаўся, у прыватнасці, у 1890-я гг. — у Мацея Бурачка (Ф. Багушэвіча)[193].

Выкарыстанне слова *Україна* з прыназоўнікам *на* з'яўлялася тыповым для ўкраінскай літаратурнай і народнай мовы таго часу[194], але таксама і для польскай (*na Ukrainie*, але і: *w Ukrainie*)[195] і рускай. Таму і ў беларускай прэсе такое словаўжыванне трэба прызнаць як адпаведнае шырокаму ўзусу.

Адзін раз у беларускай прэсе сустрэўся выраз *pa rusinsku* ў адносінах да ўкраінскай мовы на тэрыторыі Аўстра-Венгрыі, што звязана з асаблівасцямі (сама)ідэнтыфікацыі ўкраінскамоўнага насельніцтва ў гэтым рэгіёне ў той час (і да сённяшняга дня — у Славакіі і Польшчы)[196]. Выраз *halickije rusiny* адзначаны ў „Našaj Niwie" ў 1911 г.[197] Тэрміны, якія пераважаюць у газеце ў 1906-1907 гг.: *pa ukrainsku; Ukrainskaja mowa*. Тэрміны *украинцы, украінцы, ukraincy; украински, украінскі, ukrainski* сустракаем на старонках «Нашай Нивы» і ў наступныя гады[198]. Гэта

191 „Nasza Niwa", 1907, nr 24.
192 М. О. Коялович, *Чтения по истории...*, с. 9.
193 *Dudka biełaruskaja Macieja Buraczka*, Wydanie druhoje, Krakou 1896, s. III.
194 П. Ковалів, *Звідки походить форма «на Україні»?*, https://zbruc.eu/node/66244 [доступ: 05.05.2022]; П. Ковалів, *«На Україні» чи «в Україні»*, https://zbruc.eu/node/66245 [доступ: 05.05.2022].
195 M. Łaziński, *Przyimki* na, w *oraz* do *przed nazwami państw, krajów i krain. Historia i współczesne wahania normatywne*, „Język Polski", 2022, R. CII, z. 1, s. 26-40.
196 О. Б. Неменский, *Политические игры с русским именем в Австро-Венгрии (по материалам стенограммы судебного процесса 1882 г. над Ольгой Грабарь и товарищами*, [у:] *Имя народа: Украина...*, с. 29-62; И. В. Орлевич, *Названия «русскій», «малорусскій», «россійскій» у галицийских русофилов (вторая половина XIX — начало XX в.),* [у:] там жа, с. 63-76; М. Ю. Дронов, *Этническая идентичность русинов межвоенной Словакии сквозь призму этнонимии,* [у:] там жа, с. 191-228; М. Э. Клопова, *Русины, русские, украинцы. Национальные движения восточнославянского населения Галиции в XIX — начале XX в.*, отв. ред. М. В. Лескинен, Москва 2016; *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 11: *Р-С*, укл. В. Л. Авілава [і інш.], гал. рэд. Г. А. Цыхун, адк. рэд. М. П. Антропаў, Мінск 2006, с. 218.
197 *Слоўнік мовы «Нашай нівы». 1906-1915. У 5 т.*, т. 3: *Н-Р*, укл.: І. А. Гапоненка [і інш.], навук. рэд. В. П. Лемцюгова, А. М. Анісім, Мінск 2015, с. 595.
198 *Слоўнік мовы «Нашай нівы». 1906-1915. У 5 т.*, т. 4: *С-Я*, укл.: І. А. Гапоненка [і інш.], навук. рэд. В. П. Лемцюгова, А. М. Анісім, Мінск 2019, с. 357.

словаўжыванне — з формамі з коранем *украін-* замацавалася і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

У «Нашай Ниве» Украіна і ўкраінцы разглядаліся ў сучасным і гістарычным кантэкстах. Так, 21 чэрвеня 1907 г. публікавалася інфармацыя пра „Zjezd narodnych wuczycieloů Ukraincoŭ, czlenoŭ towarystwa wzajemnaj pomaczy”, які адбыўся 27 мая ў Екацярынаславе (цяпер Днепр):

> Adzin wuczyciel zrabiŭ dakład ab nawuczanniu naroda ŭ rodnaj mowi i stajaŭ za heta. Ale treba, kab samy wuczycieli byli dobra znajomyje z historjeju naroda, z jaho mowaju i literaturaju, bo inaczej nia budzie mocnaho zbližeńnia narodnaj szkoły z narodam. [...]
> Sabrannie ŭsio, jak adzin czaławiek, pastanawiło adkryć ukrainski addzieł[199].

Такім чынам, беларускія дзеячы пільна прыглядаліся, як украінцы спрабуюць вырашыць праблему пашырэння грамадскіх функцый украінскай мовы, каб пайсці аналагічным шляхам.

У матэрыяле „Naszaj Niwy” пра пасяджэнне Дзяржаўнай думы Расійскай імперыі, якое адбылося 15 мая 1907 г., цытавалася выступленне дэпутата ад мястэчка Барыспаль Пераяслаўскага павета Палтаўскай губерні Яфіма (Юхіма) Сайко, што звярнуўся да тэмы самакіравання сваёй бацькаўшчыны ў мінулым, якое „zhinuło s taho czasu, jak ruskaje prawicielstwa adabrało hetaje światoje prawa samoupraŭlennia Ukrainy”. Гэта выступленне цікавае як прыклад ідэалізаваных уяўленняў украінцаў пра сваё мінулае, якое яны супрацьпастаўлялі негатыўным з’явам сучаснасці — расійскаму панаванню. Сайко так бачыў мінулае Украіны:

> Usia Ukraina była pakryta bratstwami dla praświaszczennia naroda, nizszymi i siarednimi wuczyliszczami, a ŭ Kijewie była i wysszaja szkoła — Akademija. Hetyje szkoły sam narod trymaŭ na swoj koszt i sam imi upraŭlaŭ cieraz swaju „Radu” razam sa swaim wybarnym naczalnikam — hetmanam. Tahdy nasz narod byŭ swabodny, i u nas była swabodnaja szkoła. Na niedachwat wuczycieloŭ nichto nia tolki nie skardziŭsia, a naprociŭ z Ukrainy brali ŭ Maskwu wuczycieloŭ i archirejoŭ, katoryje tam stali praświeszczać narod. Czužeziemcy, pryježdžaŭszyje tahdy na Ukrainu, kazali, szto narod tam nadta kulturny i wuczony. Da 1654 hoda, znaczycca, pakul nie pryłuczyli Ukrajny da Maskwy, tahdy jak ŭ Maskwie tolki jaszcze dumali zawadzić swai drukarni, na Ukrainie hetych drukarnioŭ było ŭžo 24. — Palityka carycy Kacieryny II saŭsim znicztožyła kulturu Ukrainy [...]. Ukrainski narod trebuje, kab dla

199 *Z usich staron*, „Nasza Niwa”, 21.06.1907, nr 23, s. 7.

ŭsiaho nasielennia nawuka była darmowaja, i wuczycca ŭ szkołcy pawinny ŭ rodnaj mowie, a ruskuju mowu wuczyć, jak czužuju[200].

Беларускія публіцысты натхняліся падобнага роду рыторыкай і таксама шукалі прыкладаў у мінулым, якія б сведчылі пра кантраст паміж становішчам Беларусі да далучэння да Расіі і пасля.

Як лічыць расійскі даследчык Леанід Гарызонтаў, у працэсе фармавання нацый апеляцыя да мовы, этнаграфічнага субстрату была ўласціва нацыям з няпоўнай сацыяльнай структурай, а зварот да гістарычнай традыцыі — нацыям з поўнай структурай. Украіну і Беларусь Гарызонтаў у гэтым плане бачыць «гібрыдным варыянтам»[201].

## Беларусы і яўрэі

На тэрыторыі Беларусі традыцыйна пражывалі *яўрэі*, якія ў мове «Нашай Долі» і «Нашай Нівы» абазначаліся наступнымі тэрмінамі:

**ЖЫД:** *Żyd*[202]; *żyd*[203]*; «ня будзе ни грэка, ни жыда»*[204]; *Žydy*[205]; *žydy*[206]; *žydy dy palaki*[207]; *Пабили многа жыдоў*[208]; *žydoŭ*[209]; *skujuć* [...] *ruskich na žydoŭ dy palakoŭ*[210]; *на жыдоу = па żydou*[211]; *dla žydoŭ*[212]; *pa miasteczkach najbolej riemiesnikoŭ (sic!) žydoŭ*[213]; *Аб жыдох*[214]; *z žydami*[215]; *Nu, žydzie!*[216]; *G. B. Slozberg hawaryŭ ab žydoch: prawicielstwa nie daje prawoŭ žydom. Czamu hetak robicca?*

200 *Hasudarstwienaja Duma*, „Nasza Niwa", 25.05.1907, nr 20, s. 2.
201 Л. Е. Горизонтов, *Механизмы формирования украинской и белорусской наций в российском и общеславянском контексте (дореволюционный период)*, [у:] *На путях становления украинской и белорусской наций: факторы, механизмы, соотнесения*, отв. ред. Л. Е. Горизонтов, Москва 2004, с. 78.
202 „Nasza Niwa", 1907, nr 14.
203 „Nasza Dola", 1906, nr 5.
204 «Наша Нива», 1907, № 17.
205 „Nasza Niwa", 1907, nr 8.
206 „Nasza Niwa", 1906, nr 1.
207 „Nasza Niwa", 1907, nr 27.
208 „Nasza Niwa", 1907, nr 28.
209 „Nasza Niwa", 1907, nr 3.
210 „Nasza Niwa", 1907, nr 15.
211 «Наша Доля», 1906, № 2; „Nasza Dola", 1906, nr 2.
212 „Nasza Niwa", 1907, nr 36.
213 „Nasza Niwa", 1907, nr 29.
214 «Наша Нива», 1907, № 17.
215 „Nasza Niwa", 1906, nr 2.
216 „Nasza Niwa", 1907, nr 13.

*Raniej, jeszcze pry Jekacierynie, pawicielstwa kazało, szto žydy — niechrysty; ciapier kažuć, szto jany narod abdzirajuć. Bytcam biez žydoŭ nichto nie abdziraje narodu! Jeszcze jak!; A licha ž tabie, žydzie, kazała stolki dziaciej napładzić*[217] (пол. *Żyd* 'яўрэй', *żyd* 'іўдзей', параўн. рус. *еврей,* разм. *жидъ*);
**ЖЫДОК:** *Kali žydki byli ŭ niawoli babilonskaj*[218]; *felczara-žydka*[219];
**ЖЫДОЎСКІ:** *żydoŭski*[220]; *жыдоўская беднатa*[221]; *žydoůskije*[222]; *na žydoŭskije pahromy*[223]; *pierakruczywajuczy towu swaju na žydoŭskuju*[224]; *zakryli žydoŭskim remiesnikom dostup ŭ russkije huberni*[225]; *žydoŭskich*[226].

У «Нашай Ниве» ў наступныя гады яе выдання зафіксаваны формы: *жыд, žyd, жыдок, жыдоўка, жыдоўски, жыдоўскі*[227]. Яны могуць быць звязаны з пол. *Żyd*.

Корань *жыд-* з'яўляецца агульнаславянскім, параўн. ст.-слав. *жидовинъ*, ст-рус., ст.-бел. *жидъ*[228].

Запісы І. Насовіча сярэдзіны XIX ст. ва ўсходняй Беларусі засведчылі наступныя формы: *жидъ, жидовка, жидовскій*, зборны назоўнік *жидова*, лаянкавыя формы *жидзюга, жидзюкъ,* а таксама *жидовчинка* 'еврейская дѣвица'; *жидовщина* 'свойство, нравъ Евреевъ; поступки свойственные Евреямъ'[229].

Варта адзначыць, што ў расійскім публічным дыскурсе ў XIX ст. выкарыстоўвалі слова *еврей*, а слова *жидъ* мела адмоўныя канатацыі, адлюстроўваючы юдафобскія погляды тых, хто яго выкарыстоўваў, у тым ліку дзеячаў заходнерускага руху, як, напрыклад, М. Каяловіча[230].

217 „Nasza Niwa", 1907, nr 14.
218 Там жа.
219 „Nasza Niwa", 1907, nr 16.
220 „Nasza Niwa", 1906, nr 2.
221 «Наша Нива», 1907, № 17.
222 „Nasza Niwa", 1906, nr 1.
223 „Nasza Niwa", 1907, nr 9.
224 „Nasza Niwa", 1907, nr 13.
225 „Nasza Niwa", 1907, nr 36.
226 „Nasza Niwa", 1907, nr 4.
227 *Слоўнік мовы «Нашай нівы». 1906-1915. У 5 т.*, т. 2, с. 35.
228 *Этымалагічны слоўнік беларускай мовы*, т. 3: *Г-І*, укл. Р. У. Краўчук [і інш.], рэд. В. У. Мартынаў, Мінск 1985, с. 262.
229 *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія...*, с. 156.
230 Д. Сталюнас, *Польша или Русь?*, с. 268.

Цікава таксама, што ў пэўнай ступені ўспрыманне яўрэяў у Расійскай імперыі было падобна да адносін да палякаў і рускіх. Яўрэямі лічыліся ўсе, хто вызнае іўдаізм. Той, хто пераходзіў з іўдаізму ў хрысціянскую канфесію, яўрэем ужо не лічыўся[231]. У той жа час выкарыстоўваліся як сінанімічныя паняцці *паляк* і *католік*, *рускі* і *праваслаўны*.

У апошнім нумары за 1907 г. „Nasza Niwa" прысвяціла вялікі матэрыял з апісаннем „biezpraŭnaho pałažeńnia žydoŭskaho naroda" — у граніцах тэрыторыі, якая мела назву „czerta osiedłosti":

> ŭsie žydy zamknieny ŭ hranicach tak-zwanych „okrain", znaczyć, ŭ huberniach biełaruskich i litoŭskich, ŭ pałudziennych, na Ukrajnie, ŭ Polszczy, dy jaszcze ŭ kolkich miescoch. Z ich ŭ russkije huberni žydom wyježdžać nia možna[232].

Выданне падрабязна апісвала дыскрымінацыйную палітыку ўлад Расіі ў адносінах да яўрэяў з сярэдзіны XIX ст. і заклікала: „Dyk para, wialikaja para ŭžo pryznać i ŭ žydoch ludziej i poŭnapraŭnych hramadzian hasudarstwa".

Такім чынам, як і беларусы, яўрэі ў Расійскай імперыі не валодалі паўнатой грамадзянскіх, нацыянальных і рэлігійных правоў і свабод.

„Nasza Niwa" прысвячала нямала месца яўрэйскаму пытанню, змаганню яўрэйскага насельніцтва Беларусі за свае правы і свабоды. Гэтым самым беларускае выданне разбівала як нацыянальныя, так і рэлігійныя стэрэатыпы, ставіла на першае месца не паходжанне чалавека, а яго грамадзянскую пазіцыю.

Паведамляючы пра дзейнасць Дзяржаўнай думы, „Nasza Niwa" ў красавіку 1907 г. пісала, што „Kamisja ab roŭnaści ŭsich narodnaściej i religij" разглядала становішча палякаў і яўрэяў:

> G. B. Slozberg hawaryŭ ab žydoch: prawicielstwa nie daje prawoŭ žydom. Czamu hetak robicca? Raniej, jeszcze pry Jekacierynie, prawicielstwa kazało, szto žydy — niechrysty; ciapier kažuć, szto jany narod abdzirajuć. Bytcam biez žydoŭ nichto nie abdziraje narodu! Jeszcze jak![233]

Тут газета выступала супраць таго, што адмоўны вобраз яўрэяў быццам бы з'яўляецца аб'ектыўным і абумоўленым менавіта іх паходжаннем.

[231] Там жа, с. 269.
[232] B., *Ahraniczennia u zakonach dla žydou*, „Nasza Niwa", 21.12.1907, nr 36, s. 5.
[233] *Kala Dumy*, „Nasza Niwa", 6/19.04.1907, nr 14, s. 6.

4 (17) мая 1907 г. газета «Наша Нива» апублікавала артыкул невядомага аўтара пад псеўданімам Б. «Аб жыдох»[234]. У ім выкрывалася палітыка антысемітызму і яе бытавыя формы. Тэкст быў накіраваны непасрэдна супраць «пагромшчыкаў»:

> Цяпер злыдни тые ўсё цкуюць хрысцьяноў на жыдоў. Даводзяць яны, бытцам сам Бог кажэ биць жыдоў. Алеж гэта — чыстая брэхня. Хто чытаў Эвангелию, хто па праўдзи верыць у рэлигию хрысцьянскую, той добра ведае, што гэта няпраўда. Тож усим ведама, што Хрыстус навучаў найперш меж жыдами, з жыдоў пашли першые хрысцьяне, апостолы; а Матка Божая так сама была з жыдоўскаго царскаго роду. Дык як жэ мог Хрыстус вучыць жыдоў, каб били яны братоў сваих? Хрыстус сам вучыў: «ня будзе ни грэка, ни жыда» — значыць, усе людзи роўные, усе — браты, хаця яны иншай веры, иншае народнасьци.

Далей публіцыст адзначаў, што яўрэі ў Беларусі займаліся «ўселякім рэмеслом»:

> Трэба напрыклад, мужыку пашыць апратку дзеля сьвята, ци боты купиць, або трэба каню падкову зрабиць, струмэнт яки паправиць — вось и идзе ён да жыда краўца, шэўца, каваля... Гэтаких рэмесленикоў найболей жыве па нашых мястэчках. Працуюць жыды и па гарадох у розных фабрыках: табачных, гильзовых, ткацких и иншых; ёсць и жыды чорнарабочые — перавозяць ды носяць на карку сваим цяжкие рэчы, тавары, спаўняюць уселякие цяжкие работы. Дык хтож можэ казаць, бытцам гэтые жыды-працоўники не жывуць з працы сваей? [...]
> Апроч жыдоў-рэмесленикоў, чорнарабочых ды фабрычных работникоў ёсць у нашым краю шмат жыдоў, што жывуць з гандлю. [...]
> А ешчэ ведама, што кожны гандляр глядзиць за тым, каб як найболей зарабиць. И ўсё роўна для тых, хто мусиць купляць яки тавар, ци той купец каталик, ци праваслаўны, ци жыд. Часта нават бывае так, што гандляр-жыд танней прадае тавары, як други [...].
> Там, гдзе жыдоў нима, — у Расеи, гандлем займаюцца праваслаўные купцы; алеж их там куды меней, цэны сабе не псуюць, и мужыкам прыходзицца плациць за ўсё болей, як у нас.

«Наша Нива» даказвала, што міф пра тое, што ўсе яўрэі быццам бы багатыя, не мае падстаў:

[234] Б., *Аб жыдох*, «Наша Нива», 4/17.05.1907, № 17, с. 2-5.

> Праўда, ў кожным мястэчку ёсць кольки багатыроў, а ўсе другие жыды — рэмесленики, гандляры дробные — тож такая бедната, што вельми часта жыве ешчэ горш за мужыка. [...]
> Хто бываў кали у Вильни, Минску, Витэбску, Магилёви, Гродни ў тых часьцях гораду, гдзе жыве жыдоўская бедната, той знае сам, што жыццё гэтых бедакоў — проста каторга. [...]
> Тые «пагромшчыки», што цкуюць хрысцьяноў на жыдоў, паказуюць народу на жыдоўских багачоў и за грэхи багачоў гэтых нападаюць на ўвесь народ жыдоўски. [...] Бедната з багачами ничога супольнаго не мае; «сыты галоднаго не разумее», и жыдоўским багачом дзела нима да беды и гора працоўникоў: яны роўна цисnуць и работникоў хрысцьяноў, и сваих — жыдоў.

«Наша Нива» заклікала беларусаў да сацыяльнай салідарнасці з яўрэямі:

> Разам з жыдами на фабрыках працуюць хрысцьяне. Жыды з ими зрабили хаўрус и дружне зачали ваевацъ проци жыдоўских ды хрысцьянских багачоў-фабрыкантоў. И праўда: работники ўсих народнасьцей ды розных рэлигий маюць адных ворагоў — адных крыўдзицелёў, адна у их дарога... [...]
> И наша бедната працоўная павинна не «грамиць» жыдоўских бедакоў-работникоў, а разам з ими дабивацца лепшаго жыцця, доли, свабоды...

Беларуская газета ўвесь час рэагавала на розныя антысеміцкія індыдэнты, якія былі справакаваны рускімі нацыяналістамі[235].

14 верасня (2 кастрычніка) 1907 г. карэспандэнт са Смаргоні, расказваючы пра забастоўку шаўцоў, якія дабіваліся скарачэння працоўнага дня, адзначаў у пазітыўным ключы ўзровень асветы сярод яўрэяў, якія дабіваліся лепшых умоў працы:

> Treba skazać, szto u nas na Biełarusi pa miasteczkam badaj niaŭsiudy riemiesniki *(sic!)* dabilisia wośmi abo dziewiaci hadziannaho raboczaho dnia; bo pa miasteczkach najbolej riemiesnikoŭ *(sic!)* žydoŭ, jany bolsz czytajuć ksionžek, hazet i lepiej razumiejuć jak sabie paradzić[236].

[235] Sialbuś Brŭs, *M. Snoů, Nawahrudskaho pawietu*, „Nasza Niwa", 8/21.06.1907, nr 22, s. 6-7; *Minsk*, „Nasza Niwa", 17/30.08.1907, nr 27, s. 7.

[236] S. D., *m. Smorgoń Aszmianskaho paw. Wilen. hub.*, „Nasza Niwa", 2/14.09.1907, nr 29, s. 4.

„Nasza Niwa" апублікавала ў сакавіку 1907 г. апавяданне Элізы Ажэшка „Gedali", якое было прысвечана становішчу яўрэяў у ваколіцах Воўпы (цяпер у Ваўкавыскім раёне; гл. вышэй).

Пазіцыя «Нашай Нівы» была адназначная: яна асуджала дыскрымінацыю яўрэяў расійскімі ўладамі і бачыла іх саюзнікамі беларусаў у змаганні за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Зрэшты, як бачым з прыведзенага матэрыялу, беларускія нацыянальныя дзеячы арыентаваліся на саюз і з іншымі суседнімі народамі — літоўцамі (літвінамі), палякамі, украінцамі, звяртаючыся да агульных з імі старонак мінуўшчыны.


**Summary**

**The History of Belarusians and Their Neighbours on the Pages of the Newspapers *Naša Dola* and *Naša Niva* in 1906-1907**

In 1906, towards the end of the first Russian revolution (1905-1907), the first Belarusian-language newspapers were published in Vilna (Vilnius) — *Naša Dola* and *Naša Niva*. In 1906-1907, these newspapers published few but substantial articles about the common historical fates of Belarusians, Lithuanians, Poles, Ukrainians and Jews from the times of the Grand Duchy of Lithuania, the Polish-Lithuanian Commonwealth and the Russian Empire including the Polish uprisings — November (1830-1831) and January (1863-1864). Among the authors were the actual founders and editors of these newspapers, the brothers Ivan and Anton Łuckievič, and other journalists hiding under pseudonyms.



**Keywords:** *Nasza Niwa* newspaper, Belarusian national movement, Belarus, Belarusians, Belarusian language, Vilnius.



**Streszczenie**

**Historia Białorusinów i ich sąsiadów na łamach gazet „Nasza Dola" i „Nasza Niwa" w latach 1906-1907**

W 1906 r., pod koniec pierwszej rewolucji rosyjskiej (1905-1907), w Wilnie ukazały się pierwsze gazety w języku białoruskim — „Nasza Dola" i „Nasza Niwa". Na ich łamach w latach 1906-1907 ukazały się nieliczne, ale treściwe artykuły o wspólnych historycznych losach Białorusinów, Litwinów, Polaków, Ukraińców i Żydów z czasów Wielkiego Księstwa Litewskiego, Rzeczypospolitej, Imperium Rosyjskiego, w tym powstań polskich — listopadowego (1830-1831) i styczniowego (1863-1864). Wśród autorów byli faktyczni założyciele i redaktorzy tych gazet — bracia Jan i Antoni Łuckiewiczowie oraz inni publicyści ukrywający się pod pseudonimami.



**Słowa kluczowe:** gazeta „Nasza Niwa", białoruski ruch narodowy, Białoruś, Białorusini, język białoruski, Wilno.



**Viktar Korbut** — doktor w dziedzinie nauk humanistycznych w dyscyplinie językoznawstwo, w 2024 r. obronił na Uniwersytecie Warszawskim rozprawę doktorską «Język białoruski jako czynnik kształtowania białoruskiej tożsamości narodowej w okresie rewolucji 1905-1907 r. w świetle publicystyki pierwszych gazet białoruskojęzycznych „Nasza Dola" i „Nasza Niwa"». Zainteresowania badawcze: białoruska idea narodowa, tożsamość Białorusinów, ludności na pograniczu białorusko-litewsko-polskim, dziedzictwo kulturowe Mińska i Wilna.

**Генадзь Семянчук**
(Гродна)
ORCID 0000-0003-2980-8428

## Невядомыя лісты Сяргея Дубінскага, першага беларускага археолага з Падляшша

У далёкай вёсцы Юдзінава ў суседнім з Беларуссю Пагарскім раёне Бранскай вобласці РФ знаходзіцца цікавы музейны комплекс, у склад якога ўваходзіць музей-запаведнік «Палеаліт». Гэта збудаваны ў 1985 г. павільён над раскапанай часткай верхнепалеалітычнай стаянкі, якую ў 1947 годзе адкрыў беларускі савецкі археолаг Канстанцін Міхайлавіч Палікарповіч. У фондах гэтага музея апынулася частка прыватнага архіва К. Палікарповіча, які пасля яго смерці ў 1966 г. перахоўваў у сябе на гарышчы ў Юдзінава яго шурын. Пазней па ініцыятыве Леаніда Іванавіча Грышына, мясцовага настаўніка гісторыі і першага дырэктара музея ў Юдзінава, ён быў прыняты ў фонды.

«Архіў Палікарповіча» складаецца з прыватнага дзённіка, справаздач па выніках археалагічных раскопак, пратаколаў пасяджэнняў адзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР, рукапісаў навуковых і навукова-папулярных прац. Сярод іх багатая эпісталярная спадчына. Захавалася шмат прыватных лістоў, напісаных ім да родных і сваякоў, а таксама да калег і спецыялістаў з Мінска, Ленінграда і іншых гарадоў. Выявілася, што ў прыватным архіве К. Палікарповіча захавалася восем паштовых картак і два лісты напісаныя Сяргеем Антонавічам Дубінскім, з іх восем за май-кастрычнік 1927 года, адзін з ліпеня 1929 года (усе з Мінска) і адзін з сакавіка 1936 года з Ленінграда. Гэта першыя вядомыя нам эпісталярныя крыніцы аўтарства беларускага археолага з Падляшша. Частку прапанаваных чытачам лістоў Сяргея Дубінскага да свайго калегі Канстанціна Палікарповіча ў фрагментах выкарыстаў у сваёй кнізе расійскі археолаг Артур Чубур[1].

Па змесце лісты Сяргея Дубінскага напісаныя ў 1927 і 1929 гадах, пераважна звязаныя тэматыкай з арганізацыяй першых стацыянарных археалагічных раскопак на ўнікальным для Беларусі помніку — верхнепалеалітычнай стаянцы Бердыж, размешчанай на р. Сож каля сучаснай

[1] А.А. Чубур, *Константин Михайлович Поликарпович: жизнь, открытия ученики*, Минск 2009.

в. Падлужжа Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці[2]. Дадзены помнік у 1926 годзе адкрыў менавіта Канстанцін Палікарповіч[3].



Раскопкі на Бердыжскай палеалітычнай стаянцы ў 1928 годзе. Сядзяць злева направа — Канстанцін Палікарповіч, Сяргей Дубінскі, Іна Рытар, Сяргей Шутаў; стаяць — Аляксандр Каваленя, Аляксандр Ляўданскі.

Менавіта, старыя пецярбургскія/ленінградскія сувязі С. Дубінскага, у першую чаргу са сваім універсітэцкім настаўнікам Аляксандрам Спіцыным, дазволілі да стаянкі Бердыж прыцягнуць увагу вядучых на той час савецкіх археолагаў-палеалітчыкаў: са старэйшага пакалення Пятра Яфіменка і Глеба Бонч-Асмалоўскага, а з маладзейшага — Сяргея

[2] Гісторыю і вынікі вывучэння помніка гл.: К. М. Поликарпович, *Палеолит Верхнего Поднепровья*, Минск 1968; Е. Г. Калечиц, *Первоначальное заселение территории Белоруссии*, Минск 1984.

[3] Так нараджаюцца міфы і фальсіфікацыі ў навуцы. Леў Клейн у сваім нарысе пра Сяргея Замятніна напісаў, што палеалітычную стаянку Бердыж у Беларусі адкрыў менавіта Замятнін. (Л. С. Клейн, *История Российской археологии: учения, школы и личности*, т. 2: *Археология советской эпохи*, Санкт-Петербург 2014, с. 488). На самой справе С. Замятнін удзельнічаў аднойчы ў раскопках стаянкі ў верасні 1927 года. Разам з Канстанцінам Палікарповічам яны раскапалі тады 20 м$^2$. (С. М. Замятнін, *Раскопкі Бердыскай палеолітычнай стаянкі ў 1927 г.*, «Запіскі аддзелу гуманітарных навук БАН», кн. 11: «Працы археолёгічнай камісіі», т. II, Менск 1930, с. 479-490).

Замятніна. Як даведваемся з ліста № 1, была таксама спроба запрасіць на раскопкі ў Бердыж нямецкага археолага Экерта. Але цынічны адказ А. Спіцына перапыніў дадзеную ініцыятыву. «Предположение вызвать Экерта забавно и не делает чести белоруссам. Ведь это археолог пока весьма среднего достоинства. Да и стыдно русским обращаться в палеолите к немцам». Таксама Дубінскі актыўна шукаў канкрэтных асоб і кантакты з геолагамі, так неабходных пры вывучэнні помнікаў каменнага часу.

Варта звярнуць увагу на мову лістоў Сяргея Дубінскага. Пераважная большасць іх напісаная па-руску, але амаль у кожным з іх аўтар ужывае беларускія словы і выразы. Адзін ліст (№ 9) ад 12 ліпеня 1929 года напісаны па-беларуску з ужываннем рускіх слоў і выразаў. Чытаючы дадзены ліст, адчуваеш, што яго аўтар вельмі дасканала валодаў на той час і пісьмовай, і, хутчэй за ўсё, гутарковай мовай. Гэта вельмі яскравае сведчанне, як пашыраўся і ўзмацняўся працэс «беларусізацыі» ў айчынным навуковым асяроддзі. Калі вясной і летам 1927 года ў напісанні лістоў дамінавала руская мова, дык праз два гады ў С. Дубінскага мовай зносін са сваім калегам К. Палікарповічам стала беларуская.

Асобную ўвагу прыцягвае апошні з друкаваных лістоў — № 10, напісаны Сяргеем Дубінскім з Ленінграда 31 сакавіка 1936 г.[4] Змест дадзенага ліста вельмі яскрава характарызуе самотную асобу, якая не па сваім жаданні апынулася ў далёкім горадзе Ленінградзе. Горад студэнцкай маладосці прытуліў яго ў апошнія гады жыцця. Але думкі і душа С. Дубінскага былі на Беларусі. З гэтай прычыны ён даволі настойліва запрашае да сябе ў госці свайго калегу і сябра Канстанціна Палікарповіча, а таксама просіць яго перадаць прывітанні значнай колькасці знаёмых з Мінска. Нібы адчуваў вялікую пагрозу свайму жыццю. І сапраўды, паміж 5 і 19 жніўня 1937 года Сяргей Дубінскі быў чарговы раз арыштаваны ў Ленінградзе, этапаваны ў Мінск, дзе 27 жніўня быў выкананы прыгавор — расстрэл.

З новых крыніц мы даведваемся трохі новых фактаў пра родных Сяргея Дубінскага — 2 ліпеня 1929 года памірае яго брат (ліст № 9), а ў Старым Асколе магчыма пражывалі яго стрыечныя сёстры (ліст № 10). Гісторыя з братам пакуль не высветлена, бо нам не атрымалася ўстанавіць хто гэта. У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай ў 1935 годзе С. Дубінскі сцвярджаў, што «в семье у него только жена, детей нет,

4 Апошнія гады жыцця і працы С. Дубінскага ў Ленінградзе гл.: С. А. Семёнов, *Из Петербурга в Ленинград. Вехи профессионального пути археолога С. А. Дубинского*, «Бюллетень Института истории материальной культуры Российской Академии наук: охранная археология», 2018, № 8, с. 244-246.

родители и брат уже умерли»[5]. Праўда, ў Цэнтральным архіве ФСБ РФ знайшлася інфармацыя пра яго роднага брата Канстанціна Антонавіча Дубінскага. Ён нарадзіўся ў 1895 годзе ў Сямятычах і ў 1937 годзе працаваў бухгалтарам у канторы Сібфутра ў Томскай вобласці. Яго арыштавалі 25 ліпеня 1937 года, прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання 18 кастрычніка, а прыгавор выканалі 8 снежня гэтага ж года[6]. Не выключана, што ў лісце з ліпеня 1929 года Сяргей Дубінскі ў словах пра смерць брата паінфармаваў Палікарповіча пра яго арышт.

* * *

Лісты Сяргея Дубінскага размешчаны ў храналагічным парадку. Тэксты лістоў набіраліся на мове арыгіналаў, адпаведна тагачаснага правапісу. Усе знішчаныя альбо нечытабельныя фрагменты тэкстаў пазначаюцца наступным чынам — [...]; скарачэнні імён, прозвішчаў і іншых слоў раскрываюцца і бяруцца ў звычайныя дужкі — ( ), аўтарскія арыгінальныя падкрэсленні слоў пазначаны ў тэкстах. Каментарыі складзены адносна асоб і населеных пунктаў.

**I.**
**Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Магілёў[7].**
**Дастаўлена 02.06.1927 г.**

31/V. 1927.

Дорогой Константин Михайлович[8].

Спешу сообщить Вам выдержку из письма Спицина[9]: «Предположение вызвать Экерта[10] забавно и не делает чести белоруссам. Ведь это археолог пока весьма среднего достоинства. Да и стыдно русским обращаться в палеолите к немцам. Еф(именко)[11] не едет только потому

[5] Г. Семянчук, *Аўтабіяграфія Сяргея Дубінскага, беларускага археолага з Падляшша*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2014, nr 42, s. 257.

[6] С. А. Семенов, *Из Петербурга в Ленинград. Вехи профессионального пути археолага С. А. Дубинского*, «Бюллетень Института истории материальной культуры Российской Академии наук: охранная археология», 2018, № 8, с. 246.

[7] Магілёў — абласны цэнтр, Рэспубліка Беларусь.

[8] Канстанцін Міхайлавіч Палікарповіч (18.03.1889-20.02.1963) — беларускі археолаг, спецыяліст па вывучэнні палеаліту і мезаліту Усходняй Еўропы.

[9] Аляксандр Андрэевіч Спіцын (26.08.1858-17.09.1931) — расійскі археолаг, першы настаўнік Сяргея Дубінскага ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце, спецыяліст па славянскай і балцкай археалогіі.

[10] Экерт — нямецкі археолаг, асоба мала нам вядомая.

[11] Ефименко — Пётр Пятровіч Яфіменка (23.11.1884-18.04.1969) — расійскі археолаг, даследчык эпохі палеаліту.

ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА

POŠTA

Куда: Магілеў (на Днепры)

(наименование ближайшего почтового пункта или станции железной дороги)

Чыгуначная („Железнодорожная“) д. 23

(наименование области, округа, уезда или железной дороги)

дом Падабед

(наименование сельского совета и деревни или улицы, № дома и № квартиры)

Кому: Пятру Міхайлавічу

Палікарповічу для Канстанціна

Міхайлавіча.

На этой стороне пишется только адрес.



Паштовая картка Сяргея Дубінскага да Канстанціна Палікарповіча
ад 31 мая 1927 года з Мінска.

что ему некогда. Я давал ему мысль приехать на несколько дней. Замятнин[12] вполне благонадежный исследователь; я предпочел бы его Бонч-Осм(оловскому)[13]. Вероятно, Еф(именко) увижу сегодня и переговорю». Отзыв Сп(ицына) по библиографии таков, что надо съездить в Ленинград[14]. Дело так и ставится. Вероятно через неделю поеду. Его план распределения несколько иной чем у меня. Рудинский[15] прислал Д(митрию) И(вановичу) письмо, а также послал и Вам. Его возражения: «перспектив на исследование в Мезное-Дегтяреве[16] и есть и нет их. Укрнаука обещала денег, но пока нет уверенности, что будут даны». Он хотел бы в Студенище[17] (Подолия) и [...] в Колодяжьи[18]. Но как выйдет не знает еще. Гісторыя А(ляксандра) С(піцына) яшчэ цягнецца. Шлём с Дз(мітром) І(ванавічам) Даўгяла[19] шчырае прывітаньне і лепшыя пажаданьні. Сяр(гей) Дуб(інскі)[20].

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/5*

**II.**

**Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Гомель[21]-Вакзал да запатрабавання. Дастаўлена 09.07.1927 г.**

8/VII.1927 (па штэмпелі на канверце)

Дорогой Кон(стантин) Мих(айлович).

[12] Сяргей Міхайлавіч Замятнін (21.04.1899-5.11.1958) — расійскі савецкі археолаг, даследчык эпохі палеаліту Усходняй Еўропы і Каўказа.
[13] Глеб Анатольевіч Бонч-Асмалоўскі (3.11.1890-1.11.1943) — расійскі археолаг і антраполаг, даследчык эпохі палеаліту, паходзіць з Беларусі.
[14] Ленінград — сучасны горад Санкт-Пецярбург у Расійскай Федэрацыі.
[15] Міхаіл Якаўлевіч Рудзінскі (14.10.1887-23.06.1958) — украінскі савецкі археолаг, даследчык каменнага і бронзавага часу Украіны.
[16] Мезнае-Дегцярова — археалагічны помнік позняга палеаліту, размешчаны каля сучаснага сяла Мезін Ноўгарад-Северскага раёна Чарнігаўскай вобласці Украіны.
[17] Студзенішча — населены пункт не лакалізаваны.
[18] Каладзяж’е (укр. Колодяжне) — сяло ў Ковельскім раёне Валынскай вобласці Украіны.
[19] Дзмітры Іванавіч Даўгяла (1.11.1868-04.1942) — беларускі гісторык, спецыяліст па Метрыцы ВКЛ, супрацоўнік Інстытута беларускай культуры (ІБК).
[20] Сяргей Антонавіч Дубінскі (25.10.1884-27.08.1937) — беларускі археолаг, народжаны ў в. Наройкі Бельскага павета на Падляшшы; даследчык сярэднявечных помнікаў, супрацоўнік ІБК.
[21] Гомель — абласны цэнтр, Рэспубліка Беларусь.

Заказное получили. В Минске[22] я с 29. Гоню библиографию во всю, но все равно опаздываю. Идёт наборка в типографии моей статейки о банцер(овских) раскопках. Спицын в начале месяца проехал в Киев[23] и др(угие) музеи, а числа 22-23-24 будет в Минске соблазненный мной на разгляд вещей прошлог(одних) раскопок (особенно Ваших!). Для Бердыжа[24], если Зам(ятнин) не освободится, Спицын указывает Конст(антина) Петр(овича) Соколовского[25] (не Ваш-ли это Сосновский!) аспирант АИМК[26], к(ото)рый работает или будет работать в Сибири, а потом к нам мог бы приехать. Во всяком случае если не один из них, то тогда Бадера[27] надо кликать. Эберта IБК зазывает на август. Но если никого не заполучим, то тогда сами копаем, а то иначе впредь ни копейки не дадут [...]. Если будете возле Кричева[28], то загляните в д. Соломичи (кажется так). Там есть студ(ент) Свадковский Виталий Семенович[29] — этнограф и дельный парень. Может привлечь его к работам, познакомить с нашими священно-действиями и зачислить на Бердыж. Павло Василевич[30] уехал на месяц, зь Міньска уедет числа 24-25 в Одессу[31]. Я же до приезда А(лександра) А(лександровича) С(пицына) большую часть банцер(овских) раскопок хочу окончить, а затем посмотрим, что будет вообще и с Н(овым) Быховым[32] и с Бердыжом. Пописывайте, держите сувязь мацней і шчыльней. Усяго добрага. Увесь Ваш Сярг(ей) Дубінскі).

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/7*

### III.
### Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Гомель-Вакзал да запатрабавання. Дастаўлена 14.07.1927 г.

22 Мінск — сталіца Рэспублікі Беларусь.
23 Кіеў — сталіца Украіны.
24 Бердыж — археалагічны помнік, познепалеалітычная стаянка каля в. Падлужжа Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці.
25 Канстанцін Пятровіч Сакалоўскі — расійскі савецкі археолаг, асоба мала нам вядомая.
26 АИМК — Акадэмія гісторыі матэрыяльнай культуры ў Ленінградзе, СССР.
27 Отта Мікалаевіч Бадэр (29.06.1903-2.04.1979) — расійскі савецкі археолаг, даследчык каменнага і бронзавага часу.
28 Крычаў — раённы цэнтр Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
29 Віталій Іванавіч Свадкоўскі — асоба мала нам вядомая.
30 Паўло Васілевіч — асоба мала нам вядомая.
31 Адэса — абласны цэнтр, Украіна.
32 Новы Быхаў — вёска ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

12/VII. 1927

Дорогой Константин Михайлович

Пишу на удачу, авось Вы еще в Гомеле. Есть ответ от Замятнина. Запрашивает о наших условиях, [...], не то нет, но вероятно поедет. Ответили мы с Д(митрием) Ив(ановичем), прося скорого ответа, назначил срок раскопок на 15 авг(уста), а если он сможет, то и с 5-го. По палеолиту он предполагает поработать — Ильской[33] на Кубани и Гагарине[34] — Тамбовской. Получив ответ, сообщу на Гомель и Ст(арый) Быхов[35] Вам. Хлопцы из Турова[36] прислали восторженное письмо: есть и медный век и что-то вроде микролитической мастерской, копали бедные курганы, городища дают пока славянские черепки. Вернутся к 20. Жду новостей для Банцеровщины[37].

Ос[...] я купил (пока как бы для себя) за 2 р 50 коп. Видел в Л(енин)граде очень ценную книгу: Stocky, Ales, Pecarek. Zeme ctske. Vek kamenny. Praha 1926, str. XI+198_80 obrasov+ CXXIII tablicy+6 kart. Буду стараться добыть ее. Про Старосельски клад [...]! обещали послать Вам справку-ответ. [...] орнамент по терминологии Спицина сетчатый. Рекомендую под Кричевом на неолит о походе своем отыскать в д. Сокольничи[38] (а не Соломичи, как писал я) познакомиться с Виталием Семеновичем Свадковским — хороший парень и в археологии будет пригоден. В экспедицию просится Ющенко[39] + 2 гомельских краеведа. Табор выйдет приличный, с бердыжским [....] придется. Д(митрий) Ив(анович) уедет числа 24-25 в Одессу. Пока же от него і ад мяне шчырыя прывітанні. С(ергей) Д(убинский).

(левы маргінэс) Адрес Сергея Николаевича Замятнина — Вас(ильевско)островская 10 линия дом 15 кв. 7.

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/9*

[33] Ільская — археалагічны помнік, сярэднепалеалітычная стаянка каля пасёлка Ільскій Северскага раёна, Кубанскі край, Расійская Федэрацыя.

[34] Гагарына — археалагічны помнік, верхнепалеалітычная стаянка каля в. Гагарына Задонскага раёна, Ліпецкая вобласць, Расійская Федэрацыя.

[35] Стары Быхаў — сучасны горад Быхаў, раённы цэнтр Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[36] Тураў — горад у Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[37] Банцараўшчына — археалагічны помнік, гарадзішча VI-VIII стст. каля чыгуначнай станцыі Ждановічы Мінскага раёна, Рэспубліка Беларусь.

[38] Сакольнічы — вёска ў Крычаўскім раёне Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[39] Іван Харытонавіч Юшчанка — беларускі археолаг, даследчык сярэднявечных помнікаў на Гомельшчыне.

## IV.
## Паштовая картка. Адрас атрымальніка: Карма[40] Магілёўская акруга, да запатрабавання. Дастаўлена 04.08.1927 г.

31/VII. 27. (па штэмпелі на канверце)

Дорогой Константин Михайлович.

Все открытки и письмо получил. Шлю вскоре подробное письмо. Сейчас я изображаю всю Комиссию, без дел и ключей. Ищу геолога, пока в ВСНХ[41] есть 2 геолога из Москвы[42]. М(ожет) быть кого либо залучу. Жаль, что Вы не заручились геологом, а могли это сделать ...[43], где же теперь найдем Мирчинка[44]? Попробуйте его пригласить на 7-10 дней в конце авг(уста). Эберта не будет. Ему даже не писали. Замятнин ответа еще не дал. Спицын все выяснил и до среды (3 августа) я буду иметь окончательный ответ. Если З(амятни)на не будет извольте быть руководителем Вы, более никого из иностранцев звать не будем. Ваше мнение о приглашении Лявданского[45] в состав нашей экспедиции каково будет? Коваленя[46] отказался решительно от участия. Деньги будут порциями по 400-500. Что надо закупить и где, в Минске или в Гомеле? Если найду геолога, то начнем копать между 7-10 августа. Спицын пробыл 6 дней, в восторге от В(ашыих) находок — «это целое важное открытие». Банцеровку раскопал я уже. Есть кам(енная) площадка с 28 горшками (из них 10 целых). В центре городища кучка крашенных костей и среди них 31 кремневое орудие (магазин какой-то!) Откуда наберем студентов? Разве гомельских и педогогов окрестных. Могли бы без меня приехать — денежную сторону уладили бы. Всего лучшего С(ергей) Д(убинский).

(левы маргінэс): 31/VII.27 Ваше Чечерское письмо получил только 23, по возвращении из Банцеровщины.

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/10*

40 Карма — раённы цэнтр Магілеўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
41 ВСНХ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі СССР у 1918-1932 гг.
42 Масква — сталіца Расійскай Федэрацыі.
43 Шматкроп’е ў рукапісе.
44 Георгій Фёдаравіч Мірчынк (25.04.1889-10.04.1942) — беларускі геолаг, супрацоўнік ІБК.
45 Аляксандр Мікалаевіч Ляўданскі (29.08.1893-27.08.1937) — беларускі археолаг, даследчык помнікаў ранняга жалезнага часу і сярэднявечча, супрацоўнік ІБК.
46 Аляксандр Дзмітрыевіч Каваленя (5.03.1895-27.08.1937) — беларускі археолаг, даследчык сярэднявечных помнікаў, супрацоўнік ІБК.

**V.**

**Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Прапойск[47] да запатрабавання. Дастаўлена 26.08.1927 г.**

21.08. 1927 (па штэмпелі на канверце)

Константин Михайлович!

Получено от Замятнина сообщение, что к 1 сентября сможет в Гомель приехать. Блюдуха[48] отказался, пишу другим геологам. Вероятно в Гомель приеду числа 30. Все-таки будем копать во чтобы то ни стало. Трудно с шеллаком нет в Минске. П. Василевич привезет из Москвы с кило. Возможно тогда Вам пришлю телеграмму на всех. Д(митрий) Ив(анович) приезжает вскоре (до 1-го). Всего лучшего. До встречи.

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/3*

**VI.**

**Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Прапойск. Дастаўлена 28.08.1927 г.**

26/VIII. 1927 г.

Дорогой Константин Михайлович!

Я прочитал Ваше письмо Д(митрию) И(вановичу), который сегодня (26) вернулся. От имени Вашего детища Бердыжа заявляю Вам: стыдитесь! Ай, яй как нехорошо малодушничать! Возможно, что я приеду в Гомель 31, а сбор т.е. приезд Замятнина и сотрудника-фотографа состоится 1-го. Остановлюсь в доме Рабпроса, или в Музее, или у Ющенки. Пока геолога еще нет, но добудем откуда-либо. Блюдуха отказался, а от Лунгерсгаузена[49] пока нет ответа. Зовем и Лявданского. Крик, маловерие. До скорой встречи! Шелак нам вероятно купит П. Василевич, который

[47] Прапойск — сучасны горад Слаўгарад, раённы цэнтр Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[48] Мікалай Фёдаравіч Бліадуха (10.12.1878-13.11.1935) — беларускі геолаг, супрацоўнік ІБК.

[49] Фрыдрых Вільгельмавіч Лунгерсгаўзен (12.05.1884-11.05.1960) — беларускі геолаг, супрацоўнік ІБК.

покидает Минск и будет служить где-то в других краях. Ваш С(ергей) Д(убинский).

(левы маргінэс): Сборник Гіст(арычна)-археол(агічны) привезу Вам, а гонорар без доверенности не дают

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/8*

## VII.

## Паштовая картка. Адрас атрымальніка: г. Мсціслаўль[50], да запатрабавання. Дастаўлена 07.10.1927 г.

6.10.1927 г. (па штэмпелі на канверце).

Паважаны К(анстанцін) М(іхайлавіч)!

Я послал чрез Ющенку в Гомель телеграмму Вам, заказное гомельский вокзал. Суть вот в чем. Надо дописать росписку Федора Андреевича[51] это раз, расписку на Вас на 15 руб 90 с чем-то (дорога), расписку на ведомости (расчет Вам дается по 2/Х.) на 35 рублей, сверх того пришлите документы на чыгуначную пересылку вещей. Гонорар зь печенем 24 пошлем. Плохо сделали, что из Мозыря[52] снова не приехали. Это было очень важно. Если приедете, то приезжайте без церемонии прямо ко мне, ибо иначе так с Вами поссорюсь, что палеолиту даже будет страшно. Секретарем у нас будет Лявданский, я-же остаюсь в прежнем чине...[53] В Быхове я застал последний день того-же, что было в прошлом, но уже без плуга. Копал и я, но неудачно, нет «счастливой руки» Вероятно пошло бедное место. С(ергей) Д(убинский).

(левы маргінэс) Из-за Вас задерживается вся «грашовая справаздача»

(правы маргінэс) Надо было не 700, а 1000 просить, дали бы

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/6*

[50] Мсціслаўль — раённы цэнтр Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[51] Фёдар Андрэевіч ... — асоба нам мала вядомая.

[52] Мазыр — раённы цэнтр Гомельскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[53] Шматроп'е ў рукапісе.

**VIII.**
**Ліст 10/X.1927 г. на 4 аркушах.**

Дорогой Константин Михайлович

Я Вас ищу по всей Белоруссии и не знаю, где Вы, а Вы мне страшно нужны. Прежде всего позвольте Вам сказать, что Вам следовало бы явиться в Минск, ибо без Вас и Вашей «заявы» самотеком нигде на место нельзя устраиваться. Но сегодня за подписью Друщица[54] и Лявданского в Президиум подана заява о предоставлении Вам места в ІБК[55], где они мотивируют, как следует, свое заявление. Сегодня новы Навуковы Сэкрэтар А. М. Лявданский приехал и охотно взялся за это дело. Надо думать, что в результате уже состоявшихся переговоров с Старшынёй ІБК Ваше место в ІБК обеспечено...[56] Так где-же Вы и что не едете? Палеолит сиротливо в ящиках лежит ждет...[57] Ющенко прислал сообщение, что он назначен зав. [...] в [...]. Теперь свое: не забудьте, даражэнькі, что без Вас я не могу сдать справоздачи, а меня приперают очень сильно и придется в субботу сдать ее ценой потери из моего кошелька до 70 рублей. И вот каким образом: надо дописать Вашей рукой в расписке Федора Андреевича число поездок и сумму уплаченных ему денег за подводы в Чечерск, ибо в расписке этого нет. Это на 15 рублей. Нет от Вас расписки на 15 р. 97 к. (Дорога Ваша: Гатнино[58]-Гомель-Горовки[59]-Гомель-Минск и Цна[60]). Нет документов на подводу в Узду[61], и прочих на закопку стоянки (т.е. из данных Вам 40 рублей на 32 рубля). Теперь вот что: т(ак) к(ак) я по приказу зачислен явившимся с 3 октября и у Сербова[62] ничего не получить, то мне полагается получить 35 р. (по 5 р. с 26 по 2/X). Вам также полагается получить эти 35 рублей, во-первых потому что Вы как участник экспедиции, состоящий на содержании ІБК, ждали телеграммы (послали 30), затем заканчивали раскопки и т.д. И Вы и Я должны быть расчитаны по 2 октября. Поэтому я и послал Вам на подпись ведомость

[54] Васіль Данілавіч Друшчыц (8.02.1886-20.12.1937) — беларускі гісторык, супрацоўнік ІБК.
[55] ІБК — Інстытут Беларускай культуры, вышэйшая шматгаліновая навуковая ўстанова Беларусі, існавала ў 1918-1928 гг.
[56] Шматкроп'е ў рукапісе.
[57] Шматкроп'е ў рукапісе.
[58] Гатніна — населены пункт не лакалізаваны.
[59] Гараўкі — населены пункт не лакалізаваны.
[60] Цна — вёска ў Папярнянскім сельсавеце Мінскага раёна, Рэспубліка Беларусь.
[61] Узда — раённы цэнтр Мінскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
[62] Ісак Абрамавіч Сербаў (25.05.1871-21.01.1941) — беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг, супрацоўнік ІБК.

заказным письмом в Гомель. Но если Вы ее не получили и не отослали, то составьте ее сами так.

В(едамасць) на аплату чл(ену) арх(еалагічнай) экс(педыцыі) ІБК па раск(опках) палеа(літычнай) ст(аянкі) каля ...[63] за час з 26 вер(асня) па 2 кастр(ычніка)

| № | Фам. Імя | Кольк. дзён | Сутачных у дзень | Усяго выдаць | Росьпісі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Палікарповіч | 7 | 5 | 35 | |
| 2 | Дубінскі | 7 | 5 | 35 | |

Падпішу Я.

Калі прыедзеце, тады і разьлічымся да астатку. Гонорар з печенем Д(змітры) І(ванавіч) послал в Мстиславль. Не будут-ли эти деньги вновь [...] путешествовать?

На Мозырь конечно ничего не дано и писать не полагается.

Теперь вот что. Под какими №№ ящики, где находится инвентарь и в том числе мой савочек и прочие вещи. Все получено — по внешнему виду — целым, а что внутри, какая там где-либо каша — не ведаем. Федюшин[64] уже разговаривает о вскрытии ящиков и хочет их к себе в музей. Пока не говорят у нас ни бэ ни мэ на счет судьбы и места для Бердыжа. В Быхове при мне извлекли одну урну, но уже спешно и в сумраке вечером. Есть в коллекции почтенного Авринича[65] несколько аніхолітоў (?), найдены им «глиняные» площадки но к счастью при нас (прослойки [...])

Как результат беседы с ними в Сов. Белорусии (перечеркнуто) «Рабочем» есть любопытная заметка № 54, рядом с перечнем пограничных мест на стр. 6 (кажется).

Итак до скорой встречи, заезжайте конечно ко мне, я Вам и кроват уже поставил...[66]

Всего лепшага. Ваш С(ергей) Дубинский.

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/2*

[63] Шматкроп'е ў рукапісе.

[64] Анатоль Уладзіміравіч Федзюшын (11.05.1891-10.03.1972) — беларускі заолаг і арнітолаг, супрацоўнік ІБК.

[65] Аўрыніч — асоба нам мала вядомая.

[66] Шматкроп'е ў рукапісе.

## IX.

## Паштовая картка. Адрас атрымальніка: м. Юравічы[67] да запатрабавання. Дастаўлена 13.07.1929 г.

12/VII.1929 (адпаведна штэмпелю на канверце)

На Вашае шчасьце я затрымаўся на 2 дні ў Менску. 9-га А(ляксандр) Н(ікалаевіч) паехаў у Слуцак[68] з хлапцамі. Няўдала хадзілі на пошту для перагавораў абодва. Атрымана абедзьве тэлеграмы. Бялуга[69] не дае дадатковых, можаце перараспредзеляць!! Такім чынам я згадзіўся даць часова Вам 200 з 300 вызначаных на досьледы нашы каля Менску. Можаце урэзаць з Бердыжа, калі Маз(ыр) і Юр(авічы) палеоліт, больш абяцаюць. А можа ў пятніцу Гаращеня[70] дасьць якіх-небудзь грошай, тады адашлю. Другая тэлеграма, гэта «номер». Самі прыватным лістом даручылі К(авале)не адаслаць Новікаву[71] пасылкі, ён падрыхтаваў, а праз пару дзён адаслалі... Патрабуйце «берд(ыжскія) рэчы» у Новікава. Шэлак, нажаль, Каваленя забыўся адаслаць... Яго вышлю, на сьпірытус Бялуга не дае дазволу выправіць паперы і не дазваляецца перасылаць па пошце, можа ў Мазыры набыць!!! З бутэльку, 2 [...] в пасылку. Ці ж можна усе так раптоўна рабіць? Знайсьці адно, а капаць безадкладна нельга — не трэба падрыхтавацца. І хаця я на Вас сярдзіты за мае затрыманьне, але вельмі рад, што Ваши «заветные думы» осуществились. Это очень «хорошо». Мірчынг быў у Менску, цяпер паехаў на працу кудысьці в БССР. Была ў нас у гасьцях ученица Стоцкого[72] з Прагі[73]. Еслі надо, выпісвайце Іну[74] (Госпит(альная) ул. 30, Громыко). Ее мы не взялі. В Слуцке будзем з тыдзень... Выеду 12-га туды. Надрукавана 16 аркушаў зборніку. Прывет Алесю. Паздравляю. Ура! Ура! С(яргей) Д(убінскі)

(левы маргінэс): 2/VII памер мой брат[75] ... много возні было

(правы маргінэс): з утра 11-га у нас сьвяткуюць і 8 А(ляксандр) Н(ікалаевіч) святкуе.

[67] Юравічы — археалагічны помнік, палеалітычная стаянка каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[68] Слуцк — раённы цэнтр Мінскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.

[69] М. І. Бялуга — супрацоўнік Прэзідыума ІБК; асоба нам мала вядомая.

[70] Гарашчэня — супрацоўнік ІБК; асоба нам мала вядомая.

[71] Новікаў — асоба нам мала вядомая.

[72] Альбін Стоцкі — чэхаславацкі археолаг, даследчык каменнага часу Цэнтральнай Еўропы.

[73] Прага — сталіца тагачаснай Чэхаславакіі.

[74] Гэта Іна Іванаўна Рытар — асоба нам мала вядомая; удзельніца раскопак Бердыжаўскай стаянкі ў 1918-1929 гг.

[75] Асобу брата пакуль не атрымалася высветліць.

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/4*

ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА
POŜTA KARTO

Куда: м. Юрэвічы

Мазырскай акругі

Да напрадавальні

Кому:

К. М. Палікарповічу

ЮКМ 10712/4

Паштовая картка Сяргея Дубінскага да Канстанціна Палікарповіча ад 12 ліпеня 1929 года з Мінска.

## X.
## Ліст ад 31.03.1936 г. на 3 аркушах.

31/III. 36 г.; получил 2/4 1936 г.

Многоуважаемый Константин Михайлович!

Я очень благодарен Вам за открытку. Любезное в ней сообщение и о долгожданном здесь приезде и о том, что старый Довгялло вдруг решил раскошелиться. Сначала, впрочем, вот о чем. Я делаю Вам вполне серьезное и резонное предложение: приехать прямо ко мне и у меня проленинградствовать отпущенное Вам Минском время, кровать есть, тюфяк есть, подушки есть, одеяла суть и т.д. Если надо что захватить, то это наволочку, у меня все изорвались и чистых пока deest, одеяло если обычно возите, то возьмите легкое. Порядок въезда Вашего я рисую себе так: если поезд приходит утром до ½ 11-го, то по телефону с вокзала Вы звоните на Петрогад(скую) АТС (буква В) 113-51 и тогда сговариваемся, если меня нет, то, ничем не смущаясь, едете с чемоданом на Песочную 16а кв 2, если Вы на легке, то пройдя с вокзала на остановку, садитесь на 22 № или 15 трамвай или другой (...), но с тем чтобы пересесть на 1, 2, 3, 31, последние два удобнее — они останавливаются на углу Кировского и Песочной и Шагелта (?); войдя в темный наш коридор вправо от двери в углу, за штативом, в колошине или бумажке находится ключ от комнаты, открываете и действуете: моетесь, кипетите чай, спите, лежите и т.д. Уходя, ключ клодете на старое место. Вечером конечно уже увидимся, если дверь входная будет заперта, позвоните два раза в левый звонок (Кузнецова и Сесюкова) и Сезам откроется. Ну как Вы находите мой проект? Осуществление его потребует от Вас небольшой вступительной контрибуции в виде «малютки» (1/4 л. 40 градусов), також-те и при отъезде выкупной платеж в том же роде. А впрочем это шутка!. Без шуток серьезно предлагаю остановиться у меня. — Стеснить меня Вы не стесните, ведь и видеться то будем только по вечерам и утром. — Какое же тут стеснение? Человек я одинокий, а гостю буду только рад. И так соблазняйтесь!

В четные дни я отправляюсь в архив с 4 дня и сижу до 11-ти, в нечетные должен быть там с 11 до 6 вечера, но домой являюсь поздно. Вчера встретился с Замятниным, он ждет Вашего приезда, просит напомнить о привозе неготивов, и сам собирается написать. Теперь о второй части — чисто минского моего письма. Сначала всем привет: А(лександру) Н(иколаевичу)[76], А(лександру) Д(митриевичу) Ковалени, Сербаву, Гринблату[77], Слободазину[78] (?), Дмитрию Ивановичу[79], Ольге

Ивановне Одляницкой[80], Юлии Осиповне Бибило[81], и другим: Свиридову[82] например и Станкевичу[83] м(ожет) б(ыть) и еще кому кто помнит меня и плохим не вспоминает. Ал(ександру) Ник(олаевичу) скажите, что пусть чрез Вас пришлет точный более или менее проспект своих пожеланий: что, о чем, с чего начинать и в каком объеме, а то у меня осталось несколько неясное впечатление, что-же важнее монеты, киоты или раскопки, перечень и указание мест и памятников? Не может ли он через Вас прислать 40 рублей за карточки. Посылаю Вам расписку и на всякий случай еще клочек с подписью, дабы написать Вы могли этот текст, который признан будет правильным.

Очень просил бы я Алеся Дзмитриевича написать мне, во первых где он живет и не на Красном ли переулке возле Госбеза, пусть спросит у кого про его двоюродного брата Ивана Габца[84] и про моих двоюродных сестер[85] в Старом Осколе[86]? Второе — и он бы Олесь, сын Митриев, не поленился бы написать про себя, кое что, а попутно и о том, что у него хранится (и хранится ли) из моих вещей (т.е. книг и др(угого) барохла), которое не худо бы хотя бы частями мне извлекать начать из Минска. Просьба ко всем Вам — пришлите мне (а Вас прошу привезти) что-нибудь из того что по археологии БССР изволила Секция напечатать с августа 1934 года, или же хотя бы библиограф(ический) перечень дабы я мог «сие ведать».

Кончаю и кончаю тем с чего начал: приезжайте прямо ко мне, и будет это хорошо....[87] И так жду! Жму Вашу и у всех других руки археологические и неархеологические. Желаю всего лучшего. С(ергей) Дуб(инский).

*Брянский областной краеведческий музей (Российская Федерация); ЮКМ 10712/1*

[76] Гэта Аляксандр Мікалаевіч Ляўданскі.
[77] Майсей Якаўлевіч Грынблат (29.03.1905-4.07.1983) — беларускі савецкі этнограф і фалькларыст.
[78] Слабадазін — асоба нам мала вядомая.
[79] Гэта Дзмітры Іванавіч Даўгяла.
[80] Вольга Іванаўна Адляніцкая — асоба нам мала вядомая.
[81] Юлія Восіпаўна Бібіла (10.01.1897-9.12.1974) — беларускі бібліёграф; супрацоўніца ІБК.
[82] Свірыдаў — асоба нам мала вядомая.
[83] Станкевіч — асоба нам мала вядомая.
[84] Іван Габец — асоба нам мала вядомая.
[85] Намі пакуль не высветлены асобы стрыечных сясцёр Сяргея Дубінскага.
[86] Стары Аскол — горад у Белгародскай вобласці, Расійская Федэрацыя.
[87] Шматкроп'е ў рукапісе.

